# МАРЫЯ ФІЛІПОВІЧ



# МАДОННА З ВЫСЕЛКАЎ

Першая
кніга
празаіка

# МАРЫЯ ФІЛІПОВІЧ



# МАДОННА З ВЫСЕЛКАЎ

Апавяданні



Мінск
«Мастацкая
літаратура»
1984

# Дзень нараджэння

Майка сядзела за сталом перад разгорнутымі падручнікамі доўга, гадзіны дзве, а можа, і болей, але карысці ад таго было няшмат.

Была позняя вясна, шчодра прыпякала сонейка, двары і завулкі зрабіліся цеснымі ад зелені, а неба недасягальна высокім і чыстым. З палісаднікаў на вуліцу прабіваўся пах сырой зямлі і таполі. Але самым моцным, непераможным быў водар чаромхі.

У акно Майцы відаць толькі шэры вугал суседняга дома ды сіняя латачка неба. Жывуць яны на восьмым паверсе вялізнага дома. Маладыя танюткія таполі ледзь дастаюць кучаравымі галовамі да трэцяга паверха. І ніякія гукі і пахі не хвалююць дзяўчынку. Шум машын на вуліцы, звонкія галасы дзетвары на дзіцячай пляцоўцы, музыка, што чуецца з вокан суседніх кватэр,— усё гэта было такім звычайным і будзённым, што ніяк не закранала Майчынага слыху. І яна не магла паверыць, што гэты незвычайны дзень у сярэдзіне мая, дзень яе нараджэння, пройдзе, як праходзяць усе буднія дні.

Праз няшчыльна зачыненыя дзверы з кухні чутны галасы маці і бабы Веры. Яны становяцца то гучней, гэта калі маці пераходзіць з кухні ў ванну альбо ў свой пакой, то заціхаюць. Апетытны пах смажанага запоўніў кватэру. Жанчыны рупяцца як да вялікага свята. Але дзяўчынцы ад гэтага радасці мала. Ёй не дазволілі запрасіць сваіх сяброў. Будзе толькі адзін госць — Кірыла Пятровіч. Але гэта не Майчын госць. Майчыным можна лічыць хіба што бабу Веру.

Баба Вера з імі не жыве. Яна засталася ў сваёй маленькай хаціне на Галубоўцы, дзе некалі яны жылі ўсе разам. Тады яшчэ з імі жыў бацька. Пайшоў бацька ўжо з новай, кааператыўнай кватэры, з'ехаў некуды. І маці і баба Вера былі задаволены, што ён не стаў адсуджваць сваю частку кватэры, а таму і не сталі спаганяць з яго аліменты на дачку.

Майка не разумее, навошта ім была гэтая кватэра. Жылі б сабе ў бабчынай. Там у іх свой садзік. Вішні як зацвітуць, нібы завіруха пад вокнамі, а пчолы ў кветках гудуць і гудуць... Гэтую музыку Майка, здаецца, слухала б бясконца. І жыццё тады напаўнялася для яе нейкім асаблівым сэнсам.

А яшчэ растуць там у садзіку кветкі і розная гародніна. Усё гэта баба Вера носіць на рынак. Калі прыязджае да іх у госці, то таксама нешта прывозіць: ранняга радысу, цыбулі, а часам і кветкі.

— Мусіць, на рынку ніхто і дарма не захацеў узяць гэты венік,— з раздражненнем кажа ў такіх выпадках маці.

Майка збірае і ставіць іх у ваду. Яна ўжо не раз чула, што ў іншых бацькі і на кватэру даюць грошы, і на мэблю... А баба Вера ўсё копіць. Толькі і радасці, што цыбулі прывязе ці яблык...

Майцы непрыемна слухаць такое. Ёй ніколі не прыходзіла ў галаву, што яе бабуся скнапная і нядобрая. Але слухаючы з дня ў дзень маці, яна і сама пачала думаць, што тая і сапраўды не збяднела б, калі б купіла ёй прыгожыя новыя туфлі альбо сукенку... А то прыедзе і толькі бурчыць на іх: «Вось не едуць, забыліся... Дапамаглі б у гародзе што зрабіць ці садавіну на рынак занесці... Усё прападае...»

Маці тады злавалася, дакарала старую, што няхай не возіць — магазін побач...

Баба Вера ўздыхала, хітала галавой... «Што ж, багатырка... Накупляешся...» І непрыкметна знікала.

А праз які час зноў прыязджала. Цяжка дыхаючы, прыносіла яблыкі, грушы, памідоры... Былі яны смачнейшыя, чым з магазіна.

Маці з гадамі станавілася ўсё больш неўраўнаважаная, раздражнёная. Яна то гадзінамі зацята маўчала, пагрозліва насупіўшы бровы, то прыдзіралася да дзяўчынкі, усчынала сварку. Пасля доўга плакала ў падушку, але Майцы не шкада было яе, і ад гэтага рабілася сорамна і прыкра.

У апошні час маці павесялела. Баба Вера адшукала ёй жаніха, ужо ладзіліся да вяселля, і ўсе гэтыя дні маці хадзіла як вінаватая перад Майкай.

Вось і цяпер... Гамоняць, вядома ж, пра жаніха... Старая, як заўсёды, хваліць яго, маці сумняваецца...

— Стараваты ён для мяне,— слаба пярэчыць маці.

— Вой, дзе ты бачыла! — шчыра дзівіцца баба Вера.— Мужчына сама што ў гадах... Ды і ты не маладуха... Табе чалавек патрэбны для жыцця, а не для пацехі...

— Нешта няма ў мяне да яго веры... Чалавек аднекуль з-за свету... Можа, у яго там і сям'я?.. А тут шукае прытулку.

— Э-э-э, пустое ў цябе ў галаве... Ты б паслухала лепш, што Клаўдзя Артураўна кажа...

У Клаўдзі Артураўны Кірыла Пятровіч кватараваў, і яна вельмі хваліла матчынага жаніха...

— Учора ў нас у абутковым туфлі давалі... Чэхаславацкія, замшавыя...— крыху памаўчаўшы, кажа маці.— Мне ў старых сорамна куды паказацца...

— Нічога... Хутка справіш абновы. Грошы ў Кірылы Пятровіча ёсць... Клаўдзя Артураўна казала... Вельмі ашчадны чалавек... Капейкі не прап'е, не прагуляе...

— Ну, бабуся, развяла філасофію,— узлавалася Майка. І прасунуўшы галаву на кухню, праспявала тоненькім, фальшывым фальцэтам:

Як павезлі мяне ў сваты,
Ды без мамы, ды без таты...

Старая заўсміхалася ёй, маці пакрыўджана падціснула вусны. Нават тут, на кухні, выгляд у маці святочны. Валасы акуратненька выкладзены ў цырульні і шчодра спырснуты лакам. Сукенка пад фартухом шаўковая, вусны падмаляваны... Хутка павінен прыйсці Кірыла Пятровіч.

Ад маці моцна пахне духамі, і Майка, абмінаючы яе, садзіцца на маленькае складанае крэсельца бліжэй да бабусі.

— Ты ўрокі вывучыла? — пытаецца маці.

Майцы думаецца, што ўрокі яе зусім не цікавяць. Хоча толькі выправіць хутчэй з кухні, каб зноў пагаманіць пра свайго жаніха.

— Не, не вывучыла. А навошта іх вучыць?

— Ты не блазнуй. Не вывучыла, дык ідзі і вучы. Мы і без цябе тут управімся...

— Хай адпачне дзіця,— заступілася баба Вера.— І так схуднела ад навукі.

— Бабуся — разумніца. І кажа праўду. Навука для дзяўчыны не галоўнае. У ваш час якіх дзяўчат любілі?... Ну, калі ты была маладая?

— Якіх?.. Вядома, якіх... Сціплых, працавітых...

— Ты мне, бабуся, казкі не кажы тут... Я ўжо не маленькая... І сто гадоў таму, і дзвесце, і ў наш час любілі і любяць дзяўчат прыгожых. Прыгожых і добра апранутых.

— Майка, што за манера ў цябе пра ўсё на свеце гаварыць так катэгарычна?

— А што, мамачка, можа, ты думаеш інакш? Можа, ты мне яшчэ скажаш, што галоўнае для дзяўчынкі добра вучыцца, слухацца маму, быць сціплай... А потым паступіць у інстытут, атрымаць дыплом і быць шчаслівай... А прыгажосць, моднае адзенне,— усё гэта глупства... А навошта ж ты, вучаная, з дыпломам,

прыбіраешся і малюешся, калі чакаеш Кірылу Пятровіча?.. У яго ўзросце, мусіць, усё роўна, якая з выгляду жанчына?

Маці стаяла каля пліты збянтэжаная, безупынна торкала відэльцам у катлеты, не ўсведамляючы, што яны даўно ўжо перасохлі, гараць... Майка. Яе ціхая, паслухмяная Майка. Што з ёй робіцца такое?..

А Майка і сама не разумела, што з ёй робіцца... Неспакой, незадаволенасць сабою прыйшлі да яе разам са звонкім бойкім капяжом, аглушальнымі крыкамі гракоў на старых ліпах, моцным, прэлым пахам адталай зямлі...

Яна ішла ў той дзень у чародцы дзяўчат, бесталкова гаманлівых, радасна ўзбуджаных вясною, жмурыла вочы ад зыркага красавіцкага сонейка, беспрычынна смяялася і нешта голасна гаварыла, не слухаючы іншых, як і яны не слухалі яе...

І раптам яе нібы таўхануў хто ў грудзі. У здзіўленні спынілася яна перад вітрынай галантарэйнага магазіна. У зацемненым шкле адбівалася фігурка дзяўчынкі, даўгалыгай і даўгарукай, у куртатым старэнькім паліто. Тоненькая шыя квола бялела над каўнерыкам, вязаная шапачка з пампончыкамі надавала ёй выгляд ляснога гноміка. Майка не адразу зразумела, што гэтая дзяўчынка — яна. А як зразумела — спалохана агледзелася па баках. Ці бачыў хто яе такую?.. Яна не стала даганяць сяброўак, звярнула ў правулак і, саромеючыся людзей, пабегла дадому.

Дома яна доўга і ўважліва разглядала сябе ў люстэрка. Нібы ўпершыню ўбачыла сваё старэнькае паліто, з якога яна даўно ўжо вырасла. Верхні гузік у паліто адрозніваўся ад астатніх, на правай кішэні пляма... Убачыла просценькія туфлі на шнурочках на нізкіх шырокіх абцасах, ногі ў якіх выдавалі яшчэ

больш танклявымі і доўгімі... І вусны на бледным, абсыпаным вяснушкамі твары самі па сабе склаліся ў горкую складку.

Яна зачынілася ў сваім пакоі і некалькі гадзін узапар праляжала нерухома на канапе, гледзячы ў столь. Няўжо яна і сапраўды гэткая брыдкая?.. І ўсе бачылі яе штодня, і бачылі гузік на паліто, які адрозніваецца ад іншых?..

З гэтага вечара з Майкай нешта здарылася, хаця ніхто і не заўважыў той перамены. Яна па-ранейшаму старанна вучыла ўрокі, але пяцёркі больш не радавалі яе. І кінутае ўслед «зубрылка», на якое яна раней не звяртала ўвагі, балюча аддавалася ў сэрцы. Яна па-ранейшаму хадзіла ў школу ў сваім старэнькім паліто і з пагардай пазірала на бліскучыя скураныя курткі, у якіх фарсілі яе сяброўкі, рабіла выгляд, што яе гэта зусім не цікавіць... І ніхто не здагадваўся, як зайздросціла яна дзяўчынкам, што шапталіся аб нечым таямніча ў куточках. У іх былі сардэчныя тайны, яны атрымлівалі запіскі ад хлапчукоў... А Майцы ніхто не пісаў. Хіба што як кантрольная... Тады з усіх бакоў... Патрабавальна і катэгарычна: «Дай спісаць!»

Майка ўздыхнула і пасунула да сябе бліжэй падручнік па фізіцы. Ён так і праляжаў увесь дзень разгорнуты на адной і той жа старонцы.

Няма ў законах тых закону,
Пакутуй чалавек да скону...

Нават вершы ў гэтую вясну складаліся ў яе сумныя. Пра заўчасную смерць, пра няшчасны лёс, неразздзеленае каханне, пра надакучлівыя дажджы...

Нібы адчуўшы настрой дзяўчынкі, з падаконніка да яе скокнуў кот Мурзік, таксама нешта невясёлы. Апошнім часам ён ужо не спаў, як раней, непрабудна

цэлымі днямі на мяккай канапе, а ўціснуўшыся паміж вазонамі, падоўгу праседжваў на падаконніку, гледзячы праз шыбы на белы свет. І ад таго, што бачыў ён толькі кавалачак неба, ды далёка ўнізе макушкі таполяў, над якімі час ад часу пралятаді птушкі, Мурзік станавіўся яшчэ больш сумным. На вуліцу Мурзіка ніколі не выпускалі, усё сваё жыццё ён пражыў у гарадской кватэры і не разумеў, што ён у няволі. Але, калі ўнізе шапацелі лісцямі дрэвы, трапечучы крыльцамі, пралятаді птушкі, кот непакоіўся.

Мурзік туліўся да цёплых каленяў дзяўчынкі, цёрся пыскаю аб яе востранькае плячо, выгінаўся дугой пад яе пяшчотнымі рукамі і ўрэшце супакоіўся, прыціх, скруціўшыся цёплым пушыстым камячком. У душы дзяўчынкі таксама пачалі аціхаць крыўда і горыч ад размовы з маці на кухні. Яна ціхенька пагладжвала Мурзіка, і ўпершыню ёй падумалася, што Мурзіку ў іх жывецца не так ужо і добра. Што начамі яму, мусіць, сняцца вялізныя дрэвы, цёплыя, нагрэтыя за дзень дахі, па якіх прыемна блукаць уначы, сніцца сапраўдная сімфонія гукаў, якімі поўняцца цёплыя вясновыя ночы...

І дзяўчынка цвёрда рашыла паехаць у гэтую нядзелю да бабы Веры і ўзяць з сабой Мурзіка.

Яна ўявіла сабе ў вузенькім правулку невялічкі дамок, які не адразу і разгледзіш за пышнымі кустамі бэзу і вішанніку. І ў доме, і на двары цішыня, і ў гэтай цішыні раскрываюць свае галоўкі цюльпаны, прабіваецца траўка з-пад плота, а ў шпакоўні пушыстымі грудкамі трапечуць птушаняты.

Ветліва і крыху буркатліва, на манер бабы Веры, заскрыпяць старэнькія веснічкі, прапускаючы Майку ў двор. Яна ціха пройдзе па цвёрдай выбітай сцежцы да ганка, сядзе на шэрыя, абшарпаныя дошкі і, разамлелая ад пяшчотнага маёвага сонейка, будзе слухаць радасны посвіст шпачкоў, дзелавітае дзумканне пчалы.

І недарэчнымі здадуцца ёй перажыванні з-за нейкага там гузіка на паліто ці джынсаў, якіх у яе няма... Увесь свет зноў стане такім, якім бачыла яго Майка да гэтай вясны, просты і ясны... І там, на ганку баб-чынай хаты, напіша яна новыя вершы пра тое, якое дзівоснае і недасягальнае неба над галавой і якая цёплая і пяшчотная зямля... І як хораша жыць на свеце...

Асцярожна, нібы наперад просячы прабачэння, дзынкнуў званок. Так заўсёды званіў Кірыла Пятровіч. Дзынкне і чакае цярпліва. Праўда, доўга чакаць яму не даводзілася ніколі. Маці ў тую ж хвіліну кідае ўсё і ляціць да дзвярэй.

Калі ж сустракаць госця выпадае Майцы, яна знарок марудліва, нехаця цягнецца да дзвярэй, адчыняе, не хаваючы насмешлівай, здзеклівай усмешкі — «жаніх прыйшоў!».

Пачуліся галасы, нізкі, аднатонны, Кірылы Пятровіча, і маці, наўмысна здзіўлены. Майка ўявіла, як Кірыла Пятровіч доўга і старанна выцірае ногі аб палавічок, як пасля, скінуўшы абутак, роўненька ставіць яго да сцяны, а сам нячутна, у мяккіх пантофлях, якія маці купіла спецыяльна для госця, нібы крадзецца, дробненькім крокам ідзе на кухню... Як, не згінаючы пальцаў, лодачкай, торкае руку для прывітання спярша бабулі, потым маці.

На кухні ажыўлена загаманілі, потым прыціхлі. Дзверы ў Майчын пакой расчыніліся, на парозе стаяла маці.

— Глянь, дачка, які падарунак табе прынёс Кірыла Пятровіч,— збянтэжана сказала яна.— Джынсы... Імпартныя! — націснула на апошняе слова.— Ты ж такія хацела?

Ціхі маёвы вечар апускаецца на зямлю. Недасягальна высокае і чыстае неба замутнілася сінечай і апусцілася ніжэй, у самыя вокны пакоя. На стале па-ранейшаму валяюцца разгорнутыя падручнікі, кот Мурзік, уціснуўшыся паміж вазонамі, сумна пагля-дае на макушкі таполяў, а праз няшчыльна зачыненыя дзверы з кухні чуюцца галасы... А Майка... Не, хіба магло ўсё застацца па-ранейшаму, калі Майка — ужо не тая Майка, якой была яшчэ некалькі хвілін назад. На ёй новыя джынсы. І здаецца дзяўчынцы, што не хвіліны аддзяляюць яе, цяперашнюю, джынсавую, у якой і пагляд ганарлівы, і хада лёгкая і ўпэўненая, і плечы прамыя, і нават твар без рабаціння, ад той цыбатай няўклюды, а цэлая вечнасць. Ёй нават дзіўна, што на стале па-ранейшаму раскіданы падручнікі і дзень ніяк не саступіць месца ночы.

На кухні маці дробненька шынкуе салат, баба Вера, стомленая, сядзіць на табурэтцы. Паглядзелі на Майку звычайнымі вачыма.

— Калі ты ўжо прыедзеш да мяне? — пытаецца баба Вера.— Грады памагла б зрабіць... Некалі ж ты так любіла корпацца са мной у гародзе. Усё табе самой хацелася сеяць... А я не давярала, сварылася на цябе...

— Няма мне калі. Урокаў шмат задаюць...

Старая ўздыхнула і пачала збіраць на стол.

— Усё часу вам няма,— бубніла сабе пад нос.— Ні табе, ні маці... Не хочацца вам хадзіць да бабы Веры... А хутка не захочаце, каб і я да вас прыходзіла. Нашто я вам цяпер?.. У вас свая сям'я... Ну і жывіце сабе ў добрым здароўі і згодзе...

Баба Вера выцерла ражком хусцінкі зачырванелыя вочы і адвярнулася ад Майкі.

«Дзіўная гэта баба Вера... Чаго крыўдзіцца?.. Чым незадаволеная?.. Сама ж хацела хутчэй выдаць замуж маці, а цяпер плача...» — разважала дзяўчынка.

Усё ж на сэрцы нядобра зашчымела. Ёй хацелася неяк супакоіць бабусю, абшчапіць яе за мяккія плечы, але яна стрымалася. Заместа гэтага зачынілася ў сваім пакоі і, усцягнуўшы Мурзіка сабе на калені, зашылася ў куточак канапы. Было крыўдна, што раптоўна знік, як і не было яго, той настрой лёгкасці і шчаслівай бяздумнасці, калі ўсё навокал і ў ёй самой поўнілася радасцю і весялосцю.

Каб зноў вярнуцца ў тыя хвіліны, яна пачала думаць пра тое, як убачаць яе аднакласнікі ўпершыню ў джынсах.

Нячутна ступаючы па падлозе ў мяккіх пантофлях, у пакой зайшоў Кірыла Пятровіч. Зайшоў смела, не так, як раней, ліслівa просячы прабачэння на кожным кроку, а ўжо як гаспадар. Коратка і ўчэпіста зірнуў на дзяўчынку, і тая адразу ж выпрастала з-пад сябе ногі, звесіла іх з канапы, наструнілася...

Кірыла Пятровіч вольна, па-дамашняму, умасціўся побач, стомлена выцягнуў ногі, і Майцы адразу ж зрабілася цесна, нядобра. Яна машынальна пасунулася далей, незадаволена заварушыўся на каленях патрывожаны Мурзік, падазрона зірнуў на госця зеленаватым вокам і зноў мірна зафуркаў на каленях дзяўчынкі. Кірыла Пятровіч паморшчыўся, пацягнуўся рукой да Мурзіка, як здалося Майцы, каб спіхнуць яго на падлогу, але стрымаў сябе. Лагодна ўсміхнуўшыся, пстрыкнуў пальцамі каля кацінага вуха.

— Ну і лайдак... Раз'еўся на дармавых харчах. Мышэй, мусіць, толькі ў сне бачыць...

Ён дробненька засмяяўся, але неяк нечакана змоўк.

— Вось у мяне быў кот...

Кірыла Пятровіч заварушыўся, ямчэй уладкоўваючыся на канапе, і Майка зразумела, што зараз ён раскажа штосьці павучальнае. Ён вельмі любіў расказ-

ваць пра сябе. Сухім, аднатонным голасам нудна апавядаў пра розныя выпадкі са свайго жыцця, і з усяго сказанага можна было зрабіць вынік, які кемлівы ён чалавек, які гаспадарлівы, які шчодры... І калі Майка яшчэ не зрабіла гэтага, то толькі таму, што не даслухала да канца ніводнай гісторыі. Бесцырымонна пакідала апавядальніка недзе пасярэдзіне яго апавядання і зачынялася ў сваім пакоі. Цяпер жа адчула, што болей так зрабіць не зможа. Яшчэ не ўсведамляючы, чаму гэта так, але што яна цяпер ужо не вольная, а ў нейкай ступені залежыць ад гэтага чалавека, ведала цвёрда.

— Быў у мяне, значыцца, кот...— ахвотна пачаў апавядаць Кірыла Пятровіч, грэбліва пазіраючы на Мурзіка,— не раўня гэтаму лайдаку... Я тады рабіў у сельскай мясцовасці, і давялося мне перажыць там нашэсце пацукоў... Уначы, бывала, гарцуюць па сталі, не раўнуючы, як тыя коні... Зойдзеш у хлеў, яны то па сценах лётаюць, то на карове сядзяць, грэюцца... А яшчэ найвялікшую шкоду прыносілі, што знішчалі ўсе харчовыя запасы, куды не пакладзі... Я іх і атручваў, і абсмальваў... Казалі, яны не выносяць паху смаленага пацука, уцякаюць... Але не ўцяклі. Тады я і прыстараўся сабе коціка. Як вядома, і кошка не кожная возьме пацука... А каты — баязліўцы, самі ўцякаюць. А мой коцік за які тыдзень-два паразганяў усю гэтую нечысць... Хаця я доўга яшчэ баяўся заходзіць у цемнаце ў хлеў. Усё здавалася, што на галаву зваліцца гэтая брыдота... Аж не, як раставлі... Але скажу табе, і коцік быў! Прыгажун!.. Чорны ўвесь, як смалюк, а поўсць ажно блішчыць, ільсніцца... Добры быў коцік...

Вочы ў Кірылы Пятровіча затуманіліся тугой, рука пацягнулася да Мурзіка, каб праз яго выказаць усю пяшчоту да таго, былога, які саслужыў яму некалі нямалую службу...

— Добры быў коцік...— паўтарыў ён.— Як не стала ўжо пацукоў, я з яго скуру рашыў вырабіць. Сам выраблgяў... Ладная такая скурка атрымалася. Усе дзівіліся... Не верылі, што з ката. Я ўсё прыглядаўся пасля да чорных катоў, але з такою скураю, каб ажно ільснілася, не траплялася...

І не заўважыў, з якім жахам і агідай глядзіць на яго дзяўчынка...

Багаты святочны стол накрыты ў гонар Майкі. Дзякуючы Кірылу Пятровічу, упрыгожваюць яго розныя дэфіцыты. Майка пераводзіць вочы з чырвонай рыбы на каўбасу, потым нехаця кладзе сабе кавалачак смажанай качкі. Яе прынесла і згатавала баба Вера.

Калі б не багата застаўлены стол, ніштто б не нагадвала пра свята. Гасцей не запрашалі. Хутка вяселле, таму дужа не траціліся.

Усе ядуць моўчкі. Кірыла Пятровіч засяроджаны толькі на сваёй талерцы, гучна сапе ад стараннасці. Маці пільна сочыць, каб талерка ў яго не пуставала. Кірыла Пятровіч неяк заўважыў, што не любіць жанчын мітуслівых, у якіх у кожным жэсце і слове праяўляецца нервознасць. Маці, якая па характару была жанчына рухавая, жывая, з тае пары пачала стрымлівацца. Майцы заўсёды было смешна, як намагаецца яна запаволіць хаду, сцішыць голас, як пераймае манеры Кірылы Пятровіча... Раней гэта ўсё смяшыла яе, быццам маці ўжывалася ў нейкую новую ролю і рабіла гэта на першым часе не вельмі ўдала. Зараз яна адчула, што ёй ненавісны ў маці гэтыя новыя, чужыя ёй рысы і што сама яна, Майка, таксама непрыкметна падпадае пад ціхую ўладу Кірылы Пятровіча.

Кірыла Пятровіч урэшце ўзнімае галаў ад сваёй талеркі, напаўняе бакал шампанскім і, абвёўшы ўсіх поглядам, спыняецца на Майцы. Глядзіць цвёрда,

учэпіста, быццам прыкідвае, ці шмат клопату будзе яму з гэтым дзіцянём. Майка не вытрымлівае, апускае вочы, і Кірыла Пятровіч, задаволена крэкнуўшы, кажа штосьці накшталт тосту.

— Вось, малая... Будзе табе помніцца твой дзень нараджэння... Такі я, брат, чалавек... Хоць як на мяне, дык я б гэтыя джынсы паздзіраў з дзяўчат ды папружкай па мяккаму месцу... Ты ж калі дзяўчына, то і будзь дзяўчынай. Сціплая, працавітая, старанная... А то самая натуральная распуста. А з другога боку... Насі! Хай усе ведаюць. Родны бацька не кожны раскашэліцца на гэткі падарунак. А будзеш паслухмяная, то і яшчэ нешта перападзе. І не раз...

Маці стрымана ўсміхаецца, стараючыся не выказваць сваіх пачуццяў. Баба Вера сядзіць стомленая і абыякавая.

А Майка не зводзіць вачэй з драбнаватых і, мусіць, слабых рук Кірылы Пятровіча, рук, якімі ён некалі вырабляў скуру са свайго любімага коціка, якімі падаваў ёй падарунак, пстрыкаў над вухам у Мурзіка... А цяпер асцярожна трымае хрустальны бакал, напоўнены шампанскім, і п'е за яе здароўе, хаця ні каліва не любіць яе... І маці не любіць. І нікога ніколі не любіў і не можа любіць.

Дзяўчынка здзіўлена абводзіць усіх вачыма. Няўжо ніхто не разумее гэтага?..

А Кірыла Пятровіч ужо гаворыць пра рамонт у кватэры, пра тое, якімі шпалерамі ён хоча выклеіць залу, які лінолеум дастаў для падлогі, якраз у тон шпалерам... Што шафу з залы трэба будзе некуды прыбраць, можа, у Майчын пакой уціснуць, а стол і старыя крэслы выкінуць зусім...

Маці ціха свеціцца радасцю, згодна ківае галавою.

Майка непрыкметна выпырхвае з-за стала, зачыняецца ў сваім пакоі. Голас Кірылы Пятровіча чуецца

слабей, а калі ён мацнее, дзяўчынцы здаецца, што Кірыла Пятровіч набліжаецца да яе дзвярэй.

Вокны цёмныя... Цёплая маёвая ноч якраз набірае сілу. Праз шыбу не бачна больш ні неба, ні таполяў. Толькі ў суседнім доме насупраць дзе-нідзе свецяцца вокны. Дзень нараджэння канчаецца. Адчувае дзяўчынка сябе як ніколі адзінокай і няшчаснай.

На крэсле, каля стала, акуратна складзеныя ляжаць джынсы. Яна глядзіць на іх як на рэч самую звычайную і не можа зразумець, чаму яшчэ зусім нядаўна гэтыя джынсы ў яе вачах былі магічнымі, здольнымі зрабіць яе прыгожай і шчаслівай. Абыякава перакідвае іх на ложак і, не ведаючы сама, што зробіць і скажа ў наступную хвіліну, вяртаецца назад, да святочнага стала.

Маці і Кірыла Пятровіч не заўважылі яе. Ажыўлена абмяркоўваюць гасцей, якіх трэба запрасіць на вяселле. Адных Кірыла Пятровіч ухваляе, другіх ганіць...

Баба Вера ціхенька спіць на крэсле, прыхінуўшыся плячыма да шафы. Майка заўважае раптам, якая яна старэнькая і адзінокая. Абвялі друзлыя шчокі, ніжняя сківіца непрыгожа адвісла... У Майкі перахапіла дыханне. Яна хуценька наблізілася да бабы Веры, абхапіла яе за мяккія плечы.

— Бабуся, бабуся... Ну, прачніся...

Старая няўцямна глядзіць перад сабой нейкае імгненне, пазнае ўнучку і вінавата ўсміхаецца.

— Бабуся... Пойдзем адгэтуль... Пойдзем у мой пакой. Ты стамілася... Заўтра я табе пасля школы ўскапаю грады... Мы пасеем з табой агуркі... Баба Вера! — раптам вырвалася ў яе тужліва.— Я буду табе палоць і паліваць агарод і яблыкі на рынак насіць... Забяры ты мяне адгэтуль!

# Мадонна з Выселкаў

I

Во гэта была навіна! Перш чым зноў дакрануцца да пісьма, Аксіння, ухапіўшыся рукой за сэрца і ледзь перасоўваючы ногі, паплялася да шафы, дзе захоўваліся ў яе на верхняй палічцы розныя лекі. Знайшла валяр'янку, наліла, не мераючы, паўлыжкі і запіла халоднаю вадою, якую толькі што прынесла. На сэрцы адразу палягчэла, мо ад лекаў, а мо ад сцюдзёнай вады. Але яшчэ колькі хвілін яна нерухома сядзела перад лістом паперы і няўцямна глядзела некуды міма стала. Пісем ім даўно ўжо ніхто не пісаў. Хіба што малодшы сын, Пятрок, які робіць у Віцебску на заводзе. Яна спярша так падумала, калі паштальёнка падала ёй гэтае пісьмо. Але і тады ўжо яна ўчула штосьці няладнае. За два гады, якія Пятрок правёў у горадзе, ён не напісаў бацькам ніводнага пісьма. Яно, падумаўшы, дык навошта тыя лісты, калі сам кожны месяц, а то і часцей прыязджае на выхадны ў вёску?

Так, чула яе сэрца. Пісьмо было незвычайнае. А пісалася ў ім, што сын іхні, той самы Пятрок, што робіць у горадзе, мае ўжо дачку. Гэта значыць, дзесьці гадуецца іхняя ўнучка, пра якую яны нічога не ведалі. І наогул, няясна, ці ведае пра гэта сам Пятрок. Пісьмо пісала не сама маці іхняй унучкі, а яе бацькі, у якіх яна зараз жыве разам з дзіцем. Дзесьці ў Выселках, што аж у Глыбоцкім раёне.

Хто ж пасля гэтага скажа, што яна атрымала звычайнае пісьмо? Тут і за сэрца ўхопішся...

Не такая гэта была навіна, каб трымаць яе пры сабе. Як толькі першая здранцвеласць прайшла і Ак-

сіння адчула ў нагах ранейшы спрыт і жвавасць, яна кінулася да дзвярэй.

Але і не такая гэта была навіна, каб яе можна было даверыць чужому чалавеку. Сказаць такое пра сына можна было хіба што роднаму бацьку, які, як на тое, дзесьці забавіўся. Аксіння ледзь не кінулася насустрач, пачуўшы яго павольныя крокі.

Хоць ты, здаецца, бяры за каршэнь ды цягні ў хату гэтага старога. Гэта ж ад веснічак да парога чалавек дабіраўся мо з паўгадзіны, спыняючыся на кожным кроку і корпаючыся немаведама чаго. Такі ўжо гэта быў чалавек!

Думаеце, прачытаўшы пісьмо, ён таксама кінуўся па валяр'янку? Не, ён толькі сказаў, як заўсёды спакойна, без усякіх эмоцый:

— Ну і што?

І пайшоў даваць свінням. Нібы нічога і не здарылася.

— Як гэта — што? — разгубілася жанчына.— Гэта ж пра нашага Петрака пішуць... Ці ж такое з ім магло здарыцца?.. Ці ж наш Пятрок на такое здатны?..

— А чаму ж не здатны? Вунь які лоб вымахаў. А прыдбаць дзіця не такая ўжо складаная штука.

— Ды я ж не пра гэта,— абуралася жанчына.— Тут жа другое. Ты ж зусім не разабраўся...

— Ну, а калі ты ў гэтым так добра разбіраешся, дык не чапіся да мяне, а ідзі лепш дагледай скаціну,— пачаў злаваць стары.

Вось табе і родны бацька... Ды што і казаць! Хіба ён можа так ведаць і разумець сваё дзіця, як маці? Гэта толькі яна, маці, можа згадаць, што сын яе, хоць і вырас, як дуб, а зусім яшчэ дзіця, асабліва ў адносінах да жанчын. Гэта ж расказаць хоць бы пра той выпадак... Кожную восень да іх у калгас прысылаюць студэнтаў бульбу выбіраць. У тую восень, як дэмабілізаваўся Пятрок, у іх кватаравалі чатыры дзяўчыны.

Вечарам дзяўчаты наношвалі вады ў бочку і тут жа, у двары, мыліся. Пятрок неяк і заскочыў у двор, калі адна дзяўчына ў адным толькі бюстгальтары і кароценькай, вышэй каленяў, спаднічцы плюхалася ў тазе з вадой. Заскочыў і аслупянеў. Вытрашчыў на дзяўчыну вочы і — ні з месца. Другая б падняла віск, кінулася б уцякаць, а гэта нават брывом не павяла. Стаіць і ўхмыляецца. Ды яшчэ паварочваецца перад ім то адным бокам, то другім... Маўляў, паглядзі, якая я гладкая ды прыгожая... Хлопцу б таксама пажартаваць, пасмяяцца ды ісці сваёй дарогай. А Пятрок, як толькі ачнуўся, кінуўся наўцёкі, ды не ў хату, а прэч з двара. Прыйшоў дадому позна, нават вячэраць не стаў, а адразу на сена падаўся, дзе начаваў у гэтыя халодныя восеньскія ночы, каб не замінаць дзяўчатам у хаце. І пасля ніяк не мог на тую дзяўчыну вачэй узняць. А яна толькі рагоча... І сяброўкі яе спярша дражнілі Петрака, а пасля пачалі ставіцца абыякава. Гаманілі пра свае дзявоцкія справы зусім не саромеючыся, быццам і не было побач ■ імі маладога хлопца...

Ужо тады забалела матчына сэрца... А як паехаў хлопец у горад, зусім спакой страціла. Прападзе, бедалага! Гэта ж такія цяпер дзяўчаты пайшлі... Трапіцца яму такая вось вёрткая ды бессаромная і будзе на ім усё жыццё ездзіць. І ад бацькоў адаб'е. Кажуць, гарадскія не любяць вясковых сваякоў, асабліва калі тыя ў госці да іх прыязджаюць. А як жа гэта не з'ездзіць у госці да роднага сына?! Вось і чакала Аксіння бяды, што немінуча павінна прыйсці да іх у сям'ю разам з гарадской нявесткай.

А бяда, аказваецца, чакала яе з другога боку.

Пакуль Аксіння накарміла парсюка, падаіла карову, згатавала такую-сякую вячэру, крыху супакоілася. Неяк нечакана думкі яе пацяклі ў другім напрамку. Пісьмо не здавалася ёй ужо такім жахлівым. «А мо

гэта не так ужо і дрэнна? — разважала яна.— А мо гэта і к лепшаму?.. Ды і Пятрок... Не такі ўжо, аказваецца, ён і недарэка. Бач ты! Не яго ж пакрыўдзілі...» Нават гонар нейкі з'явіўся за сына. Але яна тут жа засаромелася гэтага пачуцця і назнарок пачала шэптам лаяць сына і шкадаваць бедную дзяўчыну.

Не цярпелася пагутарыць са старым, але ён маўчаў. Яна адчувала сябе зняважанай яго абыякавасцю і таму вырашыла першай размову не пачынаць, хоць і маўчаць было ж вельмі маркотна. Так маўчаком і спаць ляглі.

Аксіння не спала і чула, што стары таксама не спіць. Варочаецца, што той мядзведзь у берлагу. Нарэшце ён не вытрымаў, сярдзіта забубніў:

— І што гэта ты круцішся, як верацяно? Усе бакі адтаўкла...

— Сам жа не спіш,— хаваючы ўсмешку, азвалася жанчына.

І пачала здалёку:

— А нядобра ж выходзіць, Ціхан... Грэх чалавека крыўдзіць... Ды і што людзі скажуць? Гэта ж толькі дойдзе да людскіх вушэй — на вуліцу не выходзь. А дзяўчына яна, відаць, нядрэнная,— не вельмі ўпэўнена дадала яна.

— Як жа! Нядрэнная. Па ўсім і відаць,— пакпіў стары.

— А я кажу — нядрэнная.— Голас Аксінні зрабіўся цвярдзейшы.— Ціхая яна, сарамлівая... Ведама, вясковая дзяўчына. Другая б на яе месцы ого! Вэрхал бы падняла, умомант хлопца б акруціла. А яна не. Паехала сабе ціхенька да бацькоў у вёску... Куды ж ёй яшчэ падацца? Сваёй жа кватэры няма... Мабыць, як і наш Пятрок, у інтэрнаце перабівалася. А дзіця ж не загубіла!

— Бессаромніца яна! Згубіла свой гонар дзявочы і да бацькоў падалася. Шукайце ёй, бацькі, мужа!

Пішыце лісты невядома куды! Я б ёй спісаў адно месца!

Стары ажно закалаціўся ад абурэння. Такім яго Аксіння і не помніла.

— Бач, разышоўся! Цяпер ты надта разумны зрабіўся, як састарэў! Чаму б табе такому не быць у маладосці?! Дык не!.. Праўда, не з дзіцем ты мяне браў, але мала чаго не з ім. А шыла ў мяшку не ўтоіш... Людзі ўсё разумелі, ды ў вочы мне пасля калолі, калі трэба і калі не трэба. І прыгожая я была, і працавітая, а ўсё роўна лічылася ў сям'і горшай за ўсіх нявестак. І за сталом мне месца на крайку, і самая брудная работа — мне. І слова супраць не кажы, бо віну сваю ведаеш. Тады і ачуняла, як аддзялілася ды сваёй сям'ёй жыць пачалі...

— Што ўспомніла...— нездаволена заўважыў стары.— Ты сябе з ёй не раўняй.

— Чаму ж гэта не раўняць? У нас адна віна...

— Адна ды не адна. Ты ж для мяне была... Сама ведаеш. Калі б мае бацькі не згадзіліся на наша вяселле, я б усё роўна ад цябе не адступіўся. Нікога б не паслухаў. А Пятро адмовіўся ад яе. Значыцца, нешта не так у іх было, не сур'ёзна. Можа, так... выпадак, не болей.

— Каб жа толькі выпадак... А то ж дзіця расце. Цяпер пра яго думаць трэба.

— Ну, вось што, старая,— цвёрда вымавіў гаспадар.— Усё, што мы тут балабонім,— пустое. Вось прыедзе Пятрок, тады і будзем гаварыць. А цяпер спі.

І Ціхан борздзенька, бы малады, павярнуўся на другі бок і заціх. Аксіння ведала, што да самага прыезду сына ён не вымавіць пра гэта ні слова. Такі ўжо ўпарты ён чалавек. Жанчыны ўсё жыццё зайздросцілі ёй. Казалі, што яна пануе за Ціханам. Робіць, што захоча, а ён толькі маўчыць, ва ўсім зважае ёй. Гэта

было і так, і не так. Стары рэдка пярэчыў, але, калі даходзіла да чаго сур'ёзнага, са свайго не саступаў.

Аксіння ляжала нерухома, думкі мроіліся ў галаве, і яна не адганяла іх. Як бы там ні было, а добра было б забраць маладзіцу да сябе. Пятро будзе працаваць у горадзе і прыязджаць на выхадны. Так і пажывуць, пакуль дзіця не падрасце. Замінаць яны не будуць, месца хапае. Вунь другая палова хаты зусім пустуе. Зімой прапаляць там стаяк разы два ў тыдзень, каб вільгаць не заводзілася, а самі ў пярэдняй месцяцца. Ім, апрача печкі, нічога ўжо і не патрэбна. А маладыя хай сабе раскашуюцца ў чыстай палавіне. Ложак новы трэба будзе перасунуць бліжэй да акна — нічога, не змерзнуць,— а к печцы паставіць дзіцячую калыску. І ночвы новыя не шкодзіла б прыдбаць, купаць дзіця.

«Ох, і прыбавіцца табе клопату, старая»,— шчасліва ўсміхалася яна ў цемру.

І ўсё спрабавала ўявіць сабе будучую нявестку. Якая яна? Відаць, вельмі ўжо ціхая ды нясмелая, што трапіла ў такую бяду. Нічога, дзеванька! Я цябе ў крыўду не дам. І за дзіця ўпікаць не буду. Навошта? Калі яна разумная, дык сама будзе адчуваць сваю віну. Як жа інакш?

Усю ноч Аксінні снілася дзева Марыя з лікам строгім і засмучаным. Яна хадзіла па іхняй хаце з дзіцем на руках, а стары Ціхан і яна, Аксіння, сядзелі ў куце за печкай і нават глядзець на яе не асмельваліся. Такі журботны і пакутлівы быў у яе твар.

## II

Бацькі чакалі сына, хоць прыязджаў ён не кожную суботу, а як яму ўздумаецца. Асабліва не любіў прыязджаць вось у такую непагадзь. Дождж, хлюпота, дарогі так развязло, што няма куды нагой ступіць.

Нават аўтобус з Віцебска, які раней праходзіў праз усю вёску, робячы прыпынак каля сельсавета, цяпер аб'язджае іхні Барок збоку, і пасажыры мусяць дабірацца да вёскі пехатой, выбіраючы зручнейшыя мясціны. Але як ты ні выбірай, усё роўна начэрпаеш поўныя чаравікі і, галоўнае, настрой сапсуецца. Можа, таму ў гэтыя дні глыбокай восені рэдка хто з гарадскіх заглядвае ў Барок. Дык чаму ж павінен прыехаць іхні Пятрок? Няма ў тым вялікай патрэбы.

Але ён прыехаў. І ўжо ў гэтым Аксіння ўбачыла «знаменне». Скінуў Пятрок у парозе брудныя чаравікі, распрануўся, прыгладзіў вільготны ад дажджу чуб — і за музыку. Куфэрак, які ён называе «магам», Пятрок заўсёды прывозіць з сабою. Мала таго што на заводзе шумна і ў інтэрнаце тлуму хапае, дык ён і тут, у вёсцы, замест адпачынку слухае цэлы дзень гэтую віскатню. Тлумачыць, што цішыня яму на вушы ціснe... Гэта што датычыць музыкі. У астатнім жа ён хлопец нядрэнны. Калі трэба, і па гаспадарцы паможа, ніякай работы не цураецца. І ветлівы, чаго не скажаш пра другіх хлопцаў, што гарадскімі зрабіліся. Завесяць вочы пасмамі валасоў і не прывітаюцца нават.

— У вас што, свята? — усміхаючыся сваімі светлымі, блакітнымі вачыма, заўважае Пятрок.— Маці ажно свеціцца, бацька ўрачыста маўчыць... Здарылася што?

— А нягода такая...— расправўляючы складкі на спадніцы і не гледзячы на сына, пачала Аксіння.

— Пагаварыць трэба з табой, Пятро,— перабіў яе Ціхан,— па-мужчынску.— І выразна глянуў на старую. Тая адразу ж звяла.

— Ты хоць ведаеш, што ў цябе дачка расце? — крыху разгублена спытаўся бацька.

Пятро рэзка ўскінуў галаву, неяк не то здзіўлена, не то разгублена глянуў на старога і, нічога не сказаўшы, улёгся на канапе, падклаўшы рукі пад галаву.

Гэта непрыемна ўразіла старых.

— Ты мне тут носа не задзірай,— узлаваўся бацька.— Калі цябе пытаюць, то адказвай. А не туліся да канапы...

Пятро паволі ўзняўся, усім сваім выглядам нібы кажучы: «Ну, што вам ад мяне трэба?»

— Ты ведаеш...— хацеў прадоўжыць размову бацька, але Пятро нервова перабіў яго:

— Ну, ведаю, ведаю! А далей што?

Бацькі разгублена пераглянуліся. Мабыць, да апошняе хвіліны яны не верылі да канца ў гэтае здарэнне.

— Дык вось,— стараючыся гаварыць цвёрда, працягваў стары: — Скажы нам з маткай, як ты думаеш далей жыць?

— Нібы я ведаю,— нервова перасмыкнуў плячом хлопец.

Некалькі хвілін усе маўчалі. Усім было няёмка. Раптам твар у Пятра ажывіўся, і ён з цікавасцю пагледзеў на бацькоў:

— Пачакайце... А вы адкуль ведаеце?

— Яе бацька прыслаў нам ліст.

Пятро працяжна свіснуў і адышоў да акна. Доўга стаяў там, апусціўшы плечы, і старая не ведала, лаяць яго ці шкадаваць.

— Трэба было б па-людску зрабіць, сынок. Нядобра крыўдзіць дзяўчыну.

Пятро павярнуўся да маці і доўга, з цікавасцю глядзеў на яе, быццам стараючыся зразумець сэнс сказаных слоў.

— Ты думаеш, што я пакрыўдзіў дзяўчыну?

— А як жа? — здзівілася маці.

— Яе пакрыўдзіш...— нявесела ўсміхнуўся хлопец і зноў утаропіўся ў акно.

— Трэба, значыцца, жаніцца з дзеўкай,— не ведаючы, як закончыць размову, падвёў вынік стары.

І з палёгкай уздыхнуў: як-ніяк, а такую нялёгкую справу ён давёў да канца і сказаў усё, што мусіць сказаць бацька сыну ў такім выпадку.

Пятро нічога не адказаў, і яны не чапіліся больш да яго. Няхай падумае хлопец. Справа сур'ёзная.

— Як гэта ў вас проста,— загаварыў ён праз нейкі час.— Дзяўчыну пакрыўдзіў... Жаніся... І ніякіх табе праблем. Хоць вы мае і бацькі, але... гэта смешна... нічога не ведаючы пра людзей, зусім не ведаючы іх адносін... вось так, збоку, за вочы, даваць парады... Ды яшчэ якія! Гэта ж... прымітыўна.

Старыя стаялі прысаромленыя.

— Мо яно і так,— паспрабавала апраўдацца Аксіння.— Табе лепш ведаць... Але ж дачка ў вас, дачка!

Пры напаміне аб дачцэ ён неяк абмяк. Напэўна, зноў і зноў успамінаючы і аналізуючы свае адносіны з дзяўчынай, ён забыўся, што цяпер паміж імі стаіць гэтае маленькае стварэнне. І яно цяпер будзе кіраваць іхнімі думкамі і паводзінамі.

— Дык што вы мне кажаце?

— А што казаць... Жаніцца трэба.

— Мусіць, трэба, бацька. Жаніцца. Толькі... Можа, яна сама так вырашыла... Можа, яна не хоча ісці за мяне, тады што? — быццам жартам, спытаў хлопец, але за гэтым жартам адчувалася слаба прыхаваная трывога.

— Як гэта — не хоча? Пісьмо ж напісалі...

— Гэта праўда,— задумаўся ён.— Яна ведала мой адрас. Гэта ж яна дала мой адрас? — з надзеяй глянуў ён на бацьку.

— Ну, вядома. Дзіця ж у яе. Не ведаю, што раней было ў яе ў галаве, але дзіця робіць разумнейшай любую жанчыну.

— Напэўна, нам трэба сустрэцца, пагаварыць...

— Ат! Што тыя размовы? Позна цяпер размаўляць. Раней трэба было. А то тыя размовы размовамі і застануцца. Жаніцца трэба,— сказала маці.

— Цікава, як вы гэта сабе ўяўляеце?

— А так, як гэта рабілі людзі спрадвеку. Возьмем свата, паедзем у тыя Выселкі ды і прывязём табе жонку.

— Гэтак проста! — жахнуўся хлопец.

— А якая трасца табе яшчэ патрэбна?

— Не, гэта нават цікава,— нечакана засмяяўся Пятрок.— Ва ўсякім разе, спосаб стары і правераны.

— Дык што, паедзем? — усё яшчэ не верачы ў такую лёгкую перамогу, сказала маці.

— А рабіце што хочаце. Горш, чым ёсць, не будзе.

III

Ехаць па нявестку вырашылі не дужа бавячыся, праз два тыдні. Так і сватам будучым напісалі.

Рыхтаваліся сур'ёзна. Прыстараліся гарэлкі, чакалі халадоў, каб забіць парсючка.

А халады не надыходзілі. Восень выдалася шчодраю на дажджы. Спачатку на іх ніхто не зважаў. Сыпле дождж — ну і няхай сабе сыпле. Шкоды нікому не робіць. Ураджай сабраны і звезены з палёў і гародаў. Няхай сыпле. Трэба ж і яму некалі сваё ўзяць, тым больш што лета было сухаватае.

Але ўжо лістапад падыходзіў к канцу, людзям абрыдла гэтая слота, гэтыя туманы, ад якіх цяжка было дыхаць. Хацелася чыстага неба і сонца, звонкага, празрыстага паветра і добрага марозіку.

У Аксінні свае наракання на надвор'е. І перш за ўсё: ці ж па такой дарозе заедзеш у той Глыбоцкі раён? Былі і другія клопаты... Каго ўзяць за свата? Усім вядома: як сват справу павядзе, так яно і выйдзе. Вырашылі даверыцца Панцеляймону, які даводзіўся ім

сваяком. Майстар ён што трэба, справу сваю ведае, як кажуць, за словам у кішэню не лезе. А галоўнае, гэты Панцеляймон робіць у калгасе шафёрам. Гэта ж дваякая выгада: свой шафёр з машынай і сват. Не трэба збіраць лішніх сведак, тым болей што невядома, як яно там выйдзе з гэтым вяселлем. Але была ў Панцеляймона адна загана: любіў ён выпіць, а п'яны гаварыў шмат лішняга, да таго ж не вельмі прыемнага. А яшчэ горш — лез з абдымкамі да кожнай маладзіцы, зусім забываючы, што сам ён вунь які рабы і незайздросны з выгляду. Але Аксіння і гэта ўлічыла. Яна прыдумала хітры ход і была вельмі задаволена сваёй кемлівасцю: няхай разам з Панцеляймонам едзе і яго жонка, Хрысця.

Жанчына яна хоць і ціхая, непрыкметная, але падыход да п'янага мужа мае. Не паспелі вырашыць пытанне наконт свата, як тут іншыя клопаты навалíліся. І ўсё трэба самой, бо стары ў гэтым нічога не разумее.

Хацелася Аксінні зрабіць унуку добры падарунак, купіць што-небудзь каштоўнае і вялізнае, каб усе адразу ўгледзелі і пазайздросцілі. І лепшае, што тут прыдумаеш,— дзіцячая каляска. Але Аксіння была чалавекам практычным, цану грашам ведала і не магла змірыцца, што трэба будзе выкінуць больш як сорак рублёў за рэч, без якой можна абысціся. Таму ўвечары, калі ўжо добра сцямнела, Аксіння, баючыся сустрэць знаёмых, прыцягнула агародамі ад замужняй дачкі старую каляску, абкруціўшы яе перад гэтым з усіх бакоў дзяружкай. Дастала з печы чыгун гарачай вады, на двары вымыла і вышаравала каляску так, што яна ззяла, як новая. А на тыя грошы купіла іншыя неабходныя ў такой справе рэчы: мяккую дзіцячую коўдру з вярблюджай поўсці, розныя там пялёнкі-распашонкі. Гэтае дабро можна было б таксама зрабіць самой, але хай будзе купленае. Прыгажэй!

Заставалася толькі купіць падарунак нявестцы. Хацелася дагадзіць маладзіцы, але ж цяпер такая моладзь, самі не ведаюць, што ім трэба. Купіш не тое, не спадабаецца, тады куды яго? Гэта ж не пірог, сама не з'ясі.

Нават начамі спаць не даваў ёй гэты падарунак. Мроілася, як засвеціцца радасцю засмучаны, як у той мадонны, тварык маладзіцы, як прыхільна і ўдзячна гляне гэта мадонна на яе, Аксінню. Можа, нават абдыме і пацалуе, як сваю маці...

Ад такіх думак на душы станавілася цёпла-цёпла, і сон як рукой здымала. І яна ўсё марыла і марыла.

Неяк у сельмазе ўбачыла жаночыя туфелькі. Дакладней, яна ўжо даўно іх прыкмеціла, але ўсё не хапала смеласці нават разгледзець тавар. Асмялеўшы, усё ж асцярожна дакранулася да іх, быццам гэта было штосьці жывое, пасля ўжо смялей пачала мацаць і пагладжваць, не зважаючы на насмешлівы погляд маладзенькай прадаўшчыцы. Туфлі былі бліскучыя, хоць ты глядзіся ў іх, з высачэзнымі абцасікамі. Як толькі на такіх ходзяць?

— Ці не думаеш ты, Аксіння, на старасці год у гэтыя казліныя капыты прыбрацца? — пакпіў з яе кульгавы каваль Гаўрыла.

А маладзенькая прадаўшчыца так і пакацілася ад смеху.

— Ты, можа, да вяселля залатога рыхтуешся, дык надумала маладосць успомніць? Замуж, мабыць у лапцях ішла? — не сунімаўся каваль.

Аксіння нават вокам не кінула ў яго бок, толькі вусны пагардліва скрывіла.

— І колькі ж каштуюць такія? — як мага спакайней кіўнула яна на туфлі.

Дзяўчына перастала смяяцца і ахвотна адказала:

— Сорак два рублі трыццаць тры капейкі.

— А... а дай-ка ты мне, галубка, вунь тэй карабок цукерак.— І, разлічыўшыся, хуценька пайшла за дзверы.

«Зусім здурэла старая,— лаяла яна сябе дарогай.— Навошта табе былі тыя туфлі? Ты ж нават не ведаеш, якая ў яе нага...»

А загрубелыя пальцы ўсё яшчэ адчувалі цёплы дотык гладкай і бліскучай, як лак, скуры туфелек.

І невядома чаму апанаваў яе сум. Так, яна бадай што ў лапцях выходзіла замуж за Ціхана. А такія вось туфелькі толькі і давялося патрымаць у руках на старасці.

— Божа ж ты мой! Чаму ж ім не быць шчаслівымі?.. Чаго ім толькі не хапае...— шапталі яе вусны.

IV

У суботу з раніцы пачалі збірацца ў дарогу. Аксіння паднялася яшчэ на досвітку, бралася то за адну справу, то за другую, мітусілася, але работа валілася з рук.

Нават стары Ціхан пачаў злавацца:

— Чаго ты кідаешся па хаце без толку?.. Перад сваім вяселлем, мабыць, так не падбрыквала...

Аксіння толькі рукой махнула: «Адчапіся, стары!» — і выцягнула з шафы бярэма сваіх лепшых убораў. Пачала апранацца ды на старога пакрыквала:

— Што ты там калупаешся?.. Да вечара, мабыць, будзеш збіраць свае талмуды...

— Ну, усё роўна як на пажар,— абураўся стары.— Во загарэлася з гэтым вяселлем! — нават плюнуў з прыкрасці.

Нарэшце ўсё было гатова. Наверсе, у кузаве грузавой машыны, стаяла дзіцячая каляска, а побач, абхінуўшыся кажухамі, сядзелі на падасланай саломе Ціхан і Хрысця, жонка Панцеляймона. Сама ж Аксін-

ня з вялізным клункам уціснулася ў кабіну. Ціхан параіў ускінуць клунак у кузаў, але Аксіння запярэчыла:

— Знячэўку дождж пойдзе ці яшчэ якая бяда...

Паехалі. Спачатку Аксіння паглядала на Панцеляймона недаверліва. Яна не тое што баялася ехаць на машыне. Не ўпершыню! Але адна справа, калі машыну вядзе сапраўдны шафёр, ды яшчэ незнаёмы, пра якога хочацца думаць, што ён так і нарадзіўся за рулём, і другая — Панцеляймон. Ды яшчэ балабоніць усю дарогу... Асабліва захвалявалася яна, калі прыехалі ў горад. Здавалася, кожная сустрэчная машына гатова з імі сутыкнуцца. Але Панцеляймон нарэшце змоўк, мацней учапіўся за баранку, і Аксіння крыху супакоілася. Да таго ж хутка прыехалі. Пятрок ужо чакаў іх каля інтэрната. Стаяў, наставіўшы каўнер і ўцягнуўшы галаву ў плечы ад холаду, у кароценькім паліце, без шапкі. У Аксінні ажно сэрца зайшлося ад жалю. Зусім жа хлапчанё...

Стрымана кіўнуў ён праз шкло кабіны: «Прывітанне, матуля!» — і лёгка скочыў цераз борт машыны. Быццам не жаніцца едзе чалавек, а так, папрасіўся пад'ехаць да наступнага прыпынку. Ні табе радасці, ні хвалявання...

— Сынок, кажушком акрыйся! Зусім змерзнеш,— крыкнула яму наўздагон маці.

— Грош цана такому жаніху, які змерзне, да нявесты едучы,— рагатнуў Панцеляймон.

І ўсё ж яны ладна такі намерзліся, пакуль даехалі да месца. Адна Аксіння выглядала добра. Толькі ў бакі яе вадзіла ад хуткай і траскай язды.

А Ціхан і Хрысця вываліліся з кузава, бы тыя качарыжкі змерзлыя. Стары доўга расціраў здранцвелыя ногі, а потым не мог разагнуцца ў паясніцы... Так і стаяў крукам пад чужымі вокнамі, стогнучы і лаючыся.

Аксіння з нецярплівасцю тузала яго за крысо кажушка.

— Ды разгінайся ж ты, старая разваліна,— шыпела яна ў скрыўлены твар старога.— Не папаўзеш жа ты на карачках у хату, на смех чужым людзям...

Глянула на жаніха — і яшчэ горай ёй стала. Хіба ж гэта жаніх! Счырванелы нос на бледным твары хутчэй надаваў яму выгляд выпівохі.

Нарэшце Ціхан выпраміўся і, шырока ставячы ногі, патупаў да ганка. Аксіння апярэдзіла яго і, хаця ёй вельмі замінаў вялізны клунак, пайшла лёгкаю, павольнай хадою, надаўшы твару выраз важнасці і рашучасці. Услед за імі, стараючыся не адстаць, цягнула кошык з гасцінцамі Хрысціна. Апошні, выскаляючыся, ішоў Панцеляймон, несучы на плячы перавернутую коламі ўверх дзіцячую каляску.

Але гэты строй быў зусім нечакана парушаны. Дзверы ў сенцах адчыніліся, на ганак выскачыла вогненна-рыжая дзяўчына з голымі лыткамі і выліла траха не пад ногі вядро бруднай вады. Пыркі трапілі нават на новую шарсцяную Аксінніну спадніцу. Дзяўчына ўмомант знікла, а Аксіння прыпынілася і пачала далоняй расціраць кроплі. Так і ў хату ўвайшлі, прыціхлыя, разгубленыя, не ведаючы, як стаць і што гаварыць.

Адзін Панцеляймон, не зважаючы ні на што, урачыста і ў той жа час гарэзліва павёў умоўную гутарку:

— Мы купцы далёкія, мы купцы нетутэйшыя. Шмат дзе бывалі, тавар прыглядалі. Людзі казалі, што ў вас цялушка прадаецца?

— Прадаецца, прадаецца...— падалася ім насустрач маладжавая кабета з ветлівай усмешкай на твары.

«Маці, напэўна»,— здагадалася Аксіння...

— А цялушка ваша не цельная? — завучана працягваў сват жартоўную размову, але, атрымаўшы лад-

нага тумака ў бок, ікнуў і змоўк, разгублена лыпаючы белымі вейкамі.

— Ваш тавар, а наш купец. Калі паладзім, то і справе канец,— скорагаворкай закончыў ён і адступіў за Аксінніну спіну.

— Паладзім... Чаму ж не паладзіць,— правяла ў адказ гаспадыня, але ветлівую ўсмешку з твару нібы карова хвастом змахнула.

— Во і лады,— павесялеў Панцеляймон, і госці няспешна расселіся па крэслах.

Аксіння ў адзін момант акінула поглядам усю хату. Хата была новая і, відаць, не зусім яшчэ дабудаваная. Голыя сасновыя сцены, нефарбаваная падлога, і ніякіх табе перагародак, адзін вялікі пакой, хоць ты танцы спраўляй. Толькі каля печкі куток, адгароджаны дзвюма ссунутымі шафамі і паркалёвай шырмай гарошкамі. І падлога, і сцены, і фіранкі на вокнах ззяюць свежасцю і чысцінёй.

«Чакалі, відаць, гасцей... Бач, як падлогу вышаравалі»,— задаволена адзначыла Аксіння.

Панцеляймон гладка і талкова, як па пісанаму, гутарыў пра надвор'е і пра ўраджай, расхваліў новую хату і гаспадыню.

«Добра, што Панцеляймона ўзялі»,— падумала Аксіння.

Ціхан і Хрысця сядзелі нерухома, з застылымі тварамі. Далася ім дарога... Але жаніх... На яго Аксінні і глядзець не хацелася. Уціснуўся ў кут, сядзіць, як мыш пад венікам. Не, каб па хаце прайсці туды-сюды, пагаварыць з людзьмі, пажартаваць...

З цікавасцю паглядала Аксіння на шырму, за якой, па яе меркаваннях, хавалася нявеста.

«Не выходзіць, людзей саромеецца... Сарамяжлівая якая...»

Панцеляймон расказаў пра ўсё, што мог, і змоўк. Ніхто не ведаў, пра што яшчэ можна гаварыць, усім

было няёмка, асабліва гаспадыні. Яна то за шырму заглядвала, то кідалася да вокнаў, пэўна, чакаючы падмогі. Калі няёмкае маўчанне зацягнулася, за шырмай раптам заплакала дзіця. Усе здрыгануліся ад нечаканасці, хаця кожны ведаў пра існаванне малога. Гаспадыня кінулася за шырму, адтуль пачуліся мітусня і шаптанне, але дзіця не сціхала. Тады паркалёвая шырма рэзка адхінулася, і на хату выйшла... не, не белатварая мадонна са строгімі і засмучанымі вачыма, якой уяўлялася Аксінні будучая нявестка, а тая самая, рыжая з голымі лыткамі, што выліла ім пад ногі брудную ваду. Пра яе чамусьці Аксіння ні разу не ўспомніла. Мільганула і згінула, як насланнё... А можна ж было здагадацца...

ВыліНялы халацік на дзяўчыне, нядбала перахоплены ў таліі паяском, на грудзях зусім раз'ехаўся. Задзірліва палае капа рыжых валасоў... Яркія вусны складзены ў пагардлівую ўсмешку...

— Люська! Ты што гэта ходзіш расхрыстаная перад чужымі людзьмі? — сварліва кінула ёй наўздагон маці.— Быццам няма чаго апрануць дзеўцы... На каго ты падобна?..

Люська нічога не адказала ёй і, ні на кога не гледзячы, падышла да печкі, дзе сушыліся на вяроўцы пялёнкі, не спяшаючыся, сабрала сушэйшыя і, віхляючы клубамі, пайшла назад за шырму. Ужо адтуль гучна агрызнулася:

— А якая ёсць! Каму не падабаюся, хай адвернецца.

Усё далейшае для Аксінні адбывалася як у сне. Помніць, як паштурхоўваў Панцеляймон Петрака ў бок шырмы, а той марудзіў, таптаўся ў нерашучасці... Як сярдзітым і абураным голасам адказвала рыжая дзяўчына на збянтэжанае мармытанне жаніха... Як гучна закрычала раптам дзіця і якая была цішыня пасля за шырмай і ў хаце...

Потым у хату зносілі аднекуль сталы і лаўкі. Рыжая дзяўчына, Аксінніна нявестка, усё ж пераапранулася ў яркую квяцістую сукенку. Аказалася яна рухавай і спрытнай. І сталы састаўляла, і закуску падавала. Мільгала па пакоі, як рыжы віхор... Дайшло да таго, што ў Аксінні пачало ў вачах мітусіцца. Куды ні гляне — усюды рыжае полымя. А яе Петрака і не бачна за гэтым полымем...

Вобмацкам, быццам сляпая, дабралася яна да дзвярэй, выйшла ў сенцы... Але і тут чакала яе непрыемнасць. У маленькай каморцы, адгароджанай новымі пахучымі дошкамі, сядзеў за сталом Панцеляймон і перакульваў чарку за чаркай. Побач стаяла хударлявая жанчына з сумнымі вачыма, сваячка гаспадыні, і спагадліва прыгаворвала:

— Ты еш, дзядзечка, еш. Гэткая ж дарога няблізкая...

Аксіння хацела ўмяшацца, але падумала і махнула рукой: «Няхай сабе...»

Выйшла на ганак і села на прыступку. Дзьмуў халодны вецер, сыпаў снежныя крупы... Кружылася ў галаве, і яна толькі зараз успомніла, што нічога не ела ад самага ранку.

«Божухна мой,— у адчаі абхапіла яна галаву.— Што ж гэта будзе?» Нясцерпна захацелася дамоў, захацелася ранейшай цішыні і спакою. Але яна з жахам падумала, што нічога цяпер гэтага не будзе, што гэты рыжы віхор, ад якога ёй робіцца млосна, будзе цяпер неадступна кіравацца за ёй, і нікуды ад яго не дзенешся.

— Што гэта ты распараджаешся маім дабром, бы ў сваім двары? — пачуўся абураны голас гаспадыні.— Што ты мяне няславіш перад людзьмі?! Хіба ж я за сталом не магу пачаставаць?

— Цыц ты!.,— загудзеў у адказ Панцеляймон.— Я пляваць хацеў на тваё частаванне. Я, можа, з гора

п'ю. Гэта ж такі хлопец! Маўчыш... Рада, нябось, што кралю сваю з рук збываеш? У... ведзьма! Усе вы ведзьмы. А хочаш, я зараз усіх тваіх гасцей паразганяю? — з адчайнай весялосцю прапанаваў ён.

«Ох, разгані, Панцеляймонка, разгані...» — тужліва заныла сэрца ў Аксінні, але яна хуценька ўзбегла на ганак і кінулася супакойваць п'янага свата.

Неўзабаве ўсе госці мірна сядзелі за сталом, пілі, елі, весяліліся. Маладыя, як і трэба, сядзелі на куце, абое прыціхлыя, з пасвятлелымі тварамі. Ім ужо праспявалі ўсе вясельныя песні, старыя жанчыны свае, моладзь свае. Гучна крычалі «горка!». А калі ўсе крыху стаміліся і ў хаце чуўся толькі няроўны гул галасоў, заспявала нявеста пра тое, што не яна пакінута, а што яна пакінула сама. У яе быў нізкі грудны голас, які крышачку дрыжэў ад узбуджэння. Усе прыціхлі. Ніхто не падпяваў ёй, Усе слухалі.

Аксіння паціху, каб не кідацца людзям у вочы, вышмыгнула з-за стала. За шырмай, побач з ложкам, стаяла высокая новая каляска. У ёй спала дзіця. А старая, якую так старанна шаравала Аксіння, як непатрэбная, была засунута за печку. Побач валяўся неразвязаны клунак з падарункамі.

Заварушылася дзіця, захныкала, і Аксіння нахілілася над ім. Дзяўчынка прачнулася і бяздумна глядзела на яе блакітнымі вочкамі.

— Як у Пятра вочкі...— пацяплела ў грудзях.— І валосікі, бач ты, светленькія... Не рыжая.

Яна нават шапачку ссунула ў дзіцяці з галоўкі, каб лепш разгледзець іх. Малому не спадабалася, што з ім гэтак абыходзяцца. Яно зморшчыла тварык і моцна закрычала.

— Ціха, ціха...— замітусілася Аксіння.— Зараз я цябе...

І з усяе сілы загайдала каляску. Але дзіця крычала ўсё мацней і мацней. Тады жанчына заўважыла

ў ражку каляскі пустышку, аблізала яе і спрытна ўсунула ў крыклівы роцік. За тым і застала яе нявестка. Выхапіла з рота дзіцяці пустышку і кінула яе ў шклянку [redacted] вадой, што стаяла побач, на крэсле.

— Разам са слінаю можна інфекцыю занесці дзіцяці! — не пазіраючы на свякруху, растлумачыла яна і, пераклаўшы дзіця на ложак, пачала яго распавіваць.

Спала ў гэту ноч Аксіння моцна, як забітая. Нават ніводнага сну не прысніла. Раніцай яе разбудзіў ціхі смех. Расплюшчыла вочы — насупраць яе ўся ў белым, у белай начной кашулі, валасы туга завязаны белай касынкай, сядзіць на ложку мадонна [redacted] дзіцем на руках. Твар яе, асвечаны з сярэдзіны мацярынскім пачуццём, у якім зліліся і радасць, і трывога, і пяшчота, здаўся Аксінні не па-зямному прыгожы.

Побач, абапёршыся на локці, ляжаў Пятрок. Твар у яго таксама быў нейкі дзіўны, а ўсмешка шчаслівая, як у дурня... Абое нахіліліся над дзіцем, якое энергічна задзірала ўгору ножкі з ружовымі пяткамі. Глядзяць з замілаваннем...

— Дурненькі ты,— ціха смяецца Люся, і голас яе аж дрыжыць ад пяшчоты.— Гэта ж у кожнага дзіцяткі такія някемлівыя вочкі, а пасля яны мяняюцца...

Пятрок, відаць, нешта зрабіў не тое, бо голас яе загучаў усхвалявана:

— Ціха ты! Твае ж рукі... Вунь, як лапаты. Вуснамі можна... І зусім яна не страшненькая... Яна ж на цябе падобна.

І абое шчасліва засмяяліся.

# Начное дзяжурства

Каця Малышкіна, студэнтка медыцынскага вучылішча, праходзіла практыку ў раённай бальніцы.

Практыка амаль закончылася, заставалася толькі адпрацаваць некалькі дзён у інфекцыйным і адбыць адно начное дзяжурства. Яна даўно вырашыла, што дзяжурыць уначы застанецца ў хірургіі.

У хірургічным аддзяленні Каці падабалася. Два тыдні праляцелі неўзаметку. Яна сама што пачала ўцягвацца ў работу, з зацікаўленасцю і нецярпеннем пачынала свой рабочы дзень, а практыка раптам і скончылася.

У інфекцыйным аддзяленні дзень цягнуўся доўга. Яна часта паглядала на гадзіннік і прыгадвала, што ў гэты час рабіла б у хірургіі, што робяць зараз там іншыя, як там без яе... Хутчэй за ўсё ніхто і не заўважыў, як знікла з вачэй маладзенькая практыкантачка... А можа, і яе зараз хто ўспамінае?..

Праз два дні яна не вытрымала, пабегла ў хірургію дзяжурыць уначы, хаця спярша планавала пакінуць гэтае дзяжурства на канец практыкі.

Падскокваючы, узбягала на другі паверх, прыгадвала, хто з медсясцёр застаўся дзяжурыць уноч, уяўляла, як здзівяцца, а можа, нават і абрадуюцца, убачыўшы яе ў аддзяленні, тыя, з пятай палаты... З пятай палатай, дакладней, з хворымі пятай палаты ў яе былі свае адносіны, асаблівыя...

Каця яшчэ больш жвава падскочыла на ступеньцы, абшмаргнула з усіх бакоў беленькі, накрухмалены (знарок пастаралася!) халацік, які і без таго шчыльна

аблягаў яе высокую, танюткую, як лазінка, фігурку, і, страсянуўшы рыжаватай грыўкай, уляцела ў калідор.

За столікам, на медсястрынскім пасту, сядзела Таіса Іванаўна, ці проста цёт Тасечка, як вымаўлялася ў Каці... З круглявым усмешлівым тварам, у квяцістай паркалёвай сукенцы пад белым халатам, у мяккіх тапачках, была яна вельмі хатняя, добрая, ласкавая... Каці, як толькі яна бачыла цёт Тасечку, заўсёды хацелася пацерціся шчакой аб яе мяккае плячо, дакрануцца да яе цёплых рук... Пэўна, і ў Кацінай мамы, калі б тая была жывая, былі б такія ж цёплыя і ласкавыя рукі, і побач з ёю было [redacted] гэтаксама спакойна і ўтульна...

Яна нікому пра гэта не казала, бо не любіла, каб яе шкадавалі, як бедную сіротку. І зусім яна не бедная, у яе ёсць сястра, і тая нават замужам і мае двухгадовага сына, Алесіка... І кватэру яны ўжо атрымалі, так што ў Каці цяпер і радні шмат, і ёсць да каго ездзіць у святы і выхадныя... І наогул, скардзіцца на свой лёс ёй няма чаго. А тое, што праз які месяц-два яна скончыць вучобу, атрымае дыплом і пойдзе на свой хлеб, надавала яе хадзе паважнасць і мернасць. Але толькі на хвілінку, пакуль яна заглядвала ў сваю сталасць. Потым яна зноў няўрымсліва падскоквала, як сініца, а твар яе з лупатымі цікаўнымі вочкамі, кірпатым носам і таўставатымі пунсовымі вуснамі, якія без дай рады расплываліся ў шырокую ўсмешку, выдаваў у ёй дзяўчо легкадумнае і зусім яшчэ маладое.

— Цёт Тасечка! — здалёку крычыць яна медсястры.— А я да вас на дзяжурства, на ўсю ноч...

Таіса Іванаўна адрываецца на хвіліну ад спраў, папраўляе акуляры і глядзіць на дзяўчыну ласкава і з нейкім непрыхаваным сумам.

— Ну, што, сініца? Нудна табе ў інфекцыйным?

— Ой, цёт Тасечка. І не кажыце...

Каця няўмела торкаецца халоднай шчакой у лоб цёт Тасечкі і прысядае на краёчак крэсла. Ёй хочацца і пагаварыць, і аббегаць аддзяленне (што тут без яе перайначылася?), паглядзець на хворых, павітацца з былымі, пазнаёміцца з новымі... Таму яна няўрымсліва круціцца на крэсле і сапраўды, як сініца, гатовая ў кожную хвіліну пырхнуць і ляцець.

— А што, цёт Тасечка, цяжкіх хворых шмат у аддзяленні?

— Як табе сказаць...— задумалася Таіса Іванаўна.— Хапае...

— А як вы думаеце, ноч будзе спакойная?

— Хай бог дае... У мінулую ноч двух прывезлі... Адзін пасля аўтамабільнай аварыі, другі з прабадзеннем язвы. Дзве тэрміновыя аперацыі...

— Ну вось,— засмуцілася Каця.— Хацела ж пайсці ўчора ўноч... Ніколі не трэба мяняць сваіх рашэнняў, праўда, цёт Тасечка? Гэткія цікавыя выпадкі правароніла!.. Чакай цяпер, калі такое надарыцца...

Каця, як і яе сяброўкі-студэнткі, знаходзілася ў тым узросце, калі прага да цікаўнага перасільвае ўсе іншыя пачуцці і разважанні. Асабліва праявілася гэта, як пачалася практыка.

І цяпер, за час практыкі, Каця старалася не прамінуць ніводнага цікавага выпадку, запомніць, запісаць у дзённік, расказаць... На практыцы яны вялі дзённікі, у якіх падрабязна запісвалі ўсё, што адбывалася за дзень, чым займаліся, што бачылі. Вось і зараз, калі прыціхла, пачало засыпаць трывожным сном аддзяленне, Каця расклала на стале побач з паперамі Таісы Іванаўны свой сшытак у чырвонай каленкоравай вокладцы, на якой было надрапана «Дзённік», і няспешна вывела круглым вучнёўскім почыркам: «Ноч на дваццаць шостае снежня. Дзяжурства ў хірургічным аддзяленні...»

Напісала і задумалася.

— Ну вось, зусім няма чаго пісаць,— з прыкрасцю сказала яна.

— Як няма чаго? — здзівілася Таіса Іванаўна.— Пішы ўсё, што рабіла... Мерала тэмпературу, раздавала лякарствы, рабіла ўколы, ставіла гарчычнікі... Што табе яшчэ трэба?

— Я ўжо гэта пісала... Адно і тое ж! Што гэта за практыка? Сорамна будзе каму дзённік паказаць... Хоць бы адна цікавая аперацыя!.. Адны апендыксы...

— От, напішы, што дапамагала мне кропельніцу ставіць Гуркову,— паспачувала Таіса Іванаўна.

— Дык жа вы без мяне яе паставілі...

— Ат, хто гэта будзе ведаць,— адмахнулася Таіса Іванаўна.

— А як жа! — засумнявалася Каця.— Галоўны ўрач будзе правяраць мой дзённік і падпісваць. Нядобра...

Нейкі момант яны займаліся кожная сваёй справай: Каця нехаця крэмзала штосьці ў дзённіку, Таіса Іванаўна ўважліва правярала лісты назначэнняў.

— А што, гэты Гуркоў надта хворы? — запыталася Каця.

— Відаць, надта,— уздыхнула Таіса Іванаўна.— Сёння цэлы дзень вадкасць унутрывенна капаюць... Ён жа пры табе яшчэ паступаў?

— Не, не памятаю,— адказала Каця.

І раптам яна ўспомніла.

Два дні назад у яе закончылася практыка ў хірургіі, і яна спускалася па лесвіцы, хацела ўжо ісці дамоў. Унізе стаялі жанчына ў белай пуховай шапачцы і тоўсценькі чырванашчокі хлопчык. Жанчына папрасіла:

— Сястрычка, вы не занясеце вось гэта майму мужу, Гуркову? Ён у трэцяй палаце...

І падала ёй пакунак у цэлафанавым мяшэчку.

Каці не хацелася вяртацца, але яна ўзяла ў жанчыны мяшэчак і крыху затрымалася. Ёй вельмі спадабаўся таўсматы хлопчык, які сур'ёзна, спадылба паглядаў на яе. Як гэта часта здаралася з Кацяй, ёй ні з таго ні з сяго захацелася ўшчыкнуць хлопчыка за тугую шчочку. Яна нават пацягнулася да яго рукой, але хлопчык хуценька схаваўся за маці... А калі Каця ўзбегла на пляцоўку другога паверха і адтуль агледзелася, паказаў ёй язык. Каця засмяялася і з гэткай вясёлай усмешкай уляцела ў трэцюю палату.

Яе тады ўразіў шэры, зямлісты твар Гуркова, яго глыбока запалыя вочы. Цяжка было звязаць у адно яго і тых, што засталіся ўнізе, расчырванелых з холаду.

— Колькі год гэтаму Гуркову? — спыталася яна зараз у Таісы Іванаўны.

Тая разгарнула гісторыю хваробы, адказала:

— Трыццаць шэсць...

— Гэтакі малады! — не паверыла Каця.— А выглядае сталым...

— Хвароба нікога не маладзіць...

— А ў яго жонка прыгожая,— задаволеная, што таксама нешта ведае пра хворага, сказала Каця.— І сын. Смешны такі!..

Таіса Іванаўна нічога не адказала, і яны зноў схіліліся над паперамі.

Пачулася дробнае, выразнае пастукванне абцасікаў. Каця здрыганулася. Да стала набліжалася Людміла Фёдараўна, дзяжурны ўрач. Каця амаль кожны дзень сутыкалася з ёй у аддзяленні, але тая, як і ў першы дзень, заставалася для яе чужой і незразумелай. Каця ніяк не магла даўмецца, чаму яе заўсёды прыводзіла ў здранцвенне гэтая маладая прыгожая жанчына з ярка нафарбаванымі вуснамі і млявым, загадкавым позіркам. Часцей за ўсё яна не звяртала на дзяўчыну ніякай увагі, але Каці здавался, што яна толькі пры-

кідваецца абыякавай, а сама неадступна сочыць за кожным яе рухам, сочыць насмешліва і нядобразычліва. Ад яе позірку Каця рабілася маруднай, нехлямяжай, усё валілася [redacted] рук. Людміла Фёдараўна ўздрыгвала, [redacted] нейкай агідай перасмыкала плячамі і кідала коратка:

— Рукі ў цябе, як граблі... Вечна ўсё валіцца...

Паварочвалася і, цюкаючы тоненькімі абцасікамі, нібы абражаная, выходзіла прэч.

— Ну што ў вас, ціха? — млява пазяхаючы, спыталася яна ў медсястры.

— Пакуль што, слава богу, усё добра,— ахвотна адказала Таіса Іванаўна.

— То я прылягу ў ардынатарскай. Калі што — пабудзіце...

Яна на хвіліну адчыніла дзверы ў трэцюю палату, мусіць, паглядзела на Гуркова, і, гулка выстукваючы на ўсё аддзяленне, падалася да ардынатарскай.

Каця [redacted] палёгкай перавяла дых, Таіса Іванаўна коратка зіркнула на яе з-пад акуляраў і схавала ўсмешку.

— Чаму гэта яна такая? — шэптам спыталася Каця.

— Якая? — не далася на гаворку Таіса Іванаўна.

— Ну... Як пройдзе, дык аж мароз па скуры,— растлумачыла дзяўчына.— Не хацелася б, каб яна мяне лячыла.

— Дармо... Яна неблагі доктар...

— Хай сабе,— не здавалася Каця.— А я ўсё роўна да яе не хачу.

— От, ты меней пра яе думай,— згладзіла размову Таіса Іванаўна.— Зараз яна ляжа спаць, а заўтра вы з ёй развітаецеся, можа, і назаўсёды... Што яна табе?..

Над сталом загарэўся сігнал. Звалі ў пятую палату.

— Сходзі, спытайся, што трэба,— сказала Таіса Іванаўна.

— Ай! Так, пэўна... Ад няма чаго рабіць...

Пятая палата была мужчынская. Два хворыя ляжалі там даўно, абодва з цяжкімі пераломамі ног, адзін маладзейшы, інтэлігент, другі ў гадах, вясковы дзядзька. Яшчэ быў там таўставаты мужчына немаладога веку, у якога балела ўсё, і Каця не ведала, ад чаго ён лечыцца, і малады русявы хлопец Славік. Славіку нядаўна выразалі апендыцыт, і Каця па першым часе нават шкадавала яго. А цяпер вось праз яго не хоча заходзіць і ў палату. Бо хто яго ведае, што там у яго ў галаве. Ведама ж, адно дурное... І жарты ў яго дурныя... Пакуль яна яго ўведала, то яму нічога не каштавала і напалохаць яе, і да слёз давесці. Гэта цяпер яна паразумнела... А то зрабіла яму першы раз укол... Як на каго іншага, то «дзякуй» сказаў бы ці паморшчыўся. А гэты ляжыць, хоць бы зварухнуўся... Як лёг ніцма, так і ляжыць... Бы нежывы... Каця знікавела, патапталася побач, а той хоць бы слова... Ёй здалося, што памёр чалавек. Яна ж ведала, што можа такое здарыцца, што бывае гэткая імгненная рэакцыя на ўкол. Яна ажно затрэслася... Пачала мацаць рукі, але пульса не знайшла. Не памятае, як выскачыла ў калідор, як бегла назад разам з устрывожанымі ўрачамі... А прыйшлі — ён задзірае сабе ногі ўгору і рагоча на ўсю палату... Кацi хацелася тады кінуцца на яго з кулакамі, але яе выпхнулі з палаты, і яна ледзь не плакала ад крыўды і сораму.

З таго часу і пачалося... Пакуль зробіш яму ўкол — настаішся перад ім. А ён:

— А пакажы, ці тоненькая іголка? Ага... Тоненькая... А ці будзе балець?.. А што, калі будзе?..

Нясе розную лухту, абы толькі пагаварыць. У Каці іншы раз канчаецца цярпенне, і яна паварочвае да дзвярэй. Хворы крычыць наўздагон:

— Кацечка, золатца, калі ўжо... Гэта я так, пажартаваў...

Такія ў яго жартачкі... Тое ж самае, як прыносіш лякарствы...

— А ці горкае?.. А можа, усё-такі горкае?.. А чаму сама не паспытала?..

Пакуль аднаго разу той вясковы дзядзька, што ляжаў з пераломам нагі, не вытрымаў:

— Ты, хлопец, калі закахаўся, то так і скажы... А не муч дзеўку.

Яны тады абое зачырваneліся... Славік адразу паглытаў усе лякарствы, Каця хуценька пазбірала пустыя шклянкі і выскачыла з палаты. З таго часу ёй няёмка заходзіць да іх. Хаця Славік больш і не жартаваў, а так, як і яна, адводзіў убок позірк, калі яны сустракаліся вачыма.

Каця, калі бегла на дзяжурства, думала, што ён ужо выпісаўся. Да палаты падыходзіла і баялася расчыніць дзверы. Раней таксама баялася, але цяпер гэта быў іншы страх. Страх не ўбачыць яго болей ніколі...

Ён чытаў кніжку. На Кацю паглядзеў так, быццам тая з неба звалілася. Потым, не хаваючы сваю радасць, ускочыў з пасцелі. Стаялі адзін насупраць аднаго і разгублена ўсміхаліся.

— Адкуль ты? — нарэшце вымавіў Славік.— Мне сказалі, што ў цябе ўжо скончылася практыка...

— Не, яшчэ засталося начное дзяжурства...

Яна раптам засаромелася, заспяшалася, выскачыла з палаты, быццам у яе і без таго клопату хапае...

Сігнал над сталом не патухаў, і Таіса Іванаўна здзіўлена і нават з дакорам паглядзела на Кацю.

— Добра... Збегаю, гляну, што ў іх там,— абыякава адказала дзяўчына, адчуваючы, як моцна-моцна затахкала сэрца.

— Сястру звалі? — знарок строга спыталася яна, прыадчыніўшы дзверы.

— Каця... Хадзі сюды, пасядзі са мной,— пачула

яна шэпт з таго кута, дзе стаяў Славікаў ложак.— Мяне заўтра выпісваюць...

— Няма мне калі сядзець,— па-ранейшаму строга адказала яна.— Пісаць трэба...

— Каця...

Яна хуценька зачыніла дзверы і вярнулася да стала.

— Што ў іх там? — спыталася Таіса Іванаўна.

— Так... Глупства...— адказала Каця.

А ў душы спуджаным птушанём трапятала радасць, у вушах стаяў усхваляваны, ласкавы шэпт: «Каця...»

— Ты ўжо не ўсаджвайся,— перапыніла яе Таіса Іванаўна.— Схадзі, глянь заадно, як там гэты Гуркоў... Ці ўсё добра там з кропельніцай... Ды можаш ужо прылегчы, падрамаць...

— Што вы! — абурылася Каця.— І не падумаю! Я прасяджу з вамі ўсю ноч...

— Добра, добра,— заспакоіла яе Таіса Іванаўна.— Толькі няма чаго табе сядзець усю ноч. Нічога цікавага ты не выседзіш...

Каця адчыніла дзверы трэцяй палаты і аслупянела... Матляліся, боўталіся абарваныя трубкі кропельніцы, вадкасць з іх рытмічна капала на падлогу... Ложак, на якім ляжаў хворы Гуркоў, стаяў пусты, на ім валялася толькі пакамечаная, збітая коўдра... Падушка ляжала побач, на падлозе... У тую ж хвіліну яна ўбачыла яго самога. Ён стаяў на падаконніку, намагаўся адчыніць фортачку.

— Хворы! Як вам не сорамна! Што гэта за хуліганства такое?! — усклікнула Каця.— Вы навошта разбурылі кропельніцу?

Ён павярнуў да яе цёмны, як чыгун, твар з вытрашчанымі вачыма і прахрыпеў:

— Задыхаюся... Паветра...

Каця паспешна сцягнула яго з падаконніка на ложак, а сама палезла адчыняць фортку.

Свежы струмень паветра ўдарыў ёй у твар. Яна з асалодай падстаўляла насустрач пухнатым сняжынкам вусны, шчокі, лоб...

Калі аглянулася, Гуркоў ляжаў, адкінуўшыся на падушку.

— Цёт Тасечка! Цёт Тасечка! Гуркоў! — з жахам выкрыквала яна, бегучы па калідоры. Убачыўшы на твары старой медсястры адбітак свайго страху, крыху супакоілася.

— Людмілу Фёдараўну будзі! Хуценька... Пасля гэтага ўсё адбывалася з такой хуткасцю, што, здавалася, час не паспяваў за падзеямі... І калі б у Каці спыталіся пасля, колькі ж усё гэта працягвалася, яна б не адказала... Можа, ноч? Ці цэлую вечнасць? А можа, лічаныя хвіліны?..

Здавалася, доўга, вельмі доўга спускалася яна ўніз, у прыёмную, каб адправіць машыну «хуткай дапамогі» па Сцяпана Кузьміча, загадчыка аддзялення, і доўга вярталася назад, хаця зрабіла гэта ў адно імгненне.

У трэцяй палаце, куды яна ўварвалася як віхура, яе ўразіў больш, чым некалькі хвілін назад, чыгунны твар хворага, выгляд Людмілы Фёдараўны, ускудлачанай пасля сну, з распэцканай па твары губной памадай.

Убачыўшы Кацю, яна адхінулася на хвіліну ад хворага, выкрыкнула:

— Кафеін! Эфедрын! Хуценька!..

І да Таісы Іванаўны з прыкрасцю:

— Вены! Шукайце вены!.. І зноў прыпала да пасінелых вуснаў хворага... Удых! Выдых... Удых... Выдых...

Калі ў дзвярах з'явілася мажная постаць Сцяпана Кузьміча, усе адчулі нейкую палёгку...

— У аперацыйную! — гучна загадаў ён.— Рыхтуйце апарат штучнага дыхання. Каця! Адрэналін і вялікую іголку!

І Каця з усіх ног кідалася выконваць загад. Яна адчувала, як паступова ўцягваецца, падпарадкоўваецца гэтаму шалёнаму рытму, у якім закруцілася ўсё вакол хворага, і адчуванне гэтае п'яніла яе. Ад нервовага ўзбуджэння дрыжала нутро, але рукі яе, як ніколі, спрытна і дакладна рабілі ўсё, што ад яе патрабавалі.

Пачуўшы шум і тупаніну, у аддзяленні папрачыналіся хворыя. Паадчынялі дзверы, трывожна перагаворваліся, кідалі на яе запытальныя позіркі. Прабягаючы міма, яна пазглядала на іх са шкадаваннем і з гонарам за сябе, А як жа! Яна была па-за той сцяной, дзе адбывалася зараз штосьці таямнічае і жудаснае, пра што яны маглі толькі дагадвацца. Да таго ж, яна не проста звычайная сведка, за якіх трымалі іх раней на практыцы, яна ўдзельнічае ва ўсім, што дзеецца, і ад таго, як хутка і дакладна яна ўсё зробіць, залежыць, можа, жыццё чалавека..,

У нейкі момант яна спынялася ў аперацыйнай, не ведаючы, што рабіць, але па нервовым дрыжанні ўсяго цела адчувала, што стаяць без справы не можа.

— Давайце, я падыхаю яму,— тузала яна за рукаў Таісу Іванаўну, у якой ад стомы змакрэў лоб.

— Не трэба. Мы ўжо падключаем апарат,— за Таісу Іванаўну адказала Людміла Фёдараўна, надзіва лагодна, і, здаецца, нават кіўнула ёй з удзячнасцю.

— Каця! Яшчэ адрэналін і доўгую іголку...

І яна бегла ў працэдурную. Што ні кажы, а пашанцавала ёй сёння з дзяжурствам. Гэткі цікавы выпадак! Каця ўяўляла, як распіша падрабязна ўсё ў дзённіку, як раскажа пасля сяброўкам... Нават нічога не прыбаўляючы... Яна і сапраўды шмат зрабіла, каб выратаваць чалавека. Каб не яна... А гэты Гуркоў, вядома, ніколі не здагадаецца, як яна для яго шчыравала... Ну, канечне, практыкантачка... Але што за глупства лезе ёй у галаў! Яна ж проста выконвала свой абавя-

зак. Як Сцяпан Кузьміч, як Людміла Фёдараўна, як цёт Тасечка... Навошта ёй чыя падзяка?.. І раптам успомніла дураслівы тварык сына Гуркова, яго тугія шчочкі і радасна засмяялася. Вось што для яе галоўнае! Заўтра стомлена ўсміхнуцца гэтаму хлапчыню і паблажліва паляпаць яго па плячы:

— Усё добра, малы... Усё ў парадку...

У аперацыйнай яе ўразіла незвычайная цішыня. Неяк адзінока і сіратліва стаяў пасярод пакоя стол, на якім ляжаў Гуркоў. А ўсе, і Сцяпан Кузьміч, і Людміла Фёдараўна, і цёт Тасечка, і іншыя, усе пакінулі яго раптам, адступіліся... Яна паспешна совала шпрыц з адрэналінам у рукі Сцяпану Кузьмічу, а той не схапіў яго, як звычайна, з прагнасцю, а паглядзеў на яе неяк дзіўна, нібы ўпершыню бачыў.

— А... Адрэналін...— нарэшце вымавіў ён.— Што ж... Укалі сама...

І заўважыўшы непаразуменне на яе твары, торкнуў пальцам у ледзь прыкметную кроплю на целе Гуркова, крыху ніжэй левага саска.

— Вось сюды,— сказаў і паспешна выйшаў з аперацыйнай. Яна разгублена аглянулася на Таісу Іванаўну... Тая абняла яе за плечы і павяла да дзвярэй.

— Пойдзем,— сказала яна.— Ён памёр...

Яна плакала моцна, на ўвесь голас, як дзіця, хліпаючы і размазваючы па шчаках слёзы. Яна і сапраўды была падобна на пакрыўджанае дзіця, якое загулялася з сонечным зайчыкам, гулліва цягнулася да яго ручкамі, а нехта жорсткі і злы падсунуў замест зайчыка распаленае жалеза.

— Чаму?.. Чаму ўсё так?.. Навошта?! — у роспачы, праз слёзы пыталася яна.

Таіса Іванаўна моўчкі стаяла побач з крэслам, на якім сядзела Каця, прыціскала яе мокры твар да свай-

го мяккага жывата, гладзіла яе вострыя, дрыготкія плечы...

У перавязачную зайшла Людміла Фёдараўна. Яна была, як заўсёды, спакойная, акуратна прычасаная, белы халацік, быццам і не той, што быў на ёй некалькі хвілін назад, зграбна сядзеў на яе статнай фігуры. Толькі твар быў бледны. Яна глянула на заплаканую дзяўчыну, нічога не сказала, падышла да люстэрка і стала няспешна фарбаваць вусны.

Толькі пасля гэтага сказала:

— Маладая, а ўжо нервы... Дайце ёй валяр'янкі...

А Каця і без таго сціхла, як убачыла Людмілу Фёдараўну. З жахам глядзела яна на яе спакойны прыгожы твар, глядзела, як тая старанна фарбуе вусны, як акуратна падпраўляе фарбу тоненькім ружовым пальчыкам...

Калі сказала пра Кацю — «нервы», тая ледзь вытрымала, каб не закрычаць. Душа яе як не разрывалася ад пачуццяў: і ад страху перад тым непапраўным, жахлівым, што здарылася, і ад усведамлення свайго бяссілля, ад сораму за сябе, ад брыдкасці да сваёй нядаўняй недаравальнай радасці... А для іншых, аказваецца, усё гэта толькі нервы. Трэба выпіць валяр'янкі, і ўсё зноў стане такім, як было...

«А Гуркоў?! — зноў балюча кальнула ў сэрца.— Яго ж няма... Здарылася непапраўнае... Навошта ж прытварацца? Каму патрэбна няпраўда?..»

— Пойдзем піць чай у ардынатарскую,— стомленым голасам сказала Людміла Фёдараўна.— Я па вас прыйшла...

У ардынатарскай ужо закіпеў самавар. Сцяпан Кузьміч, без халата, у сарочцы з расшпіленым каўняром, вольна сядзеў у крэсле, лыжачкай памешваў чай у шклянцы і гучна гаварыў:

— Раней людзі як паміралі... Надумае чалавек памерці, ну, пажыў, значыцца, наглядзеўся ўсяго на сваім вяку... Карацей, абрыдла яму ўся гэтая сумятня... Пара ўжо, думае, памерці мне... Радню сваю пакліча, развітаецца з усімі, кожнаму параду дасць, як жыццё без яго дажываць... А цяпер? Ніякага парадку...

За акном стаяла чорная раўнадушная ноч. Як толькі гаворка заціхала, Каці рабілася вусцішна, яна сціскалася ў камячок і тулілася да Таісы Іванаўны. Людміла Фёдараўна таксама раз-пораз кідала погляды ў застылую цемень, нервова паводзіла плячамі і зморана казала:

— Хутчэй бы ўжо ноч канчалася...

А Каця пры гэтым думала, што раніцай прыйдуць да Гуркова жонка з сынам, прынясуць перадачу ў цэлафанавым мяшэчку, і тады раніца здавалася ёй не менш жахлівай, чым гэтая бясконцая ноч.

# Дзень першы

Мне не пашанцавала пры размеркаванні: Запаляр'е, Паўночнае ззянне і запрэжкі аленяў засталіся марай, а рэчаіснасць рыхтавала мне звычайную работу ўрача сельскай бальніцы.

І станцыя, на якой я выйшла з поезда, з запыленымі клумбамі ўздоўж перона і густым кустоўем бэзу і язміну, уразіла мяне сваёй звычайнасцю і падабенствам. Было такое адчуванне, што ўсё гэта я ўжо бачыла.

Жнівеньскі поўдзець у разгары. Сонца пячэ неміласэрна. Чамадан з кожным крокам робіцца ўсё больш важкім, ногі, абутыя ў новыя туфлі, гараць, як у агні. Але горш за ўсё адчуванне сваёй непатрэбнасці тут, выпадковасці свайго прызначэння. Навошта я дала згоду на гэтыя Мятліцы? Хіба я не здольная ні на што іншае, як сядзець у гэтай глухамані? І якая тут будзе з мяне карысць, калі бальніцу і тую закрылі як непатрэбную?

Зноў успомнілася гаворка з галоўным урачом раёна:

— Мятліцкую бальніцу мы закрылі як бесперспектыўную. Непадалёку будуецца новая. А ў Мятліцах зрабілі ўрачэбны ўчастак. Праўда, кадрамі яшчэ не ўкамплектаваны. Вам, маладому спецыялісту, і карты ў рукі...

Цяпер яго словы гучалі як насмешка. Бальніцу закрываюць як бесперспектыўную, кадры скарачаюць, былога доктара, як вопытнага спецыяліста, забіраюць

у цэнтральную бальніцу, а замест яго ў гэтую глухамань прысылаюць мяне.

Урэшце дарога вывела мяне да маладога ельніку. Побач была бальніца. Высока на ўзгорку, адкрыты паглядду, стаяў невялічкі драўляны будынак з прасторнымі, шырокімі вокнамі. Сцяжынка да высокага разнога ганка чыста падмецена, уздоўж яе кусты парэчак з пераспелымі чорнымі і чырвонымі ягадамі. Бліжэй да паркана — зарасці малінніку. Шмат кветак, і цішыня. У бальніцах, дзе праходзіла практыку, мяне ўражвала і зачароўвала асаблівае, ні на што не падобнае жыццё, напружанае і няроўнае, нібы пульс у хворага гарачкай. І ад гэтай цішыні, ад гэтага бязлюддзя я зусім зніякавела. Здавалася, што ўсе пакінулі гэты будынак, выракліся яго.

Але я памылілася. У калідор выйшла жанчына. Я заўважыла, як у здзіўленні акругліліся ў яе блакітныя вочы, як па-дзіцячаму бездапаможна раскрыўся рот, калі яна даведалася, што перад ёй новы загадчык урачэбнага ўчастка. І хвіліну счакаўшы, сказала:

— Мяне тут Савельеўнай завуць.— Пасля гукнула: — Анюта! Анютка!..— госця ў нас.

У дзвярах паказалася Анюта, ужо немаладая, але прамая і хударлявая жанчына. Савельеўна прыпала да яе пляча і заплакала.

Жанчыны нагадвалі мне людзей, якія пацярпелі караблекрушэнне. Савельеўна, як я даведалася, акушэрка бальніцы. Усё яшчэ час ад часу змахвала з вачэй слёзы санітарка, якую звалі Анютай, глядзела некуды ўдалячынь, і цемнаваты твар яе з глыбокімі маршчынкамі каля вачэй быў суровы.

— Хто ж гэта думаў, хто гадаў, што так усё перайначыцца,— тоненькім жаласным голасам скардзілася Савельеўна.— Наляцелі, нібы тыя ліхадзеі, усё размялі, параскідалі... Была бальніца — і няма... А мы ж яе гадамі будавалі... Я, дзетачка, хоць і аку-

шэрка, а чаго толькі не перарабіла... І раствор мяшала, і бяліла, і фарбавала... А які сад пасадзілі!.. Цяпер усё гэта непатрэбна нікому... Закрылі... І мы без справы пакутуем, і людзі гаруюць. У Межына, дзе будуецца новая бальніца, ім не з рукі, у горад — далёка. А тут жа ўсё побач было. Цяпер во і сцежачкі да нас травой пазарасталі... Доктара няма. Лекаў таксама... Чаго ісці да нас? Хіба што мяне мае жанчынкі наведваюць. А так во сядзім з Анютай, сумуем...

Я пачала гаворку пра тое, што цяпер мы будзем займацца прафілактыкай і работы прыбавіцца.

Савельеўна рассеяна кіўнула галавой:

— Як жа... Вы маладыя — у вас усё наперадзе. А нам застаецца толькі пенсіі чакаць.

Некалькі хвілін абедзве задуменна маўчалі. Нарэшце Савельеўна схамянулася, холадна і нядобразычліва зірнула на мяне, нібы і я была віною іх такога становішча. Пасля падкрэслена афіцыйна спытала, калі збіраюся прыняць «справы». Я згадзілася зрабіць гэта неадкладна.

Савельеўна зарыпела дзверцамі, зашамацела паперамі. Яна доўга зносіла розныя папкі і журналы.

— Гэта журнал пасямейных спіскаў,— казала яна.— Насельніцтва мы звяраем звычайна ў канцы года ў сельсавеце...

І журнал паспешліва адкладвала.

— У гэтым мы рэгіструем прыём хворых, у гэтым працэдуры...

Сонца ўжо садзілася за верхавіны дрэў, калі мы, старанна пералічыўшы рэчы, выйшлі на двор, каб упэўніцца ў наяўнасці каня, саней і воза, хлява, павеці і агароджы.

Але спярша мне паказваюць сад. З гордасцю і непрыхаваным болем. Абцяжараныя галіны яблынь гнуцца аж да зямлі. Усюды валяюцца ападкі. Іх не збіраюць. Што з імі рабіць?.. І навошта гэты, нібы

ў насмешку, шчодры ўраджай?.. Савельеўна з раздражненнем футболіць яблыкі, вядзе далей, расказвае:

— Вось маліна... Да яе яшчэ не дапала дзятва. Хутка ўсё выберуць, ды яшчэ і траву наўкол павытапчуць. Яблыкі і парэчкі не чапаюць. Парэчак, бывала, на ўсю зіму хапала хворым. Што з ёй цяпер рабіць?.. А то хай сабе... Птушкі падзёўбаюць... Гарод зарос быллём. Сёлета нічога не садзілі... А раней усё сваё было: і бульба, і гурочкі, і памідоры. На будучы год папрасі сабе тут участак. Як спецыялісту выдзеляць дваццаць пяць сотак. Зробіш тут грады, пасадзіш бульбу. Лішкі ўвосень прадасі.

Савельеўна кажа пра гэта проста, як пра даўно вырашаную справу. Але я бачу, які боль хаваецца за кожным яе словам. Некалі яны з Анютай садзілі гэты сад, ураблялі зямлю... Цяпер гэта нікому непатрэбна.

А потым мы доўга грабём бальнічнае сена, складаем у копы. Копы выходзяць прыгожыя. Я на поўныя грудзі ўдыхаю гаркаваты, духмяны пах сена, з асалодай адчуваю ў руках гладкае грабільна. Мне весела, што яно ўрэшце зрабілася паслухмяным у маіх руках, і здаецца, што больш прыемнай работы я не рабіла ў сваім жыцці ніколі. І ўсё ж пад вечар ад напружання дрыжаць рукі. Савельеўна, прытомленая работай, падае на капу, адна Анюта працуе па-ранейшаму лёгка, не ведаючы стомы, і цёмны твар у яе асвятляе паблажлівая ўсмешка.

У канцы двара стаіць калодзеж. Да яго пратаптана толькі адна вузенькая сцежка. Па ёй водзяць на вадапой каня.

Вельмі хочацца піць.

— Клім! — гукае Анюта старога, які паказаўся з-за хлява, ведучы на павадку каня.— Прынясі вадзіцы. І з доктарам пазнаёмішся...

Клім тупае сабе, нібы і не чуе. І самі мы па ваду

не спяшаемся. Нарэшце ён прыпыняецца каля нас, незласліва высмейвае нашу работу.

— Вой, Клім! — пасміхаецца Анюта.— Маўчаў бы ўжо... Сам і такіх не зробіш.

Клім змаўкае, Анюта задаволена ўсміхаецца. Работа зблізіла нас, цяпер мне хочацца пасябраваць яшчэ са старым. Я набліжаюся да каня, які стаіць непадалёк, і нясмела дакранаюся рукой да вільготнай пысы.

— Асцярожна, укусіць,— буркае ў вусы Клім, і я спалохана адхопліваю руку. Усе смяюцца, а я адчуваю, што чырванею.

— Не бойся, яна смірная,— усё з той жа паблажлівай усмешкай, якая з'явілася ў яе тут, на сенакосе, гаворыць Анюта,— ды і зубоў у яе няма — старая.

Сівая прысадзістая кабыла і сапраўды выглядае панура, звярэджана. Стары няспешна выцягвае з кішэні люльку, закурвае. Выпускаючы дым, звяртаецца да мяне:

— Значыцца, за галоўнага доктара прыслалі да нас?

— Буду загадчыцай,— неахвотна адказваю я.

— Замест Віктара Андрэевіча? — сумна ўдакладняе ён.

Мне стала няёмка ад яго слоў, нібы я была вінавата, што бальніцу закрылі, а замест паважанага доктара прыслалі мяне, маладзенькую дзяўчыну.

— А бальніцу ў нас адновяць?..

— Не ведаю,— няўпэўнена гавару я,— многае будзе залежаць ад нашай работы.

— Вось і я так думаю,— павесялеў стары.— Усё можа перайначыцца...

Тады я не ведала яшчэ, што ў хуткім часе стану іх гарачым прыхільнікам. Трэба было пажыць тут, далучыцца да людскіх клопатаў, наведаць хоць раз тую славутую бальніцу ў Межыне...

Росным сонечным ранкам спяшаюся ў бальніцу — пачынаецца мой першы працоўны дзень. На дзвярах шыльдачка з чорнымі літарамі: КАБІНЕТ УРАЧА. Учора нават не звярнула на яе ўвагі, быццам гэта мяне яшчэ не датычылася. А сёння я нібы спатыкаюся аб гэтую шыльдачку, замаруджваю крок. На вільготнай пасля мыцця падлозе сонечныя зайчыкі, ад свежых прасцін і сурвэтак, якія Анюта заслала ў гонар новага доктара, усё здаецца чыстым і строгім, як у аперацыйнай. Маўчыць тэлефон. Хвалюючыся, апранаю бялюткі накрухмалены халат і саджуся за стол. Чакаю першага хворага.

Хутка з'яўляюцца мае калегі. Апошняй у кабінет заходзіць патранажная сястра. Буры ад загару твар, цёмная сукенка, неахайна захутаная хустка... Панура зірнула на мяне і, нічога не сказаўшы, уселася за спіной.

І раніца ўжо не здаецца мне гэткай яснай і сонечнай, а кабінет урачыста-святочным, быццам сонечныя праменьчыкі, дайшоўшы да акна, спатыкаюцца аб панурую і маўклівую жанчыну.

Я чакаю, што яна пойдзе куды, але дарэмна. І ніхто з маіх падначаленых не спяшаецца. Гамоняць пра гаспадарчыя справы: хто колькі насаліў грыбоў, наварыў варэння, гадаюць, ці добрая будзе восень і ці ўродзіць сёлета бульба... Я павінна зараз спыніць гэтыя размовы, напомніць пра абавязкі кожнага. Калі я не зраблю гэтага сёння, заўтра ўжо ніхто не будзе мяне слухаць. Але людзі гэтыя сталейшыя за мяне, і гамонка ў іх гэткая шчырая, мірная, пагляды ў мой бок лагодныя і сяброўскія. І я маўчу.

Урэшце ўсё вырашаецца само сабой — з'яўляецца хворы, хударлявы, абраслы рыжым шчаціннем мужчына. Ён нерашуча прыпыняецца на парозе...

— Праходзьце... Праходзьце,— лагодна запрашаю я.

— Гэта на перавязку,— перапыняе мяне Анюта.— Ідзі, Пахом, у перавязачную і чакай...

І дадае ўслед:

— Колькі трэба гаварыць, што перавязачная побач.— Потым да Шаматухінай, ужо больш лагодна: — Ты б, Аляўціна, хоць халат накінула... Бачыш, чалавек на перавязку прыйшоў...

— Я не перавязачная сястра, а патранажная,— агрызнулася тая.— Мой клопат — дзеці і картачкі... А вы тут як сабе хочаце...

І загукала пранізліва, са злосцю:

— Клім! Клім!..

З'яўляецца згорбленая панурая постаць старога.

— Ты каня думаеш сёння запрагаць ці не?..

— Загаду не было,— буркнуў той у адказ.

— Гэта ты якога яшчэ загаду чакаеш? Дзіцяці ў Стаўрах тэрмінова трэба прышчэпку рабіць, а ён яшчэ загаду нейкага чакае...

Стары маўчыць, крадком пазірае на мяне з-пад кусцістых сівых броваў — чакае майго загаду. Учора мы дамовіліся паехаць пазнаёміцца з участкам. Хто ж гэта ведаў, што яшчэ гэтай Шаматухінай спатрэбіцца конь. І ці сапраўды ў яе неадкладная справа?..

— Клім Захаравіч! Вы пачакайце ў калідоры... Мы тут разбяромся.

Шаматухіна насмешліва хмыкнула за спіной.

Я пайшла да хворага ў перавязачную, паглядзела яго невялічкую, ужо добра загоеную рану на руцэ, перавязала. Пры гэтым падумала, ці добра гэта, што сама раблю перавязку, а падначаленыя сядзяць без справы.

«Гэта дробязь,— разважала я.— Але з гэтага ўсё пачынаецца... Яны не будуць мяне слухацца... Які я для іх аўтарытэт?..»

Нарэшце з'явіўся сапраўдны хворы. Немалады і занадта поўны мужчына папрасіў памераць ціск, Апа-

рат паказваў жахлівую лічбу. Трэба было дзейнічаць, ратаваць чалавека. І я выратую, пакажу, на што здатная!

— Ну, што там у мяне? — бесклапотна пацікавіўся хворы.

— Нічога дрэннага,— стрымана адказваю я.— Давядзецца крыху паляжаць у нас... Ганна Пятроўна! Падушку!

— Доктар! — спалохаўся хворы. Што вы збіраецеся са мной рабіць?!

О!.. Гэты хворы можа не хвалявацца. Гіпертанічную хваробу я ведаю на выдатна.

— Не хвалюйцеся... Мы зробім вам усё неабходнае...— гаварыла я ўпэўнена, нават Шаматухіна не адважылася хмыкнуць у адказ.

— Доктар,— учапіўся мне за руку мужчына.— Я не магу тут ляжаць. У мяне тэрміновая работа. Я на хвілінку толькі да вас...

— А дзе б вам хацелася ляжаць? — перапыняю яго пытаннем.

Ён пакорліва прысеў на краёк канапы, але ўбачыўшы, што я накіравалася да працэдурнага століка, занепакоіўся...

— Доктар! Што вы хочаце мне калоць?.. Мой арганізм не прымае дыбазол... І вен у мяне няма... Я бухгалтар, я не працую фізічна... Вось паглядзіце... А ціск мой увесь тыдзень на 240 трымаецца.

Сёння ціск быў меншы. Але хвораму я гэтага не сказала.

На працягу дня, першага дня сваёй самастойнай працы, я не раз намагалася зрабіць штосьці значнае, вялікае. А на самай справе займалася дробязямі.

Убачыўшы набор медыкаментаў, якімі карысталася ў сваёй практыцы Савельеўна, я вырашыла перш за ўсё ўзяцца за аптэку.

Мой занятак перапыніў званок з сельскага Савета.

Напаміналі пра заўтрашняе пасяджэнне, на якім я павінна была расказаць пра гатоўнасць школ да новага навучальнага года. Што я магла гаварыць пра школы? Трэба было пабыць там.

— Прабачце... Я працую тут першы дзень...

— Гэта нічога не значыць... Паведамленне на ўчастак мы паслалі два тыдні назад.

Я з надзеяй зірнула на Савельеўну, але тая прызналася, што забылася пра школы і пра тую паперку...

Зноў зазваніў тэлефон, і басавіты голас старшыні калгаса паведаміў, што нечакана захварэлі тры камбайнеры.

Трэба было тэрмінова штосьці рабіць. Я разгубілася і не ведала, з чаго пачаць. Савельеўну я толькі што паслала правяраць школы, Шаматухіна паехала з раніцы... Санітарка здзіўлена паглядала на мяне.

— Чаму ж не папытала, з якога калгаса звоняць? Дзе цяпер шукаць тых небаракаў?

І сапраўды... Як гэта я не папытала?.. Што цяпер рабіць?..

Я ледзь не заплакала ад роспачы і ўласнай бездапаможнасці...

У гэты момант дзверы кабінета адчыніліся. З'явіўся загарэлы хлопец, спытаў:

— Ану, дзе тута доктар?.. Ратуйце хутчэй, а то канцы аддам...

— Што з вамі? — недаверліва спыталася я.

— А вось што, доктар...

Ён шчыльна паставіў каля мяне сваё крэсла і, апусціўшы позірк, пачаў сумна апавядаць:

— Сплю, значыцца, я, сплю — і спаць ахвота... Ем, значыцца, я, ем — і есці хочацца... А піць як пачну...— ён яшчэ раз зірнуў у мой засяроджаны твар.

— Ну і балбатун ты, Венька,— заўсміхалася Анюта.— Мусіць, цябе па доктара прыслалі?

— Так точна!

— Якая вас трасца там ухапіла?.. Можа, паспіваліся?

— Строга прытрымліваемся сухога закона...

— Ладна ўжо, вязі,— дазволіла Анюта.— Ды глядзі, каб усё добра... Доктар наш, сам бачыш, маладзенькая, а вы там выскалякі ўсе як адзін...

— Бяру доктара пад сваю асабістую адказнасць!..

Хлопцам там я аказала дапамогу. Дамоў вярталася позна. З Венькам мы развіталіся адразу ж, як толькі машына спынілася каля вясковага клуба, які часова прыладзілі пад жыллё механізатарам. Яму трэба было вазіць зерне на элеватар. Ідучы ў адзіноце незнаёмым прасёлкам насустрач далёкім агням вёскі, я адчувала ў сабе гонар, змешаны з радасцю, што і я на нешта здатная... Асабліва прыемна было ўспамінаць твары хлопцаў, калі яны, з прамытымі страўнікамі і нашпіганыя лекамі па ўсіх правілах медыцынскай навукі, ляжалі пад чыстымі прасцінамі і ўжо не енчылі ад болю, не стагналі, а слаба і разгублена пасміхаліся, нават спрабавалі жартаваць.

У хуткім часе я апынулася ў цэнтры вёскі і пайшла дадому ўжо знаёмай мне дарогай. Успомніла сябе ўчарашнюю на гэтай дарозе — разгубленую, няўпэўненую, і мне зрабілася крыху сорамна за сябе.

# На злосць дзеду

У той дзень я затрымалася ў амбулаторыі пазней звычайнага. Затрымалася не таму, што трэба было тэрмінова зрабіць нейкія запісы, як гэта здаралася часцей за ўсё, а так... Вельмі ж прыемна было застацца нарэшце адной, прытуліцца да яшчэ цеплаватай печкі і сядзець так у нерухомасці, не думаючы. Толькі чуць, як шалее на вуліцы вецер, спрабуючы ўварвацца ў гэты цёплы пакой то праз вокны, і тады аж скрыпяць аконныя рамы і трымціць шкло, то праз дзверы. Дзверы стаяць нерухома, і вецер толькі глуха і цяжка вухкае аб іх.

Я не надта прыслухоўваюся да гэтай музыкі. Вецер за сцяной сам па сабе, а я і цёплы пакой самі па сабе... Хоць гэта і ненадоўга, але так. Таму я і не стараюся ўслухоўвацца ў тое, што робіцца на вуліцы. Бо тады адразу ж агорне трывога і неспакой, розныя думкі палезуць у галаву... Перш за ўсё я падумаю, што як бы добра і прыемна мне ні было каля печкі, а трэба ж неяк дабірацца дадому... Што чакае мяне там мноства неадкладных спраў, чакаюць дзеці... Сядзяць, напэўна, на астылай ужо печы і прыслухоўваюцца да кожнага шолаху, стараючыся пачуць мае крокі. А можа, і не сядзяць... Можа, дурэюць так, што аж пыл курыць, перавярнулі ў хаце ўсё дагары нагамі.

І тады ўжо думкі-клопаты пранясуцца ў галаве таропка, абганяючы адна другую... У грубцы трэба ў задняй палавіне хаты запаліць, бо ўсё цяпло вышугала ветрам, і вячэру згатаваць, і сарочку мужу адпраса-

ваць, і... Ды ці мала чаго трэба зрабіць жанчыне за вечар, якая ўвесь дзень не стыкаецца дома?!.

Але гэта потым будзе, потым... Не трэба хоць у гэтыя хвіліны думаць пра вячэрнія клопаты. Ці многа іх, гэтакіх хвілін, калі можна вось так нерухома пасядзець каля цёплай печкі, паназіраць, як шарэе за вокнамі, паслухаць завіруху, якая не можа цябе дастаць...

Але хутка маёй бяздзейнасці прыйшоў канец. Дзверы адчыніліся, і, няўклюдна пераступаючы цераз парог, у прыёмную ўваліўся заснежаны дзед у доўгім кажусе, напусціўшы мне поўны пакой холаду. Ён сцягнуў з рук вялізныя, з аўчыны, рукавіцы, збіў намерзлыя ледзяшы з вусоў, крыху агледзеўся ў паўзмроку і, заўважыўшы мяне каля печкі, адразу ж пачаў прыспешваць:

— Паедзем, доктар, хуценька... Зусім расхваралася мая старая...

Ведаю я, як яны хварэюць, гэтыя старыя! Усе хронікі, месяцамі вылежваюцца на печы, а доктара паклікаць да сябе надумаюцца вось у такое надвор'е.

— Што [illegible] ёю? — не вельмі спагадліва запыталася я.

— Сэрца, мусіць... Прыйшла з магазіна, торбу з хлебам на цвік павесіла, а пасля і паваліласся... Сэрца... А то чаго б так, адразу?..

Устрывожылася і я. Такім хворым патрэбна неадкладная дапамога. Ці паспею я?..

Паспешна апранаюся, на хаду пытаючыся ў старога:

— Вы з якой вёскі?

— З Шалыхіна...

— Ого!..

Шалыхіна было самай далёкай вёскай майго ўчастка...

— А на чым прыехалі?

— На кані... На чым жа яшчэ я магу прыехаць... «Гадзіны за паўтары заедзем...»

— Вы хворую адну пакінулі, ці як?.. Помач хоць якую аказалі?

— А як жа! Кропель сардэчных накапалі... Там з ёй суседка засталася...

— А раней яна скардзілася на што?

— Скардзіцца-то яна скардзілася... Яна ўвесь час на нешта скардзіцца...

— Ну, добра. Паедзем.

І мы паехалі, калі толькі можна назваць яздой такі рух наперад. Сунуліся па новай гравійцы, што праклалі гэтым летам да самага Шалыхіна. Узвышалася яна метры на два над полем, і моцным ветрам з яе здзьмула снег. Бедная каняга, выцягваючыся як не да зямлі, ледзьве цягнула па змёрзламу пяску сані. Іх непрыемнае скрыгатанне праймала ажно да мазгоў. Нарэшце я не вытрымала і саскочыла з саней. Услед за мной споўз долу і стары, цяжка дыхаючы, паплёўся побач з санямі, трымаючы лейцы.

Аказалася, што ісці яшчэ горш, чым сядзець на сямі вятрах. Калючыя снежныя крупы, змешаныя з пяском, секлі ў твар так, што нельга было адплюшчыць вачэй і кожны крок наперад даводзілася рабіць як не вобмацкам.

— Дзед! — абабегшы сані, дагнала я старога.— Мы ж так і за тры гадзіны не дойдзем...

— Але... Дрэнь дзела,— спыніўся стары, праціраючы вочы і атрасаючы снег з барады.— Не дачакаецца мая старая доктара...

Я ўявіла сабе старую пакінутую жанчыну, што памірае на руках у суседкі, і мне зрабілася не па сабе.

— А што, калі полем, па цаліку? — прапанавала я.— Снег жа не глыбокі. Можа, і праедзем...

— Хто яго ведае... Без следу ехаць уначы таксама рызыка... Ды і вецер круціць, бы чэрці жэняцца... Ні-

чога не бачна. Уваб'ёмся куды, то зусім не выедзем да раніцы...

Але мне здавалася, што горш, чым ёсць, усё роўна не будзе, і я настойліва паўтарыла:

— А ўсё ж паспрабуем. Конь нас сам дадому вывезе...

— Можна паспрабаваць,— нехаця згадзіўся дзед і пачаў заварочваць каня.— Толькі адхоны тут крутыя надта...— прабубніў ён, паціху кіруючы каня ўніз.

Конь праваліўся адразу ж, быццам з вышкі нырнуў у глыбокі і сыпкі сумёт. Праваліўся па самае бруха і, сутаргава спрабуючы выкарабкацца, праваліваўся ўсё глыбей і глыбей. Дзед, поўзаючы вакол каня, то цягнуў яго за аброць, то піхаў ззаду сані, і тады аглоблі выпіралі ўперад, конь ірваўся ўслед за імі, выкідваючы пярэднія ногі, але азадак ягоны пры гэтым правальваўся яшчэ глыбей і ён усё болей і болей асядаў у снегавой гурбе. Нарэшце ён аціх, супакоіўся, толькі зрэдку нервова ўздрыгваў вушамі. Снег, падаючы на мокрыя ўздутыя бакі, ад якіх падымалася пара, раставаў, і здавалася, хутка растане і ўвесь сумёт, паланіўшы яго.

— Дрэнь дзела,— заключыў стары, на карачках выбіраючыся на дарогу.

І ў гэтым «дрэнь дзела» мне пачулася нешта жудаснае, непапраўнае. Здалося, гіне ўсё: загінула, не дачакаўшыся помачы, жанчына і, нарэшце, загінем мы самі ў гэтай завірусе...

— Дрэнь дзела, трэба распрагацца,— спакойна дадаў дзед і пачаў скідваць з сябе верхнюю апратку. Ад яго, як і ад каня, ішла пара і кісла пахла аўчынаю.

Дзед скінуў футравыя рукавіцы і кажух, застаўшыся ў ватнай целагрэйцы, лёгка скочыў у снег побач з канём і праваліўся па пояс. Крэкчучы, дапоўз да

пысы жывёліны і пачаў рассупоньваць. І конь ажыў, заварушыўся... А вызваліўшыся з аглобляў, налёг і выбраўся на цвярдзейшае.

Старая сустрэла мяне прыветліва. Хаця на старую яна не вельмі і паходзіла... Яшчэ маладжавая кабета, невысокая, кругленькая, з прыемным тварам і мяккім голасам. Яна не стала папракаць нас за спазненне і зрабіла выгляд, што не заўважае, а можа, і сапраўды не заўважала нашай стомы. Адкінула ўбок вязанне, паменшыла гучнасць радыёпрыёмніка, уключыла святло... Радасна мітусілася па хаце, быццам сустракала доўгачаканую госцю.

— Як вы сябе адчуваеце? — дрыготкім ад крыўды голасам спыталася я.

Жанчына абыякава махнула рукой, быццам пытанне гэтае было такім малаважным, што і адказваць на яго не варта.

— Мілая мая... Стары чалавек, што і казаць... Усё баліць. Не тое, дык другое... Як пачнеш да сябе прыслухоўвацца, здаецца, месца жывога нямашака...

— А што з вамі сёння здарылася?

— Сёння? — быццам намагалася яна нешта ўспомніць.— А сёння дык і таго горш...

Баязліва пазіраючы на дзверы, каб не пачуў стары, яна пачала таропка расказваць:

— Майго бачыла?.. Гэта ж ледзьве ногі цягае, корч праклятьі, а ўпарты, як казёл! Надоечы заспрачаліся: я кажу, трэба сёлета змяніць карову, а ён — не, яшчэ патрымаем з год, паглядзім, што з яе будзе. А што тут глядзець?.. Я ўжо і з чалавекам старгавалася, які цялушку прадае, выгадна старгавалася... А гэты ўпёрся. І гэтак расстроіў мяне,— жаласна ўсхліпнула яна.— А я загаддзя намякнула, што і захварэць магу праз такое расстройства...

Убачыўшы, што я дастала з каробкі ампулу і расчыніла стэрылізатар са шпрыцамі, моцна ўчапілася мне ў руку і горача зашаптала ў самае вуха:

— Ты мяне слухай, маладзіца... Ты яшчэ маладая, жыць не ўмееш. А з мужыкамі ведаеш, як трэба... Напрасцяк ды напралом адны дурні ходзяць. А часам трэба і бокам абысці... Ды затаіцца, ды схітраваць... Вось і возьмеш сваё. Заўсягды возьмеш!

Слязлівыя ноткі ў яе голасе зніклі ў адно імгненне, вочы звузіліся, у куточках вуснаў абрысаваліся глыбокія складкі.

— Вазьмі, к прыкладу, майго,— яна з пагардаю кіўнула ў бок дзвярэй, за якімі застаўся даглядаць каня азяблы і змораны ўшчэнт стары.— Кулаком аб стол — хрась! Думае, і дзелу канец А я змаўчала. Толькі, думаю, не, не будзе так, як ты хочаш. Начакала хвілінку — і за сэрца, ды вобземлю і бразнулася. І не дыхаю... Ну, а ён, вядома, спужаўся,— сарамліва заружавелася яна.— Кажа, па доктара паеду. А я думаю — едзь. На злосць, думаю, з'ездзі. Ды яшчэ ў такое надвор'е... Дык, можа, дзесятаму закажаш, як на хворую жанчыну голас узнімаць... А карова наша... Я ўсё раскажу, як ёсць... Толькі вы прысядзьце, а то гэта доўга расказваць... Сядзьце,— ветліва запрашала яна.

І сапраўды, ва ўсім целе я адчула прыкрую слабасць. Знікла ўнутранае напружанне ад страху за жыццё чалавека, быццам растварылася ў гарачым і ліпкім шэпце... Я паспешна выйшла з хаты на свежае, марознае паветра...

На ганку, прытуліўшыся спіной да вушака, сядзеў стары, заснежаны і нерухомы. Гэтая нерухомасць устрывожыла мяне.

Ён доўга і няўцямна глядзеў перад сабой, пасля нібы пазнаў мяне, занепакоіўся, хацеў прыўзняцца, але зноў важка ссунуўся на ганак.

— Што з вамі?.. Вам нядобра?

— Паедзем ужо, мусіць, доктар?.. Падлячылі маю старую?..— прахрыпеў ён.

— Вы захварэлі...

Праз нейкі час стары ляжаў у пасцелі. Тэмпература ў яго пайшла на зніжэнне, пульс парадзеў, дыхаў ён роўна...

І я пачала збірацца дадому...

Зваротная дарога, нягледзячы на моцную завіруху, здалася мне весялейшая, А мая вазніца, захутаная, як куль, у хусткі, усю дарогу панура маўчала. Нават пра карову не расказала да канца...

# Апошняе слова

Калі трапляеш у бальніцу нечакана для сябе самога, ды яшчэ калі прывозіць цябе туды машына «хуткай дапамогі», то гэта заўжды падобна на нейкі абрыў. Недзе там, у страшэннай далечы, а не за вокнамі бальніцы, не за бальнічнай агароджай застаецца жыццё, напоўненае жывым сонечным святлом, запоўненае клопатамі і хваляваннямі, справамі і пачуццямі — усім тым, чым жыве здаровы чалавек. І жыццё гэтае аддаляецца ад цябе з хуткасцю больш імклівай, чым машына з чырвоным крыжам.

А свет вакол цябе пагражальна звужаецца, і вось ты ўспрымаеш, ты чуеш толькі ўдары свайго хворага сэрца. І ты не ведаеш, які з іх будзе апошні. Таму галоўнае для цябе зараз — напружана ўслухоўвацца ў сваё сэрца і чакаць. І чаканне гэтае нельга вымераць часам...

Я ляжу на бальнічным ложку і слухаю сваё сэрца. Яно б'ецца зморана і няроўна. Цікава, хто і дзе зараз вырашае мой лёс? Хто ведае, колькі разоў яшчэ ўстрапянецца маё сэрца, перш чым заціхнуць назаўсёды? Хто ведае, калі я, пранасіўшы яго ў грудзях усё жыццё, не ведаю гэтага? Хто ж, апрача мяне, можа загадаць спыніцца яму альбо біцца далей?..

Не трэба было мне так думаць. Мне трэба было толькі слухаць сваё сэрца і чакаць. Але думка гэтая неяк пранікла ў маю свядомасць, усхвалявала маё сэрца... Яно збілася з таго няроўнага рытму, да якога я ўжо стала прывыкаць, затрапятала, затахкала... І я

спалохана загадала свайму розуму не ўмешвацца, маўчаць.

Урачы зробяць усё магчымае. Напоенае лекамі, уціхаміріцца нарэшце маё сэрца... Зноў заб'ецца роўна і спакойна... Трэба толькі чакаць.

Калі чалавек памірае, кажуць, што абарвалася апошняя нітачка, што прывязвала яго да жыцця. Нітачка... што прывязвала...

Калі чалавек выжывае, кажуць, што ён моцна трымаецца за жыццё. Трэба моцна трымацца... Ухапіцца за што-небудзь у жыцці і трымацца. За тую нітачку, што моцна, бы ланцугом, прывяжа цябе да жыцця. За нітачку, якую не абарваць сляпой выпадковасці... Трэба трымацца... За што мне трымацца? Дзе яна, тая нітачка?..

І я ліхаманкава перабіраю ў памяці ўсё, чым я жыла яшчэ ўчора. А я жыла! І я жыву яшчэ... Толькі ўсё, чым я жыла, раптам пачало адыходзіць ад мяне. І мне страшна ад гэтага...

Мне трэба за нешта ўчапіцца... Трэба ўчапіцца, і ўчапіцца за нешта важнае... Каб не памыліцца. Бо абарвецца нітачка, калі ўхаплюся я за нікчэмнае. Яшчэ нядаўна, яшчэ ўчора ўсё было ясна і зразумела ў маім жыцці, і я без усялякіх намаганняў адрознілa б важнае ад мізэрнага. Але цяпер усё страціла першапачатковае значэнне.

Мая дысертацыя?.. Так, яна цешыла маю ганарлівасць і забірала ўвесь мой вольны час, які не было мне куды падзець, як не было куды падзець і самую сябе. Навошта мне і цяпер сябе ашукваць?

Што ж было яшчэ? Ага, дзеці... Дзеці — галоўнае для жанчыны. Безумоўна, дзеці!

Але твайму дзіцяці ўжо за дваццаць... У яго сваё жыццё. І невядома яшчэ, аблегчыш ты тое жыццё ў далейшым ці ўскладніш...

Чым жа яшчэ жыла я? Што было важнага ў тым

жыцці, якое аддаляецца і аддаляецца ад мяне? Няўжо важна, што застанецца недашытай сукенка ў атэлье? Ці важна, што я не даведаюся, хто паедзе ў чэрвені на поўдзень адпачываць па маёй пуцёўцы? Як пройдзе вучоны савет у інстытуце, намечаны на канец гэтага тыдня? Каго падтрымае Іван Сямёнавіч і што скажа Ангеліна Пятроўна?..

Што ж яшчэ застанецца ў тым жыцці? Неадпісанае пісьмо да мужа, з якім я даўно ўжо не жыву, і адносіны нашы заблытаныя?..

Усё гэта дробязі, дробязі, дробязі... Няўжо з гэтага і складалася ўсё маё жыццё? Няўжо ад гэтага такая зморанасць, што і сэрца не хоча біцца?.. Было ж нешта іншае... Трэба толькі ўспомніць. Знайсці тую нітачку...

Хутчэй бы прыйшлі ўрачы і зрабілі што-небудзь...

Прыходзілі людзі ў белых халатах, схіляліся нада мной, штосьці рабілі з маім целам... Я ўсё бачыла, усё разумела, але ўсё гэта адбывалася быццам і не са мной, усё было за мяжой майго ўспрымання. Нішто: ні іх рухі, ні галасы, ні дакрананне да майго цела — не магло разбурыць тую абалонку, той бар'ер, што аддзяляў мяне ад іх. Яны існавалі для мяне ў нейкім другім вымярэнні, з якога я выпала так нечакана і не трапіла яшчэ ў свет іншы. Я жыла ў сваім уласным, цесным, вузкім свеце, у якім існавалі толькі нdroўны стук майго хворага сэрца і прыкаваная да гэтага стуку свядомасць. І раптам... Я спярша не зразумела — адкуль? як? чаму пачуўся мне гэты голас, мяккі жаночы голас?..

Жанчына расказвала:

— Маці ягады тыя прадаваць насіла. Адсыпала крышачку нам з малаком з'есці, каб паспытаць толькі... Ягадамі ж не наясіся, калі хлеба няма... А суніц тады ў нашых лясах шмат было. Падыме маці ў гэт-

кую рань, да сонейка яшчэ... Здаецца, прылёг толькі, а цябе падтоўхваюць ужо пад бакі. Уставаць трэба.

З дому выходзім сонненькія, надзьмутыя, маўклівыя... А як скочыш босымі нагамі ў золкую расу, дзе той і сон дзенецца. Падскокваеш, як той заяц, бяжыш, каб хутчэй да лесу дабегчы. А што ў лесе?.. У лесе яшчэ сырэй. Туман, як малако, па самай зямлі сцелецца. Нырнеш у яго, аж дух займае. А пакуль на дзялянку патрэбную выберашся, дык ужо і сонейка зайграе, заружовіць усё. Павесялее сэрцайка... А як убачыш першую сунічку, спелую, буйную, яшчэ макраватую ад расы, што аж гарыць, пераліваецца на сонейку, узрадуешся, кінешся да яе, нібы да сястрыцы роднай... І ўжо нічога не бачыш, не заўважаеш, лётаеш, ног пад сабой не чуючы, ад адной ягадкі да другой. Толькі сэрца радасна ўстрапянецца, як трапіш на свежую, яшчэ не вытаптаную нікім палянку. Гэтак увіхаешся... Тут на корч успорашся, там цябе крапівой хвастане — нічога не заўважыш. А як набярэш поўнае — здзівішся сама сабе... Тады толькі і разагнешся ды агледзішся наўкола. А ўжо і сонейка высока, і кожная травінка абсохла, выпрасталася, і птушачкі пяюць... А ты нічога гэтага не бачыў і не чуў, а цяпер як бы толькі вочы расплюшчыў — і ўсё гэтае хараство адразу перад табой...

Дамоў ідзеш сцішаны, паспакайнелы, а ўсё гэтак жа радасна, поўна на душы, як у глечыку, што ты нясеш... І не таму радасна, не таму шчаслівa, што прадасць маці тыя суніцы і купіць хлеба ці солі. Пра гэта і не думаеш...

Жанчына змоўкла.

А я ўсё яшчэ нібы ішла побач з ёю па пыльнай дарозе, ступала босымі нагамі ў гарачы пясок, прымінала мяккую і сакавітую траву. Зверху мяне песціла шчырае сонейка, у твар мне павяваў лёгкі ветрык, у руках я моцна трымала гладыш з суніцамі, якія пахлі

мёдам, ляснымі кветкамі, сонцам і навальніцай, усім тым, што ўвабралі яны ў сябе, каб зрабіцца такімі пахучымі, салодкімі і сакавітымі... І я ўдыхала той пах суніц, падстаўляла твар сустрэчнаму ветрыку і радавалася таму, што ўсё вакол мяне радавалася, і сонца свяціла, і птушкі пелі, і неба было чыстае-чыстае, і ветрык павяваў мне ў твар, і трава расла наўкола такая зялёная і сакавітая, і ніхто не замінаў мне ступіць па ёй босымі нагамі...

— І чаму гэта цяпер суніц у лесе меней стала, скажы ты мне? — азваўся другі жаночы голас, гучны і грубаваты.

— Хто ж яго ведае?.. Калі пра лес казаць, то пазарасталі тыя дзялянкі маладняком, не прадрацца. Якія ж там ягады? Ягады сонейка любяць, прастору...— адказала жанчына, якая расказвала пра суніцы.— Раней жывёлу ў лес пускалі, можа, таму і ягады былі.

— Э... не кажы гэтак. Там, дзе жывёла паходзіць, якія ж ягады? Гэта грыбы будуць расці, тым абы лес радзейшы... А суніцы, бывала, на дзялянках ды на ўзгорках... А цяпер хоць дзялянка, хоць узгорак, а пуста. Няма суніц. Толькі на рынку і ўбачыш па рублю шклянка, ды і то агародныя, пэўна... Я так думаю, што патравілі іх хімікатамі. Ягада гэта кволая, далікатная...

— Бог з імі, з суніцамі,— уздыхнуўшы, прамовіла жанчына з мяккім голасам.— Абы хлеба было ўволю.

— Гэта ты праўду кажаш,— згадзілася другая.— Будзем мы жывы і без суніц. Іншых ягад даволі. Як навaрыш варэння, па тры гады стаіць, ніхто есці не хоча.

— А я дык лепш люблю, каб перацерці з цукрам. І маліны пераціраю, і чарніцы. Зімой адкрыеш слоічак — і пах, і смак, быццам толькі што з лесу...

— А як вы робіце? — ажывілася другая жанчына.— Я дык на мясарубку перацiскаю. Але, кажуць, вітаміны пры гэтым губляюцца. А ці варыце?

І жанчыны доўга і ахвотна пачалі расказваць адна другой, як яны вараць варэнне, як кансервуюць садавіну, грыбы... Мне прыемна было слухаць іх галасы, я радавалася, што магу слухаць іх і не слухаць сваё хворае сэрца... Я баялася зноў адчуць сябе адлучанай ад гэтага жыцця, апынуцца зноў за тым бар'ерам, дзе толькі стук майго хворага сэрца і страх чакання.

І дзіўным было, што жыццё, якім жывуць звычайныя людзі і якое, як мне здавалася, засталося ў страшэннай далечы ад мяне, тое жыццё ўладна пацягнула мяне да сябе. На нейкі момант я паверыла нават, што нічога іншага і не было ў маім жыцці, ні добрага, ні благога, як толькі тая ціхая сонечная раніца, сакавітая, падатлівая пад босымі нагамі трава, поўны гладыш суніц у руках... І сама я, танканогае дзяўчо, немаведама ад чаго такая шчаслівая і ўпэўненая, што пачуццё гэтае застанецца са мной на ўсё жыццё.

Урач, заглянуўшы ў хуткім часе да нас у палату, каб праверыць у мяне пульс, са здзіўленнем убачыў на маім сонным твары светлую, па-дзіцячаму бесклапотную ўсмешку. Пульс быў роўны...

Дзве жанчыны на суседніх ложках прыціхлі, пакуль доктар не выйшаў з палаты. Пасля зноў загаманілі. Ужо не пра суніцы...

Здаецца, не так многа часу прайшло, як я апынулася ў бальніцы, а ўжо не толькі добра пазнаёмілася з суседкамі па палаце, але і пасябравала з імі. Я папраўлялася, я зноў вярталася да жыцця і быццам нанава адкрывала яго для сябе. Пачала заўважаць

тое, міма чаго праходзіла раней раўнадушна, як прайшла б раней і міма гэтых цудоўных жанчын.

Жанчыну, голас якой вывеў мяне з забыцця, звалі Васільеўнай. Гэта была яшчэ не старая паўнаватая жанчына з тварам, па-дзіцячаму круглявым і шчырым. Яна, як і я, упершыню трапіла ў бальніцу і безупынна здзіўлялася ўсяму. Яе здзіўляла, што дактары раптам прызналі, што ў яе хворая печань і без лішніх размоў паклалі ў бальніцу... Здзіўляла, што ўчора яшчэ яна займалася сваімі звычайнымі клопатамі, а сёння, хоць ёй і не пагоршала, трэба ляжаць у пасцелі, і яна ніяк не магла разумець, як гэта вылежаць у пасцелі і дзень і ноч, калі ногі і рукі яшчэ спраўныя і просяць работы. Яна дапамагала санітаркам мыць падлогу і раздаваць абед і ўсё прыглядалася, што б гэта ёй яшчэ зрабіць... Здзіўляла яе, што дактары кожны дзень аглядаюць яе і пытаюцца пра адно і тое ж. Ёй хацелася сказаць ім штосьці новае, і яна на кожным абходзе запэўнівала іх, што сёння ёй ужо лепш, зусім добра. Здзіўлялася, што ў бальніцы такія мяккія пасцелі, і кормяць смачна, і ўсё дарма, хоць і ведала пра гэта даўно...

Яна і пра дзяцей ведала, што любяць яны яе і шануюць, і ўсё ж здзіўлялася, што хвароба яе надта ж устрывожыла іх і яны бегаюць да яе ў бальніцу амаль кожны дзень. Нарадзіла Васільеўна васьмёра дзяцей, жывымі засталося шэсць, чатыры дачкі і два сыны.

— Канапелька, да вас прыйшлі! — гукне ў дзверы палаты медсястра, ці санітарка, ці так хто, з хворых... Васільеўна здрыганецца, быццам ад стрэлу, усхопіцца, пачне таропка нацягваць дрыжачымі рукамі цёплыя панчохі, апранаць пад бальнічны халат адну за другой цёплыя шарсцяныя кофты (мець якія ў бальніцы нам строга забаранялася, і таму першую палову дня, пакуль не разыдуцца ўрачы, усё гэтае дабро хавалася пад матрацам).

Пасля яшчэ абгорнецца цёплай хусткай (Васільеўна надта баіцца скразнякоў). І ўсё гэта ў страшэнным хваляванні і паспешлівасці, што не замінае ёй зашпіліць усе гузікі да аднаго.

— Ах, божа ж мой, божа! — хвалюецца яна так, быццам той, хто чакае яе на лесвіцы, забег сюды мімаходзь, на хвілінку, і знікне раней, чым яна паспее глянуць на яго краем вока.

— І хто ж гэта можа быць? — адначасова развагае яна.— Можа, Нінка? Дык жа ўчора Коля быў, муж яе, то сказала, каб да суботы не прыходзілі... Хіба што Петрусёк?

І яна трушком бяжыць у калідор.

Звычайна назад Васільеўну прыводзяць, падтрымліваючы пад рукі. Яна ледзь перасоўвае ногі, разамлелая ад увагі і клопату дзяцей. Дзеці (дарослыя дзядзькі і цёткі) асцярожна ўсаджваюць яе на ложак. Адзін, ці хутчэй адна, бо жанчыны ў гэтай справе больш здагадлівыя, падсоўвае ёй пад бок падушку, а другі ўжо адчыняе тумбачку, і пачынаецца выгрузка пустога і напалову пустога посуду і нават зусім нечапаных прадуктаў, якія ўжо адляжалі свой час, і загрузка свежымі прыпасамі.

— А мае вы дзетухны! Анічога мне не трэба...— слаба пярэчыць Васільеўна.— Мне і бальнічнага хапае. Ці ж мне многа трэба?

Голас яе робіцца яшчэ больш пявучым і паслабелым. Яна і гаворыць быццам праз сілу, з прыдыхам. Дзеці пільна і ўстрывожана ўглядаюцца ёй у твар, употай цяжка ўздыхаюць.

— Канапелька,— урываецца ў палату сярдзіты голас медсястры.— Зноў вы поўную палату пабочных напусцілі! Казала ж я — толькі да палаты правадзіць... Вось дзяжурны доктар нарвецца, будзе мне з вамі...

І Васільеўна, забыўшы на сваю млявасць і немач,

бадзёра ўсхопліваецца на ногі і парываецца ісці разам з дзецьмі, праводзіць іх, але тыя сілком усаджваюць яе на ложак і таропка цалуюць па чарзе. Нарэшце дзверы за імі зачыняюцца, а Васільеўна яшчэ доўга сядзіць і прыслухоўваецца да нечага. Мабыць, ёй здаецца, што яна і праз сцены ўсё яшчэ чуе крокі дзяцей, якія разыходзяцца ад бальніцы кожны сваёй дарогай.

На гэты раз Васільеўна вярнулася хутка і без праважатых.

— Радасць жа ў мяне, радасць...— яшчэ з парога пявуча гаворыць яна, абводзячы ўсіх шчаслівымі вачыма.— Нінка на адну хвілiначку забегла сказаць, што далі-такі ім кватэру.

Мы ведалі, што сярэдняй дачцэ Васільеўны павінны былі даць кватэру. Але маглі і не даць, бо жылі яны не ў чужых, а ў хаце мужавых бацькоў. Нінка не ладзіла са свякрухаю, і Васільеўна расказвала нам неяк, як Нінка прыходзіла аднойчы да яе ўпрочкі і як яна не прыняла яе, родную дачку.

— Ну пасудзіце, людцы,— расказвала Васільеўна,— чаму ж ёй не жыць тамака? Хата свая, прасторная, хоць і не ў цэнтры, але ж у горадзе, і аўтобус ходзіць безупынку. А ў хаце толькі двое старых. Ці ж яны замінаюць? Ці ж яны ворагі сваім дзецям, ці зла ім жадаюць? Чаму ж не жыць усім разам? Бывала, трапіш у сямейку, дзе поўная хата заловак і дзевяроў... І ўсім наравіць трэба. А каб адной толькі свякрусе, то і гора не меў бы. І жылі неяк людзі, ладзілі... А то калі аднаго разу не так глянулі, яна ўжо дзіця на рукі і да маці. А я кажу: «Не, галубка, і слухаць не буду, што ты мне напяеш... Цябе паслухаць — ты анёл, а свякруха твая ведзьма, а яе паслухаць — ты нічога не вартая. А я адно ведаю — яна табе не вораг. Няма за што ёй ворагам быць сваім дзецям. А што не любіць цябе, як ты б таго хацела, то ці шмат яна ад цябе ласкі бачыла, каб адразу, ні за што,

і любіць цябе як роднае дзіця? Ты яшчэ заслужы тую любоў. А вось табе дык трэба і любіць яе і паважаць: яна табе мужа выгадавала...» А то кожны толькі сваё знае, толькі пра сябе думае, а потым дзівіцца, чаму яго не разумеюць...

Васільеўна крыху памаўчала, задуменна гледзячы некуды міма нас, і раптам ціхенька засмяялася.

— Нінка мая тады надта ўзлавалася. Дзіцё на рукі ўхапіла, дзвярыма ляснула... Нагі маёй, кажа, больш не будзе ў вас, ты мне не маці.

Я тады ўсю ноч не спала. Думала, куды яна пойдзе? Хто яе з дзіцем на кватэру возьме? Чым плаціць будуць з аднае зарплаты? Ды яшчэ, можа, і муж такой дурніцы адцураецца. Не захоча бацькоў кінуць. Мала што яна фанабэрыцца...

— А ўсё й добра скончылася,— пасвятлела тварам Васільеўна.— Нікуды яна не дзелася, назад вярнулася і да свякрухі прыцярпелася. Я да іх тады кожную нядзелю ездзіла, прыглядалася. Бачу, сваццявая хоць і не сказаць, што надта задаволена нявесткай, але маўчыць, усё па-добраму да яе і ўнучыка любіць. І Нінка маўчыць. Скасавурыцца толькі, калі што не па ёй, а не агрызаецца, А яна такая. Так во і пражылі тры гадочкі. Усё, здаецца, добра, але нудзіцца маладзіца. Усё я бачу, але маўчу, жалю не паддаю. А тут якраз дачка да іх, старэйшая Колева сястра, вярнулася. Аж з Казахстана... З мужам развялася, і двое дзетак пры ёй. Тады вось і паабяцалі Колю Нінчынаму кватэру даць.

Ажыла мая дзеўка, павесялела... Думаю, ну й добра, хай сабе асобна жывуць. Не хочуць цяпер са старымі жыць... Свет ужо такі, ці што? Не мая ж адна дачка такая... А ўсё ж добра, што я тады выгнала яе,— зноў заўсміхалася Васільеўна, быццам гэта было самым прыемным з яе ўспамінаў.

Наогул, цяжкіх успамінаў у Васільеўны было ня-

шмат. І не таму, што лёгкім было яе жыццё. Выпала і на яе долю і вайна, і смерць блізкіх, і нястачы, але яна не любіла пра гэта гаварыць. Любіла паўтараць, што чалавеку дадзена шмат чаго перажыць, але жыць трэба толькі тым добрым, што было, што ёсць і што будзе.

Васільеўна верыла ў бога, нават не ў бога, а ў тую канчатковую вышэйшую справядлівасць, без веры ў якую яна не ўяўляла сабе жыцця. Хоць і наіўнымі здаваліся часам яе разважанні...

— Вы прыгледзьцеся, людцы,— казала яна.— Другі як ні круціцца, як ні махлюе... Думае, што калі ашукаў каго ці кавалак добры ўварваў, то ўжо і разумнейшы за іншых, то ўжо і шчаслівы на ўсё жыццё. Аж не... Шчасце такіх бокам абыходзіць. Ён і вокам, можа, не паспее міргнуць, а яго ўжо з другога боку няшчасце стрэла, якога ён і чакаць не чакаў, пра якое і думаць не думаў. І розуму ён не дабярэ, што ўсё тут звіта-перавіта, што ўсё ў жыцці адно за другое чапляецца, што за ўсё расплачвацца трэба, а як за паскудства якое, то ўтрая даражэй. А то іншы думае, што калі яго за руку не злавілі, то гэта яму і пройдзе дарма. А будзе суд і над ім...

— Вы гаворыце пра божы суд, пра суд на тым свеце? — спыталася я.

— Не, што мне гаварыць, чаго я не ведаю? Можа, ёсцека ён на тым свеце, а можа, і няма. Я кажу пра тое, што сваімі вачыма бачыла. Ну, во хоць такое... У нас дзве суседкі ў вёсцы, Агапка і Юзэфа, усё за курэй сварыліся. То Агапчыны ў Юзэфы ўсе грады ўздзяруць, то Юзэфіны ў Агапкі ячмень пакладуць. Здаецца, чаго ж тут сварыцца? Ніхто ж не пасылае тых курэй шкоду рабіць, і ўпільнаваць іх, каб хацеў, не ўпільнуеш. Дык Агапка палічыла, што яе страта большая за Юзэфіну. І сыпанула Юзэфіным курам атруты нейкай. Гэтага, праўда, ніхто не бачыў, але

і так усім ясна, каму заміналі Юзэфіны куры. Куры, вядома, паздыхалі ўсе да адной. І што вы думаеце? І месяца не прайшло, аб'елася Агапчына карова роснай травы і прапала. Што вы скажаце на гэта? — пераможна глядзела яна на мяне.

— Дык гэта ж выпадковасць,— засмяялася я.

— Якая ж гэта выпадковасць,— не згадзілася Васільеўна.— Не мая ж карова прапала, не Астапава, а Агапчына.

— А як у вас прападае жывёла, тады што?

— А як жа, і ў нас прападае. Як не дагледзіш, так і прападае. Самі вінаватыя... Каго ж тут вінаваціць?

Адно, што гняло душу гэтай жанчыны, што не адбалела за столькі год,— гэта выпадковая смерць яе старэйшага сына, які, адслужыўшы ў арміі, з'ехаў на Урал працаваць на шахты і там загінуў.

— Ужо як я не хацела адпускаць яго,— з нязвыклай для яе голасу журбой расказвала Васільеўна.— Так маё сэрцайка і надрывалася. Ніяк я не магла зразумець і цяпер не разумею, што пагнала хлопца ў такую далеч... Не хацеў заставацца ў вёсцы — не трэба. Горад жа пад бокам. Знайдзі сабе любую работу, якая па душы, працуй ці вучыся. Ніхто ж не няволіць, ніхто не прымушае. Як сам знаеш. І дамоў бы кожны выхадны прыехаў, і маці, калі што, пабач... Дык не. З'ехаў...

А я ледзь дачакалася яго з арміі. Як увайшоў у хату — нейкі чужаваты, быццам і мой і не мой сын... Выцягнуўся, пахудзеў... Як учапілася я ў яго шынельку, не адарваць... І гляджу — не нагляджуся, і адысці — не адыдуся... На стол закуску падаваць, і то сябе перасільваць трэба. Так бы і сядзела побач, вачэй бы не зводзіла. Ён за дзверы толькі — і мяне ўжо хвалюе нешта, я ўжо бягу ўслед, каб хутчэй убачыць. А як сказаў ён, што ў шахты паедзе працаваць, маё сэрцайка і абарвалася... Ужо як я маліла яго: «Паў-

лішачка, сыночак мой, застанься...» Як маё сэрца ўжо тады бяду чула... Як шаптала мне штосьці, што не ўбачу я ўжо свайго сыночка ніколі...

Васільеўна расказвала, а слёзы ўсё ліліся і ліліся ў яе з вачэй...

— Толькі я ўсё на шахты наракала, а загінуў ён ад хуліганаў. Праз тры месяцы, як паехаў,— тэлеграма: «Прыязджайце хаваць...» Я тады была ўжо на дзевятым месяцы цяжарная. А як прыйшла тэлеграма — бацька на поезд, а мяне «хуткая дапамога» ў бальніцу. Нарадзіліся блізняты, дзяўчынкі, маленькія, слабенькія... Пішчаць пад бокам, а я і глядзець на іх не магу. Малако ў мяне прапала адразу ж. У бальніцы іх хоць прыглядалі. А дамоў прыехала — і малако ім кіпяціць трэба, і карміць іх, і пялёнкі паласкаць. А я ляжу — нізавошта не хочацца брацца. Бачыць бацька — нічога з мяне не будзе, як нежывая я, сам за ўсё ўзяўся. Носіцца з імі па хаце, а слёзы ручаём цякуць па счарнелым твары. У мяне жаласць з'явілася да яго спярша, а потым ужо да дзяцей. Бачу, з ног валіцца чалавек, ходзіць і за сцены трымаецца... Сорамна мне стала. Паднялася...

Дзяўчынкам доўга не маглі імя прыдумаць, не да таго было. Бацька іх півонямі празваў. Увойдзе ў хату, на дыбачках падыдзе да ложкаў і шэпча: «Ну, як тут мае півоні?» Так і засталося за імі: Півоні ды Півоні... Гэта ўжо калі паасобку трэба іх пазваць, то кажам «Люда» ці «Лена».

І такія ж слаўненькія яны ў мяне, Півоні... Кажуць, любая маці сваё дзіцятка хваліць... А што мне хітрыць. Восем у мяне іх было, адзін маленькі яшчэ памёр, таго забыла ўжо. І ўсімі я давольная, усіх любіла як аднаго. А Півоні мае з усіх дзяцей... Такія ласкавыя, такія ціхія ды паслухмяныя, што дзіву даешся. А ўжо бацька прыкіпеў да іх душой... Так, дык ён крутаваты характарам, наравісты, калі што не па

ім, дык зладу няма. Гэта я толькі падладжваюся да яго, то і ціха ў нас у хаце, спакойна. Я ўжо ведаю, што трэба толькі перачакаць тую злую гадзіну, а там ён сам аціхне, мяккім зробіцца, хоць да раны яго прыкладай. А цяпер, як падраслі мае Півоні, мне і гора мала. Толькі бровы ён насупіць, а яны ўжо як ластаўкі каля яго: «Тата... Тата...» Ён і расплываецца ўсмешкай. А то прыйдзе падпіўшы... Бывала, бяда! Ніяк яго не ўгамоніш... Надта ж любіць «выступаць», як кажуць мае Півоні, за ноч не перaслухаеш. А цяпер толькі нагу цераз парог перанясе, а Півоні ўжо тут як тут! На шыю павіснуць, да ложка вядуць, і раздзенуць, і разуюць, і коўдрай накрыюць, і з тры корабы нагавораць абы-чаго. А ён слухае, цешыцца не нацешыцца, забудзе і пра «выступленні» свае. Так і засне,— засмяялася Васільеўна.

— І такія ж яны дружныя паміж сабой, мае дзяўчаткі... Калі адна пакрыўдзіцца чаго, абедзве плачуць. Добрыя дзяўчаткі... Каб і хацеў сказаць на іх благое, то не прыдумаў бы. І сціплыя, і старанныя, і вучацца добра. І каля мяне так і ўюцца, за што ні вазьмуся — і ім трэба. І шыць, і варыць... Толькі бацька раз і кажа: «А праўда твая, маці... Ёсць нейкі бог на свеце... Ён і карае, ён і мілуе. Забраў ён нашага Паўліка... А за што? За якія грахі нашы? Ці ж мы забівалі, ці кралі, ці падманам жылі?.. Няма за што. Можа, таму і дзяўчаткі ў нас такія... Анёлы. Уцеха наша, радасць». І гэтак мне балюча зрабілася ад ягоных слоў, хоць закрычы. Ведаю, любіў бацька Паўліка... Счарнеў ад гора, як не стала яго. Але навошта ён так сказаў? Быццам змірыўся з яго смерцю... Далі яму добрага адкупнога — ён і адкупіўся. А я не магу...

Апрача нас з Васільеўнай у палаце ляжалі яшчэ дзве хворыя. Адну з іх, высокую мажную жанчыну

з буйнымі грубаватымі рысамі твару, звалі ласкавым дзявоцкім імем Гэлька, не прыбаўляючы да яго імя па бацьку, хаця Гэльцы было ўжо за сорак. Другую жанчыну звалі Вольга. Вольга даводзілася раднёй Гэльцы, была замужам за яе братам, і таму, калі Вольгу, спаралізаваную, прывезлі ў бальніцу, разам з ёй папрасілася і Гэлька. Сама Гэлька была таксама хворая, у яе быў павышаны ціск, і ўрачы даўно хацелі пакласці яе ў бальніцу, але яна ўсё адмаўлялася, аж пакуль не здарылася няшчасце з братавой.

Замужам Гэлька ніколі не была, і хоць я не бачыла нічога дзіўнага ў тым, што жанчына жыве адна (ці мала іх цяпер, якія ці зусім не выходзілі замуж, ці былі разведзеныя, як я сама), але ў размове з Гэлькай старалася абмінаць гэтую тэму.

— Ну што тое замужжа,— рэзка, з непрыхаванай праматой загаварыла яна аднойчы, як гаварыла, зрэшты, пра ўсё на свеце.— Пакуль ходзіш у дзеўках, то толькі і думаеш, каб хутчэй замуж. А пасля не ведаеш, як з таго замужжа куды падзецца. Во яна,— паказала Гэлька пальцам на братавую, якая нерухома ляжала на ложку,— за майго брата пайшла. От і адхапіла, скажу я вам, кавалак шчасця! Ды я сястра яму родная, а падчас такое зло возьме, забіла б, здаецца. Дык жа родненькі ён мне, брат... А за якія грахі чужая жанчына будзе з ім пакутаваць?.. Ён во дваіх дзяцей ёй прыладзіў, здароўе ўсё забраў, а што яна добрага за ім бачыла? І дзеці разумныя, і кватэру далі трохпакаёвую амаль у цэнтры горада, а жыцця няма... Ужо мне шкада стане яе, кажу: «Гані ты яго, Вольга, да д'ябла, адпачні хоць трохі сама...» Ну, вытурыць яго Вольга, ён да нас з маці ідзе, у нас свая хата, маленькая, на ўскрайку горада. Некалі там вёска яшчэ была... Прыйдзе, і не выганіш. Бо куды ж яму ісці? Каму ён патрэбны? Пашкадуеш вось так, прытуліш, а самім пасля няма месца ва ўласнай хаце. Тут табе

п'янкі, тут табе гулянкі, ажно сцены гудуць. Каб хоць адзін піў, а то ж дружбакоў сабе па завуголлі празбірае такіх, як сам... А там і з работы яго папросяць... Карміце, паіце, мамка родная з сястрыцай! А як жа ты не пакорміш?.. Слава богу, з'ехаў некуды на Поўнач. Даўнавата ўжо гэты раз... Пісьма во чакаем. Ён можа не пісаць і год і два, а як напіша, то так і знай, хутка сам заявіцца. Нікудышны чалавек,— уздыхнула Гэлька.— А ўсё ж шкада неяк, думаецца пра яго. Маці заплача, то й маё сэрца сціснецца ад жалю...

Канечне, ёсць і харошыя мужчыны, не п'юць... А толькі і з тымі клопату хапае. Калі ён харошы ды не п'е, то ўсе гэта бачаць. Як дрэнных бачна, так і добрых... Гэта ўжо не схаваеш. А калі бачаць, то так і глядзі, каб другія жанчыны не звабілі. Бо ўсе хочуць харошых, а на ўсіх не набярэшся. Во і пачынаецца і рэўнасць і сухота. А я дык во затое моцна сплю, і добра ем, і куды захачу пайду, і што захачу зраблю, і ніхто мне не ўказ! — з адчайнай весялосцю закончыла яна і шчыра зарагатала.

Спала Гэлька і сапраўды моцна. Засыпала яна, здавалася, раней, чым галава яе датыкалася да падушкі. А ўжо праз якія хвіліны па палаце разносіліся самыя разнастайныя і мудрагелістыя гукі. Храп гэты стаў для нас «карай божай», кажучы словамі Васільеўны. Першыя ночы мы саромеліся будзіць жанчыну і пакутавалі моўчкі. Але, адкінуўшы ўсялякую далікатнасць, па чарзе ўставалі, каб тузануць яе за коўдру. Гэлька страшэнна бянтэжылася і часам зусім не спала. Яна звешвала ногі з ложка і садзілася ці згіналася крукам, падклаўшы пад бок падушку і звесіўшы на ложак галаву. Але засынала яна і ў такім нязручным стане. І што дзіўна... Моцна заснуўшы, Гэлька не рэагавала ні на што. Можна было ўсю ноч паліць святло, гучна гаварыць, тупаць нагамі... Але варта было

толькі зварухнуцца Вользе, як яна тут жа ўсхоплівалася.

— Што, Вольга? Што? Табе кепска? — спалохана пыталася яна і ўпівалася вачыма ў твар хворай, намагаючыся па выразу яго зразумець, чаго тая хоча.— Табе, можа, піць даць? Ці павярнуць на другі бок? — дапытвалася яна.

У Вольгі быў паралізаваны правы бок, адняло мову. Я доўга не магла прымусіць сябе паглядзець адкрыта ёй у твар, заўсёды ўздрыгвала і паспешна праходзіла міма. Твар яе, адна палова якога знямела, а другая жыла, нагадваў мне тэатральную маску, якая адначасова і плача і смяецца. Але маска гэтая жыла, пагляд вачэй яе заставаўся заўсёды насмешлівы, можа, таму, што вусны яе былі заўсёды складзены ў саркастычную ўсмешку. Насмешлівым ён заставаўся і тады, калі жанчына хацела выказаць зусім іншае: радасць, страх, незадаволенасць або адчай... Тады ажываў яе рот, дакладней, палова яго: адзін куточак вуснаў, спаралізаваны, быў заўсёды бездапаможна апушчаны кнізу, у той час як другі сутаргава крывіўся, складваўся то ў адну грымасу, то ў другую... Здавалася, жанчына пасміхаецца сама з сябе, з уласнай бездапаможнасці...

Пасля я разглядзела, што жанчына гэтая яшчэ маладая, маладзейшая за мяне, што ў яе прыгожыя поўныя рукі і плечы, рысы твару. І бачыць гэтую прыгажосць скажонай было пакутліва.

Толькі Гэлька як быццам нічога не заўважала. Яна глядзела за Вольгай, як за дзіцём, не баючыся надакучыць ёй сваёй клапатлівасцю. Вольга толькі брыво насупіць, яшчэ не ведаючы сама, чаму яно ў яе насупілася, а над ёй ужо ўстрывожаны твар Гэлькі.

— Што, Вольга? Што? — дапытваецца яна.— Ты напішы.

Але Вольга сама не ведае, што ёй пісаць, як ад

назолы, заплюшчвае вочы, і Гэлька збянтэжана адсоўваецца.

Наогул, сядзелку больш шчырэйшую і лепшую, чым Гэлька, цяжка было нават уявіць. Да таго ж, патрабавальнай яна была не толькі да сябе... Рабіць Вользе ўколы і іншыя працэдуры, прыносіць ёй лякарствы медсёстры павінны былі ў адзін і той жа час. Ніякіх адступленняў ад гэтага правіла Гэлька не прызнавала, і калі хто з сясцёр спазняўся крыху, яна шумна абуралася. Пэўна, такі педантызм наўрад ці падабаўся каму, але на Гэльку не крыўдзіліся. Можа, падкуплівалі яе шчырасць і дабрадушнасць, а хутчэй за ўсё Гэльку паважалі за яе самаадданае выхайванне амаль чужога ёй чалавека.

На таблеткі ж, якія давалі ёй самой, Гэлька часцей за ўсё забывалася, а калі іх збіралася з добрую жменю, высыпала ў рот усе адразу, ды яшчэ і прыгаворвала пры гэтым:

— Кажуць, любое лякарства ў вялікіх дозах той жа яд...— А пасля паўзы, уздыхнуўшы: — А што да мяне — дык усё роўна як вада... Ціск той хоць палкай збівай, не саб'еш. Што тая жменя таблетак?..

Згодна сваёй сялянскай псіхалогіі, Гэлька лічыла, што чым больш чалавек будзе есці, тым ён будзе здаравейшы. Вольга ела мала, і гэта надта засмучала Гэльку. Уколы ўколамі, лякарствы лякарствамі, а не еўшы не паправішся. І таму, калі ёй удавалася ўгаварыць Вольгу праглынуць хоць адну лішнюю лыжачку стравы, радасці ёй хапала на цэлы дзень. Сама Гэлька на кепскі апетыт не скардзілася, з'ядала і свой абед, і ўсё, што заставалася ад Вольчынага.

Крыху паспаўшы ў «ціхую гадзіну», Гэлька не чакала полудня, як іншыя, а даставала з тумбачкі свае дамашнія прыпасы і пачынала прыставаць з ядой да Вольгі. Звычайна тая адмаўлялася... Тады Гэлька, засмучаная, з'ядала ўсё сама.

— Гэля! — пакеплівала з яе Васільеўна.— Доктар жа сказаў, што вам няможна есці каўбасы... Зноў ціск падскоча.

— Ат...— махала рукой Гэлька і адварочвалася. Гэта можна было зразумець, як «няма шчасця ў жыцці, то што ўжо тыя каўбасы... З'ем я іх ці не з'ем — усё роўна...».

Шчаслівая Гэлька была, калі Вольга натужліва, па складах вымавіла першае слова. А тут яшчэ прыехаў кансультант з Мінска, якога запрасілі спецыяльна для Вольгі, і, агледзеўшы хворую, прыпісаў шмат новых лекаў, усклаўшы, аднак, вялікія надзеі на масаж.

На наступны дзень да нас у палату прыйшла маладзенькая масажыстка, і Гэлька вачэй не зводзіла з яе рук, пакуль тая паляпвала і пацірала па целе хворай. Заўважыўшы Гэльчыну цікавасць, дзяўчына ветліва ўсміхнулася ёй і, нібы падслухаўшы Гэльчыны думкі, сказала, што рабіць масаж зусім проста, толькі рукі пад вечар стамляюцца, калі шмат хворых.

Гэлька ледзь дачакалася, пакуль за дзяўчынай зачыняцца дзверы, і, усхваляваная, узялася за справу сама.

«Калі ратунак Вольгі ў гэтым, то я ўжо пастараюся...» — нібы напісана было на яе засяроджаным твары.

Але ўрачу, які лячыў Вольгу, Гэльчын энтузіязм чамусьці не спадабаўся. Пасля размовы з ім яна панікла, быццам згасла ў ёй нешта... Можа, вера ў масаж як цудадзейны сродак ад гэтай хваробы, надзея на хуткае выздараўленне Вольгі?..

Кожны дзень да Вольгі прыбягалі яе дзеці: бялявая дзяўчынка год трынаццаці з вострым носікам і тоненькімі коскамі і хлопец, які лічыў сябе ўжо за дарослага. Вучыўся ён у рамесным вучылішчы, у яго прабіваўся ўжо цёмны пушок над губой і ў голасе прабіваліся басавыя ноткі, што яму надта падабалася. Ад-

чувалася, што яму прыемна не так размаўляць, як чуць уласны голас, гэтыя басавыя ноткі.

Але Гэльцы ён дарослым не здаваўся...

— Разумны надта,— сярдзіта казала яна пра хлопца.— Кажу, няма чаго вам адным у кватэры заставацца... Збірайце свае манаткі і марш да бабулі. Хоць галава за вас так балець не будзе. Яно, падумаўшы, дык што ім тая бабуля?.. Яна ж і з печы амаль што не злазіць. Ці яна за імі ўгледзіць? Ды і да вучобы ім дабірацца нязручна. Уранку ўсе на работу едуць, у аўтобус не ўціснуцца. Але, думаю, усё ж нейкі пострах будзе... Дык ён кажа: «У цябе, Гэлька, хай галава за нас не баліць. І бабулю мы неяк прыгледзім. Не маленькія...» Бач, самастойны які! — стараючыся схаваць радасць, смяецца Гэлька.— Ён ужо нават і бабулю дагледзіць... Цяпер во ездзяць па чарзе да яе. Ваду прынясуць, дроў у печы паліць, у магазін па прадукты сходзяць. Я ўжо казала, хай бы старая да іх пераехала, ці што... Усе разам бы жылі. Дык зноў бяда! Кот і куры! Хто ж іх карміць будзе? Во клопату дык клопату! Я кажу: «Давай з тых курэй булёну наварым, а ката бяры з сабой. У мяшок ды за плечы!» Маўчыць... А я ведаю, што каб яшчэ з печкаю разам, то, можа б, і згадзілася яна пераехаць у Вольчыну кватэру. А без печы — ні з месца. Што той Ямеля,— рагоча Гэлька.

Але тут жа робіцца сур'ёзнай.

— Стары, што малы... За ўсімі глядзець трэба,— уздыхнуўшы, дадае яна.

І Гэлька два разы на тыдзень, а то і часцей адпраўлялася ў паход. Наведвала сваю старую, рабіла налёт на кватэру Вольгі, а заадно запасіла правізію. Для гэтага яна выбірала дні, калі дзяжурыла медсястра Кацярына Андрэеўна. Тая блізка да сэрца прымала Гэльчыны трывогі і дазваляла ёй час ад часу адлучацца дадому. Выходзіла Гэлька з бальніцы звычайна пасля абеду, пакарміўшы Вольгу, а к вечару вярталася

назад. Сустрэўшы дапытлівы позірк Вольгі, рашуча аб'яўляла:

— Усё добра.

Дзеці да Вольгі прыходзілі не разам. Хлопец прыходзіў позна, пасля вячэры, а дзяўчынка адразу ж пасля «ціхай гадзіны». Хлопец больш маўчаў, адказваў толькі на тое, аб чым пыталася Гэлька. Нагледзеўшыся досыць на сваё дзіця, Вольга слаба махала рукой, адпускаючы яго, і ён з палёгкай ускокваў з крэсла, але тут жа саромеўся гэтага, ніякавата таптаўся каля ложка, утупіўшы галаву, потым хуценька выходзіў.

Дзяўчынка, наадварот, заходзячы ў палату, радасна ўсміхалася ўсім, з цікаўнасцю круціла па баках галоўкай на тоненькай шыйцы і безупынку шчабятала, пераскокваючы з аднаго на другое, каб толькі не маўчаць, не бачыць пакутлівых намаганняў маці таксама сказаць штосьці. Ёй было і няёмка, і страшна бачыць гэтыя намаганні, і да слёз шкада маці.

— Мамачка, не трэба, ты маўчы,— як не плачучы гаварыла дзяўчынка.— Я сама пра ўсё раскажу, ты толькі слухай.

І яна расказвала і пра ката Ваську, з якім пасварылася за тое, што ён злавіў вераб'я, і пра песні, якія яны развучвалі да свята з Валянцінай Антонаўнай, і пра шарыкавую ручку, якую яна была згубіла, а пасля раптам знайшла ў адной з кніжак...

Маці слухала ўважліва, але па твары яе было відаць, што цікавіць яе нешта іншае. Яна нецярпліва варушыла пальцамі, пакутліва крывіла вусны. Не вытрымаўшы, Гэлька сама пачала распытваць дзяўчынку, паглядаючы то на яе, то на Вольгу: «Ці так?..»

Але і Гэлька, відаць, пыталася не пра тое, што цікавіла маці.

Тады ёй далі ліст паперы і аловак, і яна надрапала на ім крывымі літарамі:

## ЦІ ЕЛА ТЫ ШТО СЁННЯ, ДАЧУШКА?..

Прыходзілі і мяне наведаць. З інстытута, дзе я працавала, з нашага аддзела, Валерый Аляксандравіч і Зоя. З Валерыем Аляксандравічам мы былі зблізіліся адным часам. У нас былі сходныя тэмы дысертацый: ён працаваў над генетычнымі вынікамі пры радыяцыйным абпраменьванні раслін, а я праводзіла падобныя доследы над бактэрыямі. І хоць яго праца патрабавала большага па працягласці часу, ён ужо абараніўся год таму...

Зою перавялі да нас, у аддзел радыяцыйнай генетыкі, нядаўна (раней яна працавала ў аддзеле эксперыментальнага мутагенеза), і ўсе мужчыны, у тым ліку і маўклівы, з фігурай і тварам аскета Валерый Аляксандравіч, закахаліся ў яе.

Зоя была пухленькай, прыгожанькай бландзінкай з карымі вачыма і маленькім ружовым роцікам, які паперамення складваўся то ў пакрыўджаную грымаску, то ў задаволеную, то ў насмешлівую, без усякай сувязі з тым, аб чым яна ў той час гаварыла ці нават думала.

І цяпер па шматзначнасці паглядаў, якімі перакідваліся яны, па той таямнічасці, якую на сябе напускалі, я здагадалася, што паміж нашым паважаным і крыху дзівакаватым Валерыем Аляксандравічам і чароўнай Зояй ужо ўсё згаворана. Але здзівіла мяне не гэта...

Мы ніколі не былі сяброўкамі з Зояй, і не таму, што была яна маледзейшая за мяне і я мала ведала яе. Розныя мы былі людзі... І таму я здзівілася і разгубілася нават у першую хвіліну, убачыўшы ў бальнічным вестыбюлі Зою і сухаватага, стрыманага Валерыя Аляксандравіча, а не Клаву і не Алену Сяргееўну, якіх чакала і хацела ўбачыць.

Але хутка мне ўсё стала ясна без слоў. Я ўбачыла твары гэтых дваіх і зразумела, што ім было ўсё роўна,

куды ісці і да каго, абы разам. Праўда, іх збянтэжыла крыху, што да хворай, аказваецца, трэба не толькі прыйсці і прынесці перадачу, а з ёй яшчэ трэба і пагаварыць аб чым-небудзь. Гэта яны зразумелі ў той момант, як толькі мы ўселіся на крэслы, якія доўга не былі заняты... Ажывіліся мы ўсе ўтраіх, калі надышоў час развітання, і шчыра пажадалі адно аднаму ўсяго самага найлепшага.

Заходзіла яшчэ суседка, Антаніна Іванаўна. Расказвала, што кветкі ў маёй кватэры яна палівае рэгулярна, што сын яе, Славік, зноў уцёк з урока замежнай мовы і яе выклікалі ў школу. І што ў кулінарыі на вуліцы Бялінскага прадавалі танных куранят, дык яна ўзяла ажно пяць штук... Булёну мне вось нарыла, каб я хутчэй папраўлялася...

Калі ўжо гаварыць не было пра што, яна моцна пацалавала мяне ў вусны і пайшла, але хутка зноў вярнулася, бо забылася аддаць мне пісьмы.

Адно пісьмо было ад дачкі, Верачкі. Верачка пісала, што яе вельмі ўстрывожыла тэлеграма Антаніны Іванаўны і што яна нават збіралася прыехаць, але муж угаварыў не панікаваць раней часу. І што яна вельмі рада, што мне цяпер лепей, толькі пісьмо маё здалося ёй сумным, але хіба ж з бальніцы можна напісаць нешта вясёлае? І што ў іх жыцці намячаецца цікавая перамена: ёсць надзея, што Віктара пашлюць за мяжу гады на два ў камандзіроўку, як выдатнага спецыяліста, і яна з ім паедзе... А калі ўжо сапраўды такое здарыцца, яна абавязкова заедзе развітацца...

Другое пісьмо было ад мужа. Як і ў першым, якое я атрымала тры месяцы назад і на якое нічога не адказала, ён пісаў, што яму дрэнна і што ён хоча вярнуцца да мяне.

— Ад мужа? — пацікавілася Васільеўна, убачыўшы ў мяне ў руках пісьмы. Я неяк гаварыла ёй, што мы з мужам іншы раз перапісваемся.

— Але. Ад мужа і ад дачкі.

— Ну як там дачушка ваша? Ці ўсё добра ў яе?

— Усё добра,— шчыра адказала я.— Мужа яе за мяжу пасылаюць. Ён інжынерам на заводзе вылічальных машын. Энергічны малады чалавек... І яна разам з ім паедзе.

— Вы ўжо не маркоцьцеся надта. Ведама, дзеці цяпер адрэзаная луста, што сын, што дачка...

— Я не маркочуся, я прывыкла.

Здаецца, Васільеўна не паверыла мне, што можна прывыкнуць да адзіноцтва, і, крыху памаўчаўшы, асцярожна спытала:

— А муж што піша? Ці ў яго ўсё добра?

Гаварыць пра мужа, пра свае адносіны з ім мне не хацелася. І не таму, што я думала ўтаіць нешта, а таму, што не любіла гаварыць пра тое, у чым сама яшчэ добра не разабралася.

— Як жа! Напісаў бы ён, каб у яго ўсё было добра,— разанула раптам Гэлька так, што я нават уздрыгнула ад нечаканасці.— Я гэта па сваім брату ведаю. Як у яго ўсё добра, ад яго ні слуху ні духу. Тады пра ўсіх забудзе: і пра дзяцей, і пра жонку, і пра сястру... А як стане моташна на душы — успомніць.

— Што ты, Гэлька, вярзеш? — спыніла яе Васільеўна, незадаволеная, што тая так недарэчы ўмяшалася ў нашу размову.— Тут жа зусім, можа, іншае... Ці ж усе такія, як твой брат? Тут чалавек вучоны...

— Гэля праўду кажа,— жорстка сказала я.— Яму кепска, таму ён і піша.

— Я ж кажу,— узрадавалася нечаканай падтрымцы Гэлька,— як ім добра, яны маўчаць. Я ўсю іхнюю хітрасць на памяць ведаю. Першы раз, як вярнуўся Антон, я думала, што яму гэтай навукі на ўсё жыццё хопіць. Прыехаў сярод зімы ў лёгенькіх чаравіках, абутых на падраныя шкарпэткі, у нейкай дзермацінцы без падшэўкі, якая на марозе дыбаром станавілася...

Але з чамаданам. А ў чамадане тым адна пакамечаная газетка, з таго краю газета. Там усё пра лесанарыхтоўкі напісана. На памяць узяў, ці што?.. Ціхі такі прыехаў, паслухмяны, ласкавы. Ён, праўда, і раней ласкавы рабіўся пасля п'янкі... А то і піць кінуў. Відаць, абрыдла яму гэта. Мы ўжо і рады, і дыхаць на яго баімся. Абмылі яго, адкармілі, прыадзелі... На працу ў аўтабазу ўладкавалі. Ён шафёр добры, адно што доўга на гэтай рабоце не трымаецца. Як адбяруць правы, тады слесарам робіць.

Пачаў ён працаваць на аўтабазе, павесялеў. А Вольга расцвіла, што тая маладуха. Во што значыць для жанчыны, як лад ды згода ў сям'і! Думаем, слава богу, узяўся чалавек за розум. Ды, відаць, не моцна ўзяўся. І года не мінула — усё па-старому пайшло. І запіў, і загуляў, і аўтобус у яго адабралі... І так ён усім абрыднуў, што ледзь дачакалася, пакуль з'едзе куды зноў.

Так і жыве чалавек. То прыедзе, то паедзе... Мы ўжо цяпер, як толькі пісьмо атрымаем, адразу ж грошы на дарогу пераводзім. Сам ён прасіць саромеецца, а ведаем, што прыехаць хоча. Бо якая аднаму чалавеку жытка.

— Навошта ж вы так робіце? Чаму прымаеце яго? Навошта грошы пасылаеце, каб прыехаў, калі наперад ведаеце, што нічога з гэтага не выйдзе? — ледзь стрымліваючы абурэнне, спыталася я.

— А як жа? — здзівілася Гэлька.— А што ж чалавеку, прападаць? Чалавек жа ён... А што не путны такі?.. Дык жа яму самому гэта не ў радасць. А можа, яшчэ і пераменіцца. Не скажаш жа, што ён зусім нічога не варты. Гэта я ўсё толькі пра дрэннае расказваю. Можа, гэта й нядобра, няправільна... А я от думаю... Не можа быць, каб не перамяніўся! Ён жа не без розуму,— са спакойнай упэўненасцю скончыла яна размову.

Ні я, ні Васільеўна не асмеліліся пярэчыць ёй. І ці мне было пярэчыць, ці мне павучаць каго, калі ў самой ні ў сэрцы, ні ў думках не было ладу. А здавалася ж, што ўсё перабалела ўжо. Супакоілася, прывыкаць пачала да свайго адзіноцтва. Як ні жыла, а хоць не пакутавала ад супярэчлівасці думак. Нічога не трэба было ні вырашаць, ні перайначваць. Усё ў нас з Аляксеем склалася быццам само сабой. Разышліся ціха, мірна... Навошта ж было яму пісаць гэтыя пісьмы, а мне чытаць іх? Ці не занадта позна нам пачынаць усё спачатку? А калі сыходзіцца з ім, то толькі з умовай, што мы ўсё пачнём спачатку, хоча ён таго ці не хоча. Бо працягваць тое жыццё, якім жылі, я не згаджуся. Усё спачатку... А ці зможа адзін і той жа чалавек раптам пачаць жыць зусім інакш, чым жыў да таго? Адцурацца сваіх звычак, змяніць свае схільнасці? Чаму ж не мяняўся ён тады, калі быў яшчэ малады і моцны, калі ўсё яшчэ было яму пад сілу? Тады, калі я так прагла гэтага, калі ўсе сілы душы клала, каб ён хоць крышачку стаў іншы, такі, якога я хацела б, каб хоць у чым калі саступіў мне... Не, ужо саступаць са свайго ён не любіў... Заўсёды рабіў так, як хацеў, падвёўшы пад свае ўчынкі філасофію вольнасці, якой і трымаўся ўсё жыццё, бо гэта была вельмі зручная для яго філасофія...

Зараз мне і дзіўна, і няёмка ад таго, што магла некалі сур'ёзна ўспрымаць яго «мудрасць»...

«Мы жывём разам, дзетка... Гэта так. Але давай не будзем абмяжоўваць адно другога. Я жыву, як я хачу, а ты — як ты хочаш... Ніякіх замахаў на свабоду сваёй асобы я не пацярплю нават ад сваёй жонкі.

У кожнага чалавека, асабліва мужчыны, моцна развіты інстынкт незалежнасці... І чым болей яго пачынаюць прыгнятаць, тым з большай сілай ён намагаецца вызваліцца... Расце пратэст у душы. Толькі ў

кожнага ён выражаецца па-свойму... Вось табе і сакрэт і п'янак, і гулянак мужчын, сакрэт разводаў...»

Такую лекцыю, хіба толькі іншымі словамі, не так жорстка і акрэслена, ён прачытаў мне ў першы ж год нашага сумеснага жыцця. Тады была разгубленасць, крыўда, адчай... Але мацней за ўсё было каханне да «свайго» Алёшы. Старалася прыстасавацца да яго поглядаў, суцішыць у сабе жаданне быць кожную хвіліну разам, уведаць усе яго затоеныя думкі, перадаваць яму кожны рух сваёй душы... Ціхенька плакала на кухні інтэрната, дзе нам пасля вяселля выдзелілі асобны пакой, калі прыходзіў апоўначы, а то і ўранку... Не смела даймаць яго пытаннямі, зневажаць недарэчнай рэўнасцю. Лічыла сябе адсталай жанчынай, старалася хутчэй пазбавіцца ад гэтых векавых перажыткаў, рэўнасці і недаверу... Забыць пачатковы і вечны сэнс такіх слоў, ад якіх соладка замірала сэрца: «мой», «сям'я», «шлюб»... Нават калі ўголас вымаўляла «мой Алёша», гучала гэта як насмешка. Сама сабе не верыла, што гэты русявы і сінявокі прыгажун з шчырай і адкрытай усмешкай, пры якой асляплялі белым бляскам роўненькія і прыгожыя зубы, весялун і жартаўнік, якога любілі бадай што ўсе аднакурсніцы, які ў любой кампаніі быў за свайго чалавека, і сапраўды мой муж.

Як успышка ў памяці, мільгнуў той ранак, той незабыўны ранак. Я адразу ж нібы чужымі вачамі ўбачыла сябе, маладое дзеўчанё, якое, не заснуўшы ў тую ноч ні на хвіліну ад узбуджэння, ад радасці, што падаравала ёй каханне, першая прыбегла ў аўдыторыю, каб хутчэй убачыць яго, свайго каханага, зноў... Хавала ад усіх бліскучыя ад шчасця і хвалявання вочы. Здавалася, кожны здагадваецца, чаму яна сёння такая, здагадваецца пра ўсё, што было ў гэтую ноч...

Ужо празвінеў званок, па калідоры пратупацелі міма запозненыя студэнты, набліжаліся цяжкаватыя,

нетаропкія крокі выкладчыка... Яна кінулася ўніз па лесвіцы і тут убачыла Аляксея. Ён няспешна падымаўся насустрач, утупіўшы галаву. Адчула, як гарачыня заліла ўсё цела, перахапіла дыханне. Нібы полымем успыхнула пад ягоным поглядам і тут жа атухла... Аляксей стрымана, нават халаднавата прывітаўся і адразу ж заспяшаўся. Яна машынальна пакіравала за ім, разам запознена зайшлі ў аўдыторыю. Ён прайшоў да сваіх сяброў, а яна прымасцілася тут жа, каля дзвярэй... Нічога не чула і не бачыла... Уваччу стаяла іх сустрэча... То бачыла сябе, як адкрыта глянула на яго заблішчэўшымі вачыма, то яго, спакойнага, стрыманага, чужога... Ад сораму чырвань залівала ўвесь твар, дрыжалі вусны...

Яна ўжо змірылася з тым, што трэба рабіць выгляд, быццам яны проста аднакурснікі, глыбока хавала ў сабе сваю ганьбу і адчай, калі праз месяц Аляксей прапанаваў ёй стаць яго жонкай. Сказаў, што кахае...

«Во, знайшла што ўспамінаць,— пасміхнулася я сама з сябе.— Ці ж мала чаго было пасля і добрага і благога».

Але як ні стараўся я скіраваць думкі на нешта іншае, памяць зноў і зноў вяртала мяне да тых першых год майго замужжа. Можа, таму, што не навучылася я яшчэ тады хавацца ад нечаканых крыўд і ўдараў за ненадзейную і зыбкую завесу раўнадушша, душа была непрыкрытай, адчувальнай да любога болю.

Усплыла ў памяці яшчэ падзея з нашага жыцця, пра якую я ўсе гэтыя гады старалася не ўспамінаць...

Паехалі ўлетку ў адпачынак да яго бацькоў, у вёску. Гэта быў першы адпачынак у іх жыцці, у яе да таго ж дэкрэтны, па цяжарнасці.

Яе з першага ж погляду зачараваў сваім хараством гэты дзівосны куточак зямлі. Вёска адным краем упіралася ў правы бераг Дняпра, другім даставала як не

да лесу. Лес атульваў яе з усіх бакоў, нібы аддзяляў, засцерагаў ад тлуму і неспакою вялікага свету. Кожны ранак пачынаўся з праменьчыка святла, які ўпарта прабіваўся праз фіранкі на вокнах і ласкава датыкаўся да твару, будзіў іх... Вузенькая сцяжынка жвава вяла ад ганка на агарод, а там праз кусты, цераз луг, усланы духмянымі кветкамі, на бераг Дняпра. Правы бераг яго быў высакаваты, кручысты, парослы густа сплеценым ракітнікам і альхой.

Яна ўзнімалася крыху вышэй па цячэнню, на адкрытае месца, садзілася на самы край кручы. Адчувала сябе нібы прыўзнятай і вышэй ракі, і вышэй лугу, што прасціраўся ззаду, нават вышэй старога сасняку на процілеглым, палогім беразе, які здалёку здаваўся насупленым і маўклівым. Глядзела на роўную, спакойную гладзь вады і адчувала, як асцярожна, нібы адусюль па кропельцы, і з высокага неба, па якім бесклапотна плылі рэдкія аблачынкі, і з лёгкага шапацення лісцяў на кустах, і з роўнай плыні дняпроўскіх хваль, уліваецца ў душу жаданы спакой і ціхамірнасць.

У тыя дні, як ніколі, прымушала сябе не звяртаць увагі на Аляксея, які больш часу траціў на недаступныя ёй уцехі: ганяў з хлапчукамі ў футбол, гойсаў на веласіпедзе прасёлачнымі дарогамі, часта зрываўся ў горад... Праўда, памог бацькам скасіць сена. Дзень ці два памахаў касой, пакуль не здаволіўся...

Нават калі загараў на беразе, раскінуўшыся на жоўценькім, нібы спецыяльна завезеным сюды для пляжа пяску, яна не зашывалася, як у першыя дні, пад альховы куст, каб толькі быць паблізу, не млела там ад духаты, ваюючы з камарэчай, а падавалася на аблюбаваную кручу, на вольны вецер. Прывыкала быць адна...

Усё ж радавалася, калі чула за спіной лёгкія крокі мужа, яго вясёлы, насмешлівы голас. Замірала сэрца

ад пяшчоты, калі ён масціўся побач, калі клаў на калені кудлатую русую галаву, заціхаў пад ласкавым дотыкам яе рук...

У той вечар яна ўжо засынала, як пачула, што ў пакой зайшоў ён. Чакала, што пачне распранацца, але ён марудзіў. Заўважыў, што яна зварухнулася, падышоў да ложка, пацалаваў у сонныя вусны...

— Ты спіш ужо? А я збегаю на Дняпро, скупнуся яшчэ разок,— шапнуў на вуха.

— Позна ўжо,— вяла запярэчыла яна.

— Я хуценька... Праз паўгадзіны буду дома. Ты спі...

Прачнулася яна адразу... Такая трывога раптам агарнула, што яна як не задыхнулася. Усхапілася з ложка, намацала на століку ягоны гадзіннік з асвечаным цыферблатам, які ён зняў з рукі перад адыходам. Была палова другой...

Яна доўга і мітусліва зашпільвала гузікі ў халаце, ніяк не магла трапіць босай нагой у тапак... Вобмацкам пасунулася ўздоўж сцяны да дзвярэй, але тыя быццам аддаляліся і аддаляліся ад яе, так доўга яна дабіралася да іх. Запальваць святло не стала. Здавалася, так, упоцемку, ёй будзе лягчэй.

У пярэдняй спалі старыя, свёкар з свякрухаю. Яна ціхенька прайшла міма, раскатурхала меншага брата Аляксея Казіка, які спаў на верандзе. Той, трасучыся ці то ад холаду, ці то ад хвалявання, моўчкі цягнуўся ўслед за ёй да ракі. Яны абое цягнуліся як нежывыя. Так здавалася ёй. Цела зрабілася цяжкім, а ногі, нібы ватныя, непаслухмянымі. Як ні старалася яна бегчы спарней, ногі не паспявалі за ёй, цягнулі назад. Насустрач марудліва пасоўваліся цёмныя абрысы кустоў, цішыня наўкол здавалася мёртвай, ціснула на вушы...

Яны спусціліся па сцяжынцы да самай вады, разгублена прыпыніліся. Ёй было страшна разарваць голасам цішыню, яна маўчала...

— Трэба прайсціся ўздоўж берага. Павінна ж хоць адзенне дзесьці валяцца...— ляскаючы зубамі, вымавіў Казік.

Ад таго, што ўголас вымавіў пра гэта, нібы сцвердзіў тое страшнае, жахлівае, пра што і думаць было няможна. Імгненны боль працяў сэрца. А потым яно сціснулася, як ад халодных цiскоў, знямела.

Існі ўздоўж берага не было як. Зараслі амаль скрозь спускаліся да самай вады. Яны агіналі тыя зараслі, у пралётах паміж імі спускаліся да самай вады, узнімаліся зноў... Цемра слалася пад ногі, блыталася, замінала кожны крок. Вобмацкам спускаліся ўніз, хапаючыся рукамі за голле кустоў, карабкаліся наверх... Не было ніякага сэнсу ў іх блуканні, але яна з упартасцю і адчаем усё шукала нечага...

У адным месцы аступілася, выцяла бок аб цвёрды глiністы выступ, слаба войкнула...

Як прыйшлі дахаты, яна спакойна загадала хлопцу:

— Ты ідзі лажыся... Не трэба зараз нічога казаць бацьку з маці.

Апусцілася на ложак і атупела ўтаропілася ў адну кропку. Не заўважала, як ідзе час.

Калі пачула, як крадзецца ён на дыбачках у пакой, убачыла яго самога, распранутага да плавак, з адзеннем і чаравікамі ў руках, не абазвалася ў яе душы ні радасць, ні ўзрушанасць. Усё цела па-ранейшаму было здзервянелым, нібы сціснутае абручом.

— Чаму ты не спіш, лапушка? — шчыра здзівіўся ён.— А я пайшоў купацца, а тут хлопцы з лодкаю. Падбілі і мяне на той бераг пераправіцца. Там турысты спыніліся на начлег, за ляском. Пакуль тое-сёе... Назад во ўплаў давялося дабірацца.

Раніцай востры боль паласнуў па нізе жывата, сціснула паясніцу. А праз два дні ў яе нарадзілася мёртвае дзіця. Хлопчык.

Жыццё ламала, абвяргала, удасканальвала яго тэорыю вольнасці і незалежнасці...

Праз год нарадзілася другое дзіця, Верачка. К таму часу яны ўжо атрымалі свой уласны пакой, але жыць у горадзе на адну зарплату было цяжкавата...

Увосень Аляксея разам з другімі паслалі ад завода медпрэпаратаў, дзе ён тады працаваў, капаць бульбу ў калгас. Пасля таго як вярнуўся, зрабілі з Віцькам Котавым, яговым саслужыўцам і сябрам на той час, яшчэ адну вылазку ў калгас. Сабралі шэсць мяшкоў бульбы, якая засталася на полі пасля пераворвання. На зіму хапіла. Але грошай не хапала ўсё роўна. Аляксей усё часцей у выхадныя хадзіў разгружаць вагоны на таварную станцыю. Як яна тады кахала яго! Стомленага, злоснага, бруднага... Сама нічым не магла памагчы... Верачка расла плаксівым, неспакойным, хваравітым дзіцем, ад якога на крок нельга было адысціся. Аляксей наогул баяўся заставацца з ёй. Ахвотней бегаў па магазінах, выстойваў чэргі. Здаралася, што яна па тыдню, а то і болей не выходзіла з кватэры, асабліва калі Верачка хварэла і з ёй немагчыма было гуляць.

А той дзень таксама не хацеў забывацца...

Быў пагодлівы зімовы дзень. Сонца, па-святочнаму зыркае, асвятляла ўвесь пакой, напаўняла душу незразумелай радасцю, хваляваннем... Яна раптам адчула, што не зможа выседзець увесь дзень у пакоі, што задыхаецца ў гэтай клетцы... Так захацелася хутчэй на свежае паветра, на волю, што яна ледзь стрымлівала сябе. Паспешна ўсё прыбрала ў кватэры, перамыла, ускіпяціла малако для малой. Быў выхадны... Аляксей валяўся на канапе, перагортваў старыя часопісы, пазяхаў... Верачка спакойна спала ў калысцы. І яна асмелілася...

Яшчэ ўчора атрымала пісьмо ад сваёй былой гаспадыні Фаіны Дзям'янаўны, у якой жылі першы год

пасля інстытута на кватэры. Тая скардзілася, што хварэе, што ўсе забыліся на яе... Аляксея пісьмо не ўсхвалявала. Яму дзіўна было, што яна гатовая ўжо бегчы да старой праведваць... Але штосьці прымусіла яго згадзіцца. Ён толькі з апаскай зірнуў на ціхамірны тварык дзіцяці і перасцярог:

— Ненадоўга толькі...

Як яна бегла па прыціхлай зімовай вуліцы!.. Як смяялася ад радасці, нібы ўпершыню бачыла бухматыя ад інею галіны дрэў, быццам зачараваныя ў сваёй прыгажосці!.. Як удыхала трапяткімі ноздрамі на поўныя грудзі свежае марознае паветра!..

Машынальна ўскочыла ў аўтобус, але як не задыхнулася ад цеснаты і нецярплівасці, хаця і людзей у ім на той час было не шмат, і ехаў ён не так ужо марудна, як ёй здавалася... Выскачыла на першым жа прыпынку і зноў бегла, не чуючы пад сабой ног, лёгкая, вольная...

У Фаіны Дзям'янаўны ледзь выседзела хвілін пятнаццаць. Ніколі не здавалася яна ёй такой бурклівай, такой нуднай... Як можна было скардзіцца на ўвесь свет, калі за вокнамі такое зыркае сонца, калі можна ўволю гуляць па заснежаных вуліцах, з асалодай прыслухоўвацца, як парыпвае снег пад нагамі: рып-рып-рып...

Пасля Фаіны Дзям'янаўны яна, абышоўшы ўсе знаёмыя вуліцы і завулкі, нечакана для сябе самой трапіла ў кіно. З асалодай паглядзела нейкі пуставаты ўсходні фільм...

А як ужо зварухнулася ў сэрцы трывога і ногі самі панеслі ў бок свайго двара, сустрэлася з сваёй сяброўкай-аднакурсніцай Таняй Шаловіч. Тая нядаўна выйшла замуж за ваеннага і цяпер разам з мужам ехала некуды вельмі далёка, аж на край свету... Абое радасныя, усхваляваныя... І яе зноў захліснула хваля святочнасці, незвычайнасці сённяшняга дня...

Дамоў з рэстарана вярталася, як ужо добра сцямнела.

Муж, як ніколі, сустрэў у самых дзвярах.

— Ага... З'явілася... Я ўжо думаў, што зусім збегла.

У пакоі крычала, аж заходзілася ад плачу Верачка.

Яна спехам паскідала з сябе верхняе настылае адзенне, кінулася да дзіцяці, але ён перагарадзіў дарогу, груба адштурхнуў:

— Не падыходзь! Ты не маці...

— Пусці, мне трэба пакарміць дзіця!

— Без цябе пакармлю. А ты ідзі, дзе была. Можа, там яшчэ не дагулялі...

Ён нязграбна захінуў у пялёнкі дзіця, узяў на рукі. Няўмела торкаў ёй у рот соску... Верачка захлёбвалася ад плачу, давілася малаком, круціла галоўкай.

— Аддай мне дзіця,— злосна крыкнула яна і схілілася над малой. Ён пляснуў яе па твары і, паклаўшы дзіця на ложак, выскачыў з пакоя.

Дамоў вярнуўся на другі дзень пад вечар. Раскруціў паперу і пасадзіў на канапу побач з малой вялізнага плюшавага мядзведзя. Вінавата патаптаўся і выйшаў на кухню...

Яна тады змаўчала, не стала напамінаць, што грошай у яе засталося хіба што на малако для дзіцяці. Толькі сумна паглядзела на вясёлую, задаволеную ўхмылку плюшавага мішкі...

Ужо трэці тыдзень ляжала я ў бальніцы. Стаяў канец сакавіка. Усе гэтыя дні было пахмурна, туман не разыходзіўся да полудня, было сыра і зябка. У нашым цёплым бальнічным пакоі з бялюткімі сценамі і мяккімі пасцелямі нам было не так ужо і дрэнна на першым часе. Асабліва, калі здароўе пачало крыху

наладжвацца і з'явілася цікаўнасць да сваіх новых знаёмых. Была нейкая своеасаблівая прывабнасць у доўгіх, няспешных размовах з яшчэ не знаёмымі табе ўчора людзьмі, гэтае нечаканае адкрыццё чужых лёсаў і такі ж нечаканы для сябе самой погляд на сваё жыццё, на свой лёс...

Але аднойчы мы прачнуліся і замест густога туману ўбачылі за акном ціхі, светлы, ружовы ранак. Здзівіліся і высокаму чыстаму небу, і аголенай зямлі, што плямамі цямнела на прыгорках і праталінах у бальнічным скверыку, і нават аблезлым лаўкам, што быццам з-пад зямлі выраслі паміж дрэваў.

А пад абед сонца ўжо шчодра палівала ўсё наўкол цёплымі вясновымі промнямі, і чорная зямля, што ўранку гулка аддавалася пад нагамі прахожых, размякла, лагчынкі набрынялі снегавой вадой. Лужыны стаялі каля самага ўваходу ў бальніцу, стаялі пад вокнамі, і ў іх звонка цурчаў капеж.

Усё гэта азвалася ўзрушанасцю і неспакоем у нашых сэрцах. Мы па чарзе прыліпалі тварамі да шыбаў, з нецярплівасцю чакалі абходу ўрачоў, пільна ўглядаліся ім у вочы, услухоўваліся ў словы, быццам хацелі пачуць ад іх у гэты дзень штосьці асаблівае для сябе, добрае. І калі б урачы абвясцілі ў той дзень, што ўсе мы зусім здаровыя і можам хоць зараз збірацца дадому, ніхто з нас не засумняваўся б у тым ні на хвілінку і не здзівіўся б. Так падманліва прынялі мы змену ў нашым настроі за нейкую цудадзейную і імгненную змену нашага здароўя.

Адна Вольга папрасіла зранку перавярнуць яе тварам да сцяны і праляжала так да самага абходу. Нават снедаць адмовілася.

Пасля абходу ўсе, хто мог хадзіць, заварушыліся, пачалі збірацца на вуліцу.

Але гуляць яшчэ не было дзе. Дарожкі ў скверы распаўзаліся пад нагамі, ветрык, якога мы не адчу-

валі праз сонечныя вокны, даволі адчувальна халадзіў нам твары. Таму ўсе стоўпіліся на высокім цэментаваным ганку, дзе было зацішна, як куры на прызбе, паабселі дзве невялічкія лаўкі, што стаялі ўздоўж праходу, жмурыліся ад сонца, удыхалі на поўныя грудзі бадзёрыя вясновыя пахі, дзівіліся пранізліваму крыку гракоў, што раз-пораз дружна ўзнімаліся з вершалін дрэваў, нібы спужаныя нечым.

І нясцерпным здалося нам заставацца далей у бальніцы...

— Не, папрашуся-тка я заўтра дадому,— першай не вытрымала Васільеўна.— Скажу, вы сабе як хочаце, а я як знаю... Крыху падлячылі, вялікае вам дзякуй за гэта. Але болей мне тут ляжаць няма як...

Я маўчала. Мне рабілася страшна ад думкі, што я магу таксама хутка, можа, нават заўтра, ісці вольна па вуліцы, удыхаць знаёмыя пахі горада, радавацца сустрэчным... І тут жа гэтую радасць перабівала другое: ніхто з сустрэчных не абрадуецца табе, міма цябе будуць ісці чужыя людзі, у якіх сваё жыццё, свае радасці, і нікому з іх не будзе клопату да цябе, да твайго адзіноцтва. Сцены тваёй утульнай гарадской кватэры сустрэнуць цябе глухім маўчаннем, папкі з тваёй дысертацыяй будуць нерухома ляжаць на стале, пакрытыя пластам пылу... Ты вытраш гэты пыл, возьмеш у рукі паперы і адгародзішся імі ад свайго адзіноцтва, адгародзішся ад жыцця...

«Чым бы дзіця ні цешылася, абы не плакала».

Я даўно ўжо не плачу... Чаму я не плачу, калі мне цяжка? Кажуць, гэта аблягчае сэрца, прасвятляе душу... Напэўна, таму, што я моцная жанчына. У мяне нават хопіць сілы адшпурнуць далей сваю дысертацыю, якую напіша нехта іншы, маладзейшы і больш здольны, у каго, можа, сапраўднае прызванне да наву-

ковай працы. Я моцная жанчына і знайду сабе справу, якая б запоўніла ўсё маё жыццё. Буду жыць для другіх... Магу нават заняцца грамадскай работай, як Антаніна Львоўна. А можа, і для яе гэта толькі шырма?..

Не, я моцная жанчына і не стану сябе ашукваць... Чаму ж тады не хапае ў мяне сілы адштурхнуць слабейшага?.. Гэля праўду мне сказала: ён напісаў мне пісьмо таму, што яму дрэнна, адзінока... Мне таксама дрэнна, але я маўчу, бо я мацнейшая за яго. Чаму ж тады не падымаецца ў мяне рука напісаць яму праўду? А якая яна, мая праўда?.. Няўжо ад усведамлення сілы сваёй і невінаватасці я пакутую? Адкуль жа тады гэтыя сумненні?

Цяпер мне страшна вяртацца ў пустую кватэру, як некалі, пасля вяселля Верачкі, страшна было ў ёй заставацца адной. І тады, як і цяпер, азваўся Аляксей. Расхваляваў... Тады ён прыязджаў на вяселле дачкі. Па-ранейшаму жартаваў, умеў кінуць трапнае слоўца... Асляпляў белазубай усмешкай. Моладзь і тая вілася каля яго, паглядала з захапленнем. Пэўна, і сам сабе ён здаваўся маладым і прыгожым. А мне, збоку, была відней і сівізна на скронях, і сутуласць, і нейкая разгубленасць і няўпэўненасць у яго вачах. Ён быў тады ўважлівы да мяне, ласкавы... Адчуваў, як цяжка мне заставацца адной... Тады я чакала ад яго тых слоў, якія ён напісаў праз паўтара года. Тады, як я ўжо супакоілася, пачала прывыкаць да свайго адзіноцтва. А калі б сказаў іх раней?..

Першай выпісалі Гэльку. Здароўе яе папраўілася не вельмі, але гэта не засмучала яе.

— Ат, што той ціск,— абыякава махала яна рукой.— Ці тое людзі пераносяць! Кепска толькі, што галава балціць. От, дурная гэта галава... А так я яшчэ ого!..

Але весялосць яе была нядоўгая. Яна моўчкі перабірала ў тумбачцы, задумвалася, што ёй пакінуць Вользе, а што забраць... Нарэшце не вытрымала яе насцярожанага і сумнага позірку, прысела на край ложка і рашуча загаварыла:

— Ты вось што, Вольга... Ты не думай... Я цябе не кідаю. Дактары сказалі, што мяне няможна болей трымаць у бальніцы, то не бяда. Я вось што надумала... Вазьму-тка я водпуск. Якая мне розніца, ці цяпер, ці ўлетку? Дзень буду тут з табой, а начаваць дадому буду хадзіць. А там, глядзіш, ты і сама пачнеш падымацца. Да таго ідзе,— упэўнена гаварыла Гэлька, быццам і не казаў ёй на развітанне ўрач, які лячыў Вольгу, што наўрад ці падымецца тая з ложка...

— Ну чаго ты плачаш, ну чаго?! Табе ж нельга расстрайвацца. Кажу, усё будзе добра,— сярдзіта крычала яна, хаваючы слёзы.

І каб не расхвалёўваць яшчэ больш хворую, адчайна махнула рукой, выбегла з палаты, пакінуўшы на падлозе раскіданы клунак з пустымі слоікамі...

Першую ноч спалі мы без Гэлькі. У палаце было ціха. Я доўга ляжала з расплюшчанымі вачыма. Па дыханні чула, што Васільеўна таксама не спіць. Было і цяжка і непрыемна ад гэтай нерухомай, нібы мёртвай цішыні, але парушыць яе я не асмельвалася. Я напружана прыслухоўвалася да дыхання Вольгі, чакала, ці не рыпне ў цішыні яе ложак, ці не варухнецца ў паветры белая рука, якой яна заўсёды прыцягвала да сябе ўвагу, калі ёй было што патрэбна. І я кінуся да яе, каб замяніць Гэльку... Але ўсё было ціха, нават дыхання Вольгі я не чула, як ні прыслухоўвалася. Яе ложак стаяў далекавата ад майго, каля самых дзвярэй. Хутчэй за ўсё Вольга таксама не спала.

А на другі дзень раніцай, яшчэ да абходу ўрачоў, прыйшла Гэлька. І не адна. Разам з ёй у палату ўціснуўся высокі мужчына з цёмным абветраным тварам і вялізнымі рукамі. Адной ён падтрымліваў халат, які ўсё спаўзаў у яго з пляча, у другой трымаў клуначак з гасцінцамі. Ён затрымаўся каля дзвярэй і, пакуль паміж ім і Вольгай стаяла Гэлька, здаваўся спакойны.

— Ну вось, Вольга, Антон прыехаў,— ціха сказала Гэлька, і вусны яе задрыжалі.— Вы пакуль пагаманіце тут, а я пайду... Мне трэба яшчэ бальнічны забраць у медсястры...

Выйшлі і мы з Васільеўнай. Моўчкі сталі каля акна ў канцы калідора. Хутка з палаты выйшаў і Антон. Спярша ён шпарка пакрочыў у наш бок, пасля, агледзеўшыся, што дзверы ў другім канцы, рэзка павярнуўся. Халат зваліўся яму пад ногі, ён падняў яго, няўцямна пакруціў у руках і, скамячыўшы, сунуў пад паху. Дрыжачымі рукамі доўга аблапваў кішэні, нарэшце выцягнуў з адной пачку «Беламора» і запалкі...

Васільеўна не вытрымала, шпарка падышла да яго і, заглядваючы ў вочы, сумна паківала галавой:

— Доўга ж ты дабіраўся дадому, чалавеча... Ці не позненька ты прыехаў?..

І зачыніла за сабой дзверы палаты.

А я доўга яшчэ глядзела праз акно, як па дарожцы, залітай вясновым сонцам, ішоў прэч ад бальніцы высокі ссутулены чалавек, ішоў павольна і няўпэўнена, нібы аглушаны гэтым «позна». Я глядзела на яго ссутуленыя плечы, і мне было не шкада яго. Хацелася крыкнуць услед знямелымі вуснамі Вольгі:

«Вольна ж табе гулялася, саколік! Вольна і бесклапотна... Ведаў, што, калі б ні пажадалася, заўсёды можаш вярнуцца назад. Жаночыя плечы трывушчыя — усё вынесуць! Жаночае сэрца спагадлівае — усё даруе! Жаночыя рукі моцныя і ласкавыя — і падтрымаюць, і абагрэюць, і аблашчаць... А ці думалася

табе хоць калі, саколік, што можа так здарыцца, што і прыляцець не будзе да каго? Што толькі паспееш, можа, сказаць сваё апошняе «даруй»... А як будзеш жыць, калі не даруе ў апошні раз? І нічога ўжо будзе не паправіць, не наладзіць, не змяніць... А калі і даруе? Ці лёгка табе будзе ад яе ўсёдаравальнасці?..»

Вольга даруе... Як даравала ўсё жыццё...

Адразу ж успомніла пра свайго чалавека, які таксама чакае ад мяне апошняга слова. Гаркавая радасць абудзілася ў душы: усё ж за намі апошняе слова, за жанчынамі...

Ну што ж... Цяпер я ведаю, што адказаць табе...

## Сустрэча

Той дзень мінуў, праляцеў у імклівым Сашыным жыцці, як і ўсе іншыя. І не здарылася ў той дзень з ёй нічога асаблівага, нічога не змянілася. Але лёгкі сум ды незразумелае пачуццё страты не адпускаюць яе. Ёй і радасна заглядваць у той вясновы дзень сваёй маладосці і тужліва... Ужо не вярнуцца назад і нічога не направіць... Сустрэча, якая не стала лёсам... Чаму ж не забываецца яна?..

У той дзень Саша спазнілася на аўтобус. Стаяла на прывакзальнай плошчы ў самым нязручным месцы... Яе штурхалі з усіх бакоў, спатыкаліся на яе вялізную клецістую сумку, якую яна кінула каля ног... А яна нічога не заўважала, у галаве білася тужлівае: «Як жа цяпер? Што ж цяпер рабіць?..»

Наперадзе тры дні свята... Усе сяброўкі з інтэрната параз'язджаліся... Толькі яна, разявака няшчасная, спазнілася на аўтобус...

А пазней і не з'ездзіш... Пачнецца сесія... Соня там зачакаецца... Саша нібы ўвачавідкі ўбачыла сястру, уявіла перадсвяточную мітусню ў кватэры... Не, у інтэрнат яна не вернецца. Што ёй там рабіць адной? Калі б былі ў яе грошы, можа б, як купіла яшчэ білет на пазнейшы рэйс... Хаця наўрад. За гэтым і то прастаяла гадзіны дзве напярэдадні....

— Эй, дзяўчына! Што ты стала як слуп, на самым праходзе? — пачула яна зласнаваты голас тоўстага мужчыны, абвешанага клункамі.

Саша паспешліва падхапіла пустую сумку з тужліва падціснутымі бакамі і бяздумна папляялася па

плошчы. Міма яе ішлі людзі, усе задаволеныя сабой, у святочным настроі, гаманлівыя... Адны спяшаліся да вакзала, другія выбягалі вонкі і спяшаліся на аўтобусныя пляцоўкі. І ўсе спяшаліся, спяшаліся... Нават аўтобусы, што нерухома стаялі роўнымі радамі па краі плошчы, і тыя, здавалася, праглі руху і толькі на момант прыціхлі, чуйна прыслухоўваючыся да знаёмых крокаў вадзіцеля.

А ёй спяшацца не трэба... Можна абысці не спяшаючыся ўсю плошчу і нават увесь горад, удосталь налюбавацца вечарам, майскай зелянінай, небам... Але любавацца не хацелася... Глядзець ні на што не хацелася! А ўнутры разрасталася штосьці нядобрае, злое, на сябе, на ўвесь свет... Больш на сябе. Ну што яна за чалавек такі! Бязвольная, непрактычная, бездапаможная... Зусім як тая жабка, што трапіла ў малако. Саша часта ўспамінала гэтую казку ці, хутчэй, прытчу, пра тое, як дзве жабкі трапілі ў бітон з малаком. Адна пачала адчайна борсацца, збіла лапкамі масла і, ўскарабкаўшыся на масляны грудок, выскачыла з бітона. А другая лапкі склала — і на дно. Так і яна...

Трэба ж нешта прыдумаць... Навокал людзі... Трэба, мусіць, некуды ісці, некага прасіць... Па-чалавечаму... Няўжо не зразумеюць?.. Вось пачнецца пасадка на аўтобус, падыдзе яна да вадзіцеля і ўсё растлумачыць. Няўжо не зразумее?..

Знойдзены выхад быў такім простым і нечаканым, што ў яе ажно дух заняло ад радасці. Якая ж яна разумніца! Павага да сябе расла са страшэннай хуткасцю. Усе вадзіцелі аўтатранспарта здаваліся ёй у гэтую хвіліну людзьмі надзвычай вясёлымі і добразычлівымі, у чуласці якіх яна не сумнявалася. І наогул, усе людзі навокал сталі нармальнымі, сімпатычнымі. Яна бадзёра крочыла па плошчы. Усміхнулася прадаўшчыцы кветак, з цікавасцю разглядзела вокладкі часопісаў у газетным кіёску... Убачыла сябе ў зацемне-

ным шкле і дурасліва наморшчыла нос... Потым прыгледзелася да сябе больш уважліва. Не, штосьці ў ёй не адпавядае ні сённяшняму перадсвяточнаму вечару, ні вясноваму настрою... Шыкоўнасці ёй не хапае, вось што... У паліто ў гэты цёплы вечар і цяжка і нязручна. Добра яшчэ, што клецісты драп зноў у модзе і паліто, перашытае з Сонінага, мае някепскі выгляд. Галоўнае — не думаць пра тое, чаго ў цябе няма і што не залішне было б мець... Сыходзіць трэба з адваротнага. Ну, хто, напрыклад, зверне ўвагу на тваё паліто, калі ў цябе такія раскошныя валасы?.. А валасы ў яе надзіва прыгожыя, густыя і бліскучыя. Саша выцягнула заколку, якая скалвала валасы, і яны мякка рассыпаліся па плячах. Крыху макравыя пасля нядаўняга дажджу, і пахам восеньскай мяты... Яна нядбайна ўзлахмаціла іх на скронях, каля вушэй накруціла на палец... Валасы паслухмяна апусціліся завітушкамі. Кажуць, які ў жанчыны волас, такі і характар... Выдумаюць жа такое! Саша яшчэ раз акінула поглядам сваё адлюстраванне і засталася задаволенай.

Цяпер паходка... Паходка для жанчыны — галоўнае. Саша адступіла на крок... Цяпер у шкле адлюстроўвалася ўся яе постаць. І ў тую ж хвіліну адчула на сабе чыйсьці пагляд. Агледзелася і ўбачыла незнаёмага марака. Здаецца, ён даўно назіраў за ёй... Сустрэўшыся вачыма, насмешліва варухнуў брывом: «Прыгожая, прыгожая... Але ж і крыўляка!»

У першую хвіліну Саша разгубілася, потым гэтак жа насмешліва скрывіла вусны: «А табе што за клопат?..»

І падхапіўшы сумку, з годнасцю прайшла міма і завярнула за рог будынка. Ад сораму нават слёзы выступілі на вачах. Гэта быў сорам вучаніцы, якая ўпотай цалавалася з хлапчуком і раптам, расплюшчыўшы вочы, убачыла перад сабой настаўніка. І яго пагляд, поўны насмешкі, спагадлівасці, разумення і яшчэ не-

чага такога, ад чаго адразу ж захацелася праваліцца скрозь зямлю.

Саша няспешна абышла будынак вакзала і, не выходзячы на плошчу, павярнула назад. Здавалася, як толькі яна зробіць хоць адзін крок з-за вугла, адразу ж наткнецца на погляд марака, насмешлівы і пагардлівы. Яшчэ гэтая сумка... Каго хочаш зробіць смешным і няўклюдным. Саша непрыязна паглядзела на яе. Канешне, у такую сумку ўлезе гара прадуктаў. Але калі на цябе глядзяць такімі вачыма...

Саша старанна выцерла хусцінкай брудныя кроплі на сумцы, паціскала яе з усіх бакоў, каб тая хоць крыху паменшала... Зрабіла некалькі ўпэўненых крокаў па плошчы і... схавалася за кіёск з марожаным. Калі б у яе былі грошы, яна б купіла сабе марожанага... А так... Тут вельмі зручна стаяць. Бачыш усю плошчу, усе аўтобусы, якія падыходзяць і адыходзяць, а цябе не відаць...

Высветліла, што марак гэты не адзін, а з таварышам. Стаяць, здалёку вызначаюцца ў натоўпе, абодва стройныя, зграбныя. Ну, вядома, таму, што на іх форма. Той, другі, калі б не вайсковая форма, зусім як хлапчанё. Невысокі, шчуплаваценькі, шыя тонкая, вушы вялікія... У дзяцінстве яго, пэўна, дражнілі аблавухім. Але што яму цяпер да таго! Узахлёб расказвае нешта вясковым дзядзькам, што стаяць побач, а тыя, відаць, слухаюць не вельмі, больш прыглядаюцца, пэўна, чакаюць аўтобус. Размова перапыняецца, калі на гарызонце паказваецца дзяўчына.

— Пардон,— заклапочана кажа ён субяседніку, быццам замінае ягонай гутарцы цяжкая павіннасць. І хапаецца за фотаапарат.

— Дзевушка! Дзевушка! Адну хвіліначку...

Пстрыкнуўшы, задаволена ўсміхаецца, гаворыць кампліменты. Пэўна, адны і тыя ж. Адны дзяўчаты смяюцца, другія сярдуюць, але ніхто не затрымліваец-

ца, праходзяць міма. А ён доўга яшчэ глядзіць услед, вочы ягоныя становяцца засмучанымі, і тады ён ужо не выдае хлапчуком.

Пасля, спахапіўшыся, вяртаецца да сваіх субяседнікаў, гамоніць з былым запалам і натхненнем. Пра што ён гэтак расказвае?.. Пра службу?.. Ці пра дзяцінства, маму?.. Але зноў набліжаецца дзяўчына. Пстрыкае фотаапарат... Праўда, здымае ён не адных дзяўчат. У аб'ектыў да яго трапляюць і галубы, што вольна разгульваюць каля самых ног, і смешны, тоўсценькі карапуз у зялёным вязаным касцюмчыку, і цюльпаны, прыгожыя пунсовыя цюльпаны, што полымем палаюць у прадаўшчыцы. Навошта ён робіць гэта?.. Куды ён хоча забраць з сабой гэты дзень, гэтых птушак, гэтыя кветкі?..

На другога марака Саша не глядзіць прынцыпова. Але цікаўнасць бярэ верх: зрэдку пачынае кідаць у ягоны бок погляды, поўныя крыўды і непрыязні. Здаецца, ён забыўся пра яе... Ну і добра. І яна пастараецца на ўсё забыцца. Шкада толькі, што вечар сапсаваны. Вось сустрэнецца ж гэткі непрыемны тып. Вядома, непрыемны. Нават калі б не той інцыдэнт, яна ўсё роўна б падумала так: «Які непрыемны тып!» Рэзкія рысы твару, цвёрды пагляд... Спакойна пазірае на дзівацтвы свайго сябра, паблажліва пасміхаецца, як дарослы з малога дзіцяці. У адносінах да Сашы ён стаіць на плошчы як заваёўнік, які адабраў у яе права быць бесклапотнай, вольна прагульвацца па плошчы, быць задаволенай сабою. Як напалоханае кацянё з падваротні, глядзела яна з-за кіёска на шумную плошчу. І што самае крыўднае: ён даўно забыўся на яе, ён зарагатаў бы, каб даведаўся пра яе перажыванні, і яна ведае пра гэта, а ўсё роўна не можа адважыцца і паказацца яму на вочы. Саша зразумела: калі яна зараз жа, неадкладна не зробіць штосьці для свайго самасцвярджэння, яна не даруе сабе гэтага ўсё

жыццё. Яна не павінна больш стаяць тут. Зараз яна выйдзе і, не хаваючыся за людзей, пойдзе да яго. Яна пойдзе цвёрдай і ўпэўненай хадой і гэтак жа цвёрда вытрымае ягоны пагляд, калі ён зірне на яе. І тады яна — вольная...

Убачыўшы Сашу, марак ажывіўся, у вачах мільганулі вясёлыя іскрынкі. Яны не былі насмешлівымі. Ён глядзеў на яе, як на старую знаёмую, прыхільна і з цікавасцю, нават наперад падаўся. Але штосьці незвычайнае ў яе твары прымусіла яго спыніцца і пачціва саступіць убок.

Вечарэла. Прывакзальная плошча пусцела і аціхала. Рэпрадуктар ахрыплым за дзень голасам аб'явіў пасадку яшчэ на адзін аўтобус... Зачыніўся блакітны кіёск «Марожанае»... Прадаўшчыца кветак знікла некуды са сваімі цюльпанамі... Заснуў на каленях у мамы смешны карапуз у шапачцы з чырвонымі пампонамі, які так заўзята ганяўся за галубамі. І галубоў не стала... Толькі адзін-два, самыя настырныя, кружацца каля ног, цярпліва чакаюць падачкі. На іх ніхто не звяртае ўвагі: чакаюць аўтобусаў. Чаканне зблізіла на нейкі час людзей, нават самых розных. І здаецца дзіўным, неpraўдападобным, што гэтыя людзі, якія стаяць разам, і жывуць зараз адным агульным чаканнем, людзі, паміж якімі за гэтыя кароткія хвіліны ўжо з'явіліся сімпатыі і антыпатыі, хутка разыдуцца і раз'едуцца, і ў большасці назаўсёды. Што ж тады ў іхнім жыцці гэтыя хвіліны?.. І што гэты вечар?.. Пройдзе, знікне, згубіцца сярод тысячы гэткіх жа вечароў. Навошта ж тады ўсё, што было з ёю?.. І гэты марак... Яшчэ нядаўна ёй здавалася, што ад таго, што думае пра яе гэты чужы, незнаёмы чалавек, з якім яна ніколі больш не сустрэнецца, залежыць усё яе далейшае жыццё. Саша ўспомніла сваю збянтэжанасць і адчай, і ў яе нават вочы расшырыліся ад здзіўлення. Ну, ці не вар'ятка яна?..

Дзяўчына парывіста ўскочыла з лаўкі. Ёй трэба было неадкладна ўбачыць таго чалвека, убачыць хоць на імгненне, каб зразумець самую сябе.

Але марака на плошчы не было. Не відаць было і яго сябра. Хутчэй за ўсё яны паехалі. Саша зусім згубіла адчуванне часу і не магла зараз пэўна сказаць, колькі яна прасядзела на лаўцы. Паўгадзіны?.. Пяць хвілін?.. Гадзіннік паказваў роўна сем. Яе аўтобус адправіцца праз сорак хвілін.

Сумная блукала яна па плошчы... Марака напаткала нечакана. Ён стаяў за блакітным кіёскам «Марожанае», дзе яшчэ нядаўна хавалася яна.

«Ты дзіўнае, смешнае дзеўчынё... Але мне ты падабаешся. Вельмі!» — гаварылі яго вочы.

«Праўда?» — спалохана затрапяталіся ў адказ яе вейкі.

«Ну, вядома, праўда... калі я так кажу...»

А ў вачах зноў вясёлыя, гарэзлівыя іскрынкі.

«Вы любіце насміхацца?»

«Я люблю казаць праўду. А ты баішся праўды?..»

Саша апусціла вочы і адвярнулася. Але і спіной яна адчувала ягоны пагляд... Яна сярдзіта нахмурыла бровы, рэзка азірнулася.

«Такая ты мне таксама падабаешся...» — спакойна адпарыраваў марак.

«Пакіньце мяне ў спакоі...»

«А цябе вельмі хвалююць мае погляды?..»

Саша абыякава перасмыкнула плячыма, што павінна было азначаць поўнае раўнадушша. Але да таго цiхамірнага спакою, які ёй хацелася выдаць на сваім твары, было далёка. Яе ні на хвіліну не пакідала адчуванне няёмкасці, цеснаты, быццам штосьці сціскала яе з усіх бакоў, замінала хадзе, вольным рухам...

Нарэшце Саша стамілася ад сваёй абароннай пазіцыі, а марак, мяркуючы па ўсім, і не збіраўся ніяк замахвацца на яе незалежнасць. Ён нават не паспра-

баваў наблізіцца да яе, загаманіць... Ён стаяў усё там жа, за блакітным кіёскам, і глядзеў на яе. Глядзеў так, як не глядзеў на яе яшчэ ніводзін мужчына. Адчуванне няёмкасці, што мучыла яе ў першыя хвіліны, прайшло... Яна ўсё яшчэ звыкла кідала ў ягоны бок непрыязныя погляды, але калі б ён раптам паверыў у іх шчырасць і перастаў звяртаць на яе ўвагу, яна б вельмі расчаравалася. Спрадвечнае, неўсвядомленае яшчэ жаданне падабацца надало незвычайную лёгкасць яе хадзе, зрабіла зграбным і прыгожым кожны рух цела, асвяціла твар унутраным святлом дабра і чысціні. Яна здавалася сама сабе ў гэтыя хвіліны каралевай, гордай і недаступнай... Яна патрабавала любові і пакланення і атрымлівала іх.

Калі падышоў яе аўтобус, яна доўга не магла зразумець: які аўтобус? навошта аўтобус? І чаму тут столькі людзей, якія мітусяцца нечага, бягуць...

Рэзка ляснулі дзверцы аўтобуса, побач, як з-пад зямлі, вырасла фігура кантралёра з чырвонай павязкай. Рупар пагражальна пракрычаў:

— На шостай пасадачнай пляцоўцы пачынаецца пасадка на аўтобус... Час адпраўлення — 19.40. Паўтараю... На шостай пасадачнай пляцоўцы...

Падхопленая натоўпам, Саша не заўважыла, як наблізілася да аўтобуса, стала ў чаргу... Яна не думала, што хутка паедзе, што яны расстануцца. І калі ўбачыла ў дзвярах аўтобуса шчуплую фігурку марака з фотаапаратам, не здзівілася. Ён на момант затрымаўся, пашукаў у натоўпе некага вачыма (Саша ведала каго!) і энергічна замахаў рукой. Яна не здзівілася, толькі падумала з фанатычнай перакананасцю: «Усё. Гэта лёс. Мы павінны быць разам. Так павінна было здарыцца... І спазніцца яна павінна была...»

Яна моўчкі выбіралася з чаргі, стараючыся не глядзець на запытальныя, здзіўленыя, незадаволеныя твары. Вось табе і лёс... Як яна магла забыцца на свой бі-

лет?! Хіба можа яна зараз прасіць аб нечым вадзіцеля? У ЯГО на вачах... Не, не можа... Нават калі ніколі больш не ўбачыць яго...

Яна вярнулася назад, да аўтобуса, не таму, што хацела яшчэ раз убачыць яго. Яна ведала — усё скончылася. Але ёй трэба было некуды ісці, і ногі самі панеслі яе назад.

Пасадка ўжо закончылася. Кантралёр, стоячы на прыступку, штосьці пісаў у паперах вадзіцеля. Пляцоўка была пустая. І раптам:

— А вы хіба не едзеце на гэтым аўтобусе?..

Саша здрыганулася ад нечаканасці. Яна пазнала голас, хаця ніколі не чула яго. Марак стаяў у яе за спіной. Яна нават адчувала на шчацэ яго дыханне. Яна толькі крыху павярнула галаву і сустрэлася з яго вачыма. Здзівілася, што яны зусім не падобныя на тыя, нядаўнія, закаханыя, з вясёлымі іскрынкамі. Ён глядзеў на яе сур'ёзна, нават адчужана, быццам яны ўжо рассталіся назаўсёды. Але, можа, таму, што зблізку яна разглядзела ў яго вачах адбітак сваёй тугі.

— Я думаў, вам трэба на гэты аўтобус...

— Мне?.. Не... Трэба... Толькі ў мяне няма білета,— даверліва прашаптала яна і вінавата ўсміхнулася.— А наогул, дык і білет ёсць. Толькі не на гэты рэйс. Я спазнілася. Мой аўтобус ужо пайшоў.

— Ну, гэта мы ўладзім,— спакойна адказаў марак.— Дзе ваш білет?

І выхапіўшы з рук білет, які яна для большай пераканаўчасці тут жа дастала з кішэні, апынуўся разам з ёю ў аўтобусе.

Саша не стала слухаць, што ён будзе тлумачыць шафёру, нават старалася не глядзець у той бок. Але адыходзіцца далёка ад дзвярэй не асмельвалася. Хто яго ведае, чым скончыцца для яе тая размова.

— Парадак!

Марак упэўнена ўзяў з яе рук сумку. Аўтобус у

гэты момант зрушыўся з месца, Саша пахіснулася, і ён далікатна падтрымаў яе за талію.

— Цяпер вы паедзеце па маім білеце,— весела казаў ён.— А па вашым, несапраўдным, паеду я. Прашу сесці на сваё законнае месца.

А вочы смяюцца, лашчаць смела і адкрыта...

Пэўна, яна зусім разгубілася... А калі да яе вярнулася здольнасць разважаць, яна ўбачыла сябе і яго нібы збоку.

Яго — гордага сваёй перамогай, сябе — прыціхлую і пакорлівую...

«Нішто сабе! — здзівілася яна.— Спрытна ў яго ўсё атрымалася. Раз, два, і ведай нашых... Паўночнага флоту! А яна... Вось табе і каралева... Авечка! Бяры павадок і вядзі куды хочаш...

...А калі па праўдзе... Яна пайшла б за ім хоць на край свету... За чужым, незнаёмым, незразумелым... Толькі не так. Не пад гэтай рукой на плячы, хоць і лёгкай, хоць і ласкавай... Не пад гэтым поглядам... Быццам галоўнае ў іх адносінах вырашыла размова з шафёрам».

Нешта сціснулася ў ёй, нібы спружына, якая ў любую хвіліну можа ўдарыць. Каго яна ўдарыць?..

— Дзякую,— холадна адказала Саша.— Але паслуга ваша не да месца.

І паглядзела яму ў вочы. Гэта было цяжка зрабіць, але яна перасіліла сябе.

— І наогул... Ваша самаўпэўненасць... Чаму вы так рашылі?.. Можа, я не хацела ехаць на гэтым аўтобусе?.. Я вас не прасіла.

Рука, якая яшчэ хвіліну назад асцярожна падтрымлівала яе, апусцілася, але ўсмешка па-ранейшаму асвятляла яго твар. Выраз яго пачаў мяняцца па меры таго як даходзіў да яго сэнс пачутых слоў. На ім не адбілася ні крыўда, ні разгубленасць. Паволі, як гасне ў тэатры святло, сыходзіла ўсмешка з яго вуснаў, цям-

нелі вочы. Твар быццам застываў. І застываючы, усё ў ім абвastралася: падбародак, які стаў выступаць уперад, прамы нос, вуглы лба... І ад гэтай завостранасці ёй няёмка, цяжка стаяць, быццам ён з усёй сілы ўпёрся ёй у спіну і прыціснуў яе.

— Выбачайце,— не адразу вымавіў ён.— Выбачайце за мядзведжую паслугу...

І з робленым камізмам узяў перад ёй пад казырок.

Людзі хутка прывыклі да свайго становішча пасажыраў і тыя дзве гадзіны дарогі, якія чакалі іх, стараліся прабавіць згодна сваім схільнасцям і характару. У адным былі аднадушны: час у дарозе павінен прайсці хутка і непрыкметна.

На пярэднім сядзенні пасапвае носам пажылы мужчына ў светлым плашчы, ссунуўшы брыль на левае вуха і прыладзіўшы яго замест падушкі.

Дзяўчына побач пераліствае «Вожык»...

Дзве маладзенькія дзяўчынёхі ў балоневых куртках наперабой штосьці расказваюць адна адной, радуючыся, што за дарогу нагаворацца ўдосталь.

Тоўстая цётка распатрашыла свае сумкі, павыцягвала кучу пакункаў, загорнутых у тлустую газету, расклала на каленях. Есць сама і частуе дзяўчынку, што сядзіць побач. Гуляюць, перадаючы цераз праход карты, трое хлопцаў і дзяўчына.

А з другога канца аўтобуса чуецца дрыготкі ад раднага ўзбуджэння голас шчуплаваценькага марака. Ён усім корпусам нахіліўся, павіс на спінцы пярэдняга сядзення, нешта з запалам гаворыць дзяўчыне. Дзяўчына прыгожая... У яе доўгія белыя валасы і тонкія бровы над ярка нафарбаванымі вачыма. Саша прыслухоўваецца...

Марак расказвае пра Запаляр'е, дзе яны служаць. Расказвае пра бясконца доўгую палярную ноч, пра

ледзяное мора, пра штормы, пра сваю падводную лодку... Расказвае, якія прыгожыя сопкі вясною, якія вялікія камені-валуны абапал дарог...

Дзяўчына маўчыць, глядзіць у акно, і не зразумела, слухае яна ці думае пра сваё. Толькі мільгне часам на твары ўсмешка, ці то насмешлівая, ці спагадлівая...

Голас марака часта заглушаецца выкрыкамі карцёжнікаў.

— Дзевушка, а хлопцы ў нас... Разумець трэба... Падводнікам не кожнага возьмуць... А мы во з таварышам з адпачынку вяртаемся. Год службы, і парадак... Разумець трэба... Дзесяць дзён гражданкі! Эх, дзевушка... Нічога вы не разумееце...

На хвіліну ён заціхае, сумна глядзіць у акно. Але толькі на хвіліну...

— Дзевушка, а ваш адрасок можна? — з той жа ўзрушанасцю працягвае ён.— Я б вам кветкі прыслаў... Засушаныя. Так сказаць, прывітанне ад запалярнага лета. Не верыце?.. У нас і кветкі растуць на сопках... А ў горад, на газоны, траўку прывозяць... Вельмі прыгожа... То як будзе з адрасам, дзевушка?..

А аўтобус імчыцца, і час раўнадушна адлічвае свае хвіліны. Насоўваецца ноч. У светлую празрыстасць вечара нібы падмяшаў хто мутную сінь. Гэтая сінь апускаецца ўсё ніжэй, гусцее. У некаторых дамах ужо запалілі святло. Яны стаяць абапал дарогі такія вясёлыя і падобныя адзін на аднаго. Як падобны твары жанчын, што пасуць кароў паўз дарогі, сваім непарушным спакоем. Ёй бы туды, да іх... Але сцены аўтобуса для таго, пэўна, каб аддзяліць яе ад той ціхамірнасці, ад таго спакою, што праносяцца міма... Сцены аўтобуса для таго, каб паказаць людзям, якімі адзінокімі і чужымі яны могуць быць, нават сабраныя пад адным дахам.

## Чужая бяда

Яны сядзелі поплеч на высокім ложку і былі вельмі падобныя: старая жанчына са змрочным хударлявым тварам і пяцігадовая дзяўчынка. Дзяўчынка, як і бабуля, па-старэчы павязана цёплай клецістай хусткай, ахінута байкавай коўдрай. Глядзела на мяне не па-дзіцячаму сур'ёзна цёмнымі вачанятамі, даверліва прыхінуўшыся галоўкай да грудзей бабулі.

І я ўспомніла гэтую сям'ю. Успомніла, што была ўжо ў гэтай хаце, можа, з год назад. Як і цяпер, хварэла дзяўчынка, і візіт той пакінуў у душы незразумелае пачуццё трывогі. Гэта не быў звычайны неспакой доктара за лёс хворага... Мяне ўразіла тады нешта іншае... Можа, гэтая дарослая сур'ёзнасць у вачах дзіцяці?.. Ці запушчанасць і неўладкаванасць у кватэры, што адразу ж кідалася ў вочы. Здавалася, быццам людзі, што жывуць у гэтай хаце, сабраліся некуды ў дарогу, у спешцы пакідалі рэчы ды так і забыліся на іх. А можа, і не забыліся... а жывуць так, быццам кожны пражыты ў гэтай хаце дзень — апошні.

У покуце — тэлевізар «Гарызонт», пакрыты не надта чыстай і пакамечанай сурвэткай. Побач ляжыць на баку крэсла з адламанай ножкай, валяюцца старыя газеты і часопісы.

На вокнах пажаўцелыя ад часу, даўно немытыя фіранкі... Шафа паліраваная, сучасная, а ў стык да яе стары шкапік з адламанымі дзверцамі, якія трымаюцца на адной верхняй завесе. Жалезны ложак з нікелевымі спінкамі і высокім матрацам, на сцяне папяровы дыван з лебедзямі. Каля печы куча чыгункоў, пад

печкай павісквае парася, пэўна, нядаўна купленае і ўзятае нанач з хлява ў хату, у цяпло... Надта ж моцныя маразы выдаліся ў гэтую зіму.

У хаце цёпла. Сярод пакоя стаіць маленькая жалезная печка, у якой весела патрэскваюць дровы. Я нарэшце адважваюся падысці да яе і пагрэць рукі. Бацька дзяўчынкі, які ўвесь гэты час ціха стаяў у парозе, таропка падышоў да печкі, пачаў адчыняць дзверцы. Але яны адчыніліся не адразу. Пэўна, рукі ў чалавека задзеравянелі на марозе ці, можа, ад разгубленасці зрабіліся няспрытнымі і дрыготкімі, толькі дроцік у яго руках дрыжаў, колькі разоў зрываўся з дзверцаў, пакуль яны, нарэшце, адчыніліся. Ён паварушыў крыху паленне, і полымя іскрамі шуганула на хату, ярчэй асвяціла ложак і хворую дзяўчынку.

Мужчына пачаў мітусліва падкладваць у печку дровы, хаця ў ёй яшчэ добра не выгарала і ад металічных нагрэтых бакоў патыхала гарачынёю.

Пасля, не ведаючы, чым заняць рукі, доўга абтрасаў з каленяў нябачныя парушынкі... А калі нарэшце ўзняў на мяне вочы, у іх бліснулі трывога і адчай.

Я хуценька падышла да дзяўчынкі, пачала расхутваць яе.

— Даўно мералі тэмпературу? — спыталася я.

Дзяўчынка даверліва падала мне рукі. Яны былі гарачыя...

Пакуль мералі тэмпературу, старая скардзілася:

— Не ведаю... Можа, і не даглядзела... Я пакуль парсючка накармлю, карове сена скіну з гарышча, яна адна... Можа, і вады халоднай глынула...

Яна вінавата пазірала на сына, у роспачы камячыла хустку, якую зняла з дзяўчынкі, і ўсё паўтарала:

— Можа, і не даглядзела... Старая я ўжо... За ўсім не ўгляджу. Можа, і вады халоднай напілася... Не ведаю...

Мужчына сядзеў на нізенькім услончыку каля печ-

кі, апусціўшы галаву. У наш бок ні разу не глянуў, толькі пацірау час ад часу няголены твар і моршчыўся, як ад болю.

Мне хацелася спытаць пра маці дзяўчынкі, але нешта стрымлівала. Была ўпэўненасць, што маці ў яе няма, але распытваць пра гэта не адважылася.

— Калі захварэла дзяўчынка? — звярнулася [redacted] да бацькі. Той усхапіўся, наблізіўся да дзіцяці.

— Я з работы позна прыйшоў,— глухаватым голасам пачаў ён,— бачу — нешта не тое. Суседка нейкія парашкі прынесла, не палепшала. Ну, я тады да вас...

— Нічога. Усё будзе добра,— супакоіла я.

Тэмпература ў дзяўчынкі была высокая.

— А зараз я цябе буду слухаць вось гэтай трубачкай,— растлумачыла я дзяўчынцы.— Ну-тка, павярніся да мяне плечкамі. Цябе як завуць?

— Галяй! Яе Галяй клічуць,— адказала за яе бабуля.— Яна ўсё ведае, разумненькая... Толькі саромеецца чужых. Скажы, дзіцятка, Галяй мяне завуць, а тату Кастусём, а маму Ядзяй...

— А дзе ж твая мама, Галя? — не вытрымала я.

— Скажы, у бабулі наша мама, з Наташкай...

Я нічога не зразумела, але распытваць не стала.

На зваротнай дарозе пацікавілася ў шафёра:

— А дзе маці гэтай дзяўчынкі?

Увесь час мне карцела распытаць пра сям'ю сваёй пацыенткі. Але дарога была ў сумётах, месцамі яе зусім занесла снегам, і кожны раз, убачыўшы наперадзе выхаплены з цемры святлом фараў сумёт, я чакала, што ён і будзе апошнім на нашым шляху. І давядзецца нам начаваць сярод поля ці дабірацца дадому пешшу. Але Уладзік, так звалі шафёра, з нейкай легкадумнасцю і адчайнай зухаватасцю кідаўся на гэтыя перашкоды і з лёгкасцю адольваў іх. Нарэшце і я не стала вельмі ўглядацца ў дарогу і пачала размову пра тое, што мяне цікавіла:

— А дзе маці гэтай дзяўчынкі? Чаму я ні разу не бачыла яе?

— І не ўбачыце,— ухмыльнуўся Уладзік.— Яна тут не жыве.

— А дзе ж яна жыве?

— У сваёй маці, у Магілёўскай вобласці.

— То яны, мусіць, разведзеныя? — здагадалася я.

— Ды не. У тым та і справа, што не разведзеныя. Каб разведзеныя, дык не дзіва. Жыві сабе дзе хочаш...

— А як жа тады...— разгубілася я.— Што ж гэта за жанчына, што кінула мужа і дзіця... Здаецца ж, чалавек ён неблагі. Можа, крыўдзіў яе?

— Кастусь? Не... Кастуся самога любы пакрыўдзіць. Гэта ж цялё! Мо таму і жонка з ім не жыве. Ад другога б вельмі не набегалася. Другі б гэтага не пацярпеў... Вось, калі б са мной гэтакае здарэнне, я б адразу сказаў: «Не, дарагуша. Вось табе бог, вось парог. Хочаш жыць — жыві. А не хочаш, уздумаеш яшчэ раз у падарожжа пускацца, я ў той жа дзень сабе другую бабу прывяду... Хо!»

Ён рагатнуў, бліснуўшы ў цемры белымі зубамі, зухавата ссунуў шапку набок і плаўным рухам моцных рук так крутануў баранку, што машына снегам шуганула ў шкло кабіны.

— А то што ж атрымліваецца,— працягваў ён.— Выходзіць замуж, а з мужам не жыве. Ёй, бачыш, маці шкада... А мужа не шкада, калі ён уначы бялізну паласкаць носіць? Не смейцеся, праўду вам кажу, што сам мые,— паўтарыў ён.

— Маці яго слабая зусім, усё хварэе... Толькі да дактароў не любіць хадзіць, то вы, можа, і не ведаеце... Дык Кастусь тады сам усю бабскую работу робіць. І карову доіць, і есці гатуе, і бялізну мые ўначы...

— А чаму ўначы? Ён жа, мусіць, як усе людзі, выхадны мае?

— Ну, мые, можа, і не ўначы, а паласкаць носіць,

як ужо добра сцямнее. Каб людзі ўсе паснулі. А цяпер жа што зімою, што летам, раней поўначы спаць не ўкладуцца. Ад тэлевізара не адгоніш. Іншым часам і заснеш глядзеўшы. Неяк прачынаюся гадзіны ў тры ночы, тэлевізар свеціцца, жонка ў крэсле скурчылася ў клубок, сапе носам, і сам я, не распрануўшыся, ляжу на канапе.

— Дык што Кастусь? — нагадала я.

— Кастусь? Ага... Дык саромеецца ён. Людзі і так з яго смяюцца. Я аднойчы застаў яго, як ён бялізну пад калонкай паласкаў. Над калонкай у нас ліхтар вісіць, дык здалёку відна. Гляджу, нехта, сагнуўшыся, стаіць, а над ім ажно пара валіць. Думаю, што за дзіва? Ціхенька падышоў, прыгледзеўся... А гэта Кастусь бялізну палошча, а ад бялізны пара ідзе... Я аж рот разявіў ад здзіўлення. Вельмі ж смешна мужчыну бачыць за такім заняткам... А ён увіхаецца, аж рукі трасуцца, гэтак спяшаецца. І цыратаю падпяразаны, каб не замачыцца... Глядзіш — баба ні баба, мужык ні мужык... Дзе тут вытрываеш ад смеху. Я рагатнуў, а ён аж закалаціўся ўвесь, быццам у яго з двухстволкі смальнулі...

— А чаму ад яго жонка ўцякла?

— Не, яна не ўцякла,— дзівячыся майму неразуменню, адказаў ён.— І пачаў цярпліва тлумачыць: — Яна ў маці сваёй жыве. Ужо другі год. Як пахавалі бацьку, так яна і засталася. Бацька яе малады памёр. Як кажуць, заўчаснай смерцю. Трапіў у аварыю... І засталося пасля яго чацвёра дзяцей. Ядзя ў іх сям'і старэйшая... А малодшы ўжо пасля бацькавай смерці нарадзіўся. Маці ў хуткім часе на ферму працаваць пайшла, пенсію зарабляць, а Ядзя за ўсімі дзяцьмі прыглядала. І меншую з сабой узяла, каб ужо ўсе да кучы. А Галю Кастусь не аддаў. Сумна яму аднаму...

— А што, Ядзя да іх не прыязджае?

— Чаму, прыязджае. Раней часта ездзіла. Бялізну перамые, парадак такі-сякі ў кватэры навядзе ды і назад.

— То калі ўжо так,— паспачувала я,— няхай бы і Кастусь да іх перабіраўся.

— Што Кастусь... У Кастуся ж таксама маці, нямоглая зусім. Як жа ёй адной заставацца? Так і жывуць... То Ядзя з візітам з'явіцца, то Кастусь да яе махне. Плот падрамантуе ці дроў прывязе... Усё ж мужчына. Так і ездзяць у госці адзін да аднаго. Мужчыны на рабоце кпяць з яго: «Ну, Кастусь, калі табе жонка спатканне назначыла?» ...А то парады даюць: «Плюнь,— кажуць.— Шукай сабе жонку сярод тутэйшых, каб бліжэй было да цёшчы на бліны хадзіць». А ён маўчыць, каб слова. Я ж кажу, калі б я...

Раптам ён запнуўся на паўслове, памаўчаў хвілінудругую і нечакана ўздыхнуў і дадаў ужо без ранейшай зухаватасці і ўпэўненасці:

— А д'ябал яго ведае, што б я рабіў. Не жаніцца ж і сапраўды з другой. А можа, яму гэта любая?.. Ды і дзеці... Во сітуацыя...— нявесела ўсміхнуўся ён і надоўга змоўк.

Астатак дарогі мы ехалі моўчкі, але думалі, пэўна, пра адно і тое ж. Пра чужую бяду. І чым болей я думала, тым больш складаным і нялёгкім здавалася мне чужое жыццё, што нечакана адкрылася перада мною.

А кажуць: «Чужую бяду рукамі развяду...»

# І надыходзіць восень...

У тую ноч прысніліся дзеці: дачка Вольга, сыны, забітыя на вайне і жывыя. Сядзелі поплеч і гаманілі. Размаўлялі яны голасна, але яна чамусьці не чула іх гамонкі. Усведамляла толькі, што размова ў іх непрыемная.

Дзеці часта сніліся Уліце, але каб вось так, усе разам — упершыню. Яна разумела, што гэта толькі сон, і ўсё ж радавалася, што хоць так бачыць іх зноў разам, жывых і здаровых.

Яшчэ ўзрадавалася Уліта, што нарэшце зможа сказаць ім тыя словы, якія выношвала ў сэрцы ўсё жыццё і якія так і не сказала: нябожчыкам, таму што спазнілася, а жывым не спяшалася іх гаварыць. Не наспеў час...

І цяпер гэты час наступіў... Яна зразумела гэта, як убачыла дзяцей, і адразу ж захвалявалася. Яна баялася, што раптоўна ўсё знікне, знікне раней, чым яна вымавіць слова. І таму спяшалася... Але штосьці замінала ёй. Гоман мужчын заглушалі машыны, якія штохвілінна праязджалі паўз хату, і яе голасу не чуваць было. Тады яна стала падыходзіць да кожнага і заглядваць у твар. Дзеці, незадаволеныя, адварочваліся ад яе. А яна ўсё хадзіла, прыглядалася і не магла зразумець прычыны іх адчужанасці. А як здагадалася: гэта ж яны не задаволены, што яна з імі. На душы адразу стала пустэльна і самотна. Яна вобмацкам, нібы сляпая, знайшла дзверы і выйшла. Выйшла, як правалілася кудысьці ў бездань, сырую і халодную...

Уліта прачнулася і доўга не магла апамятацца.

Сэрца аж зайшлося ад страху, ногі і рукі, як чужыя, быццам і сапраўды іх прыціснула цяжкай і сырой зямлёю. Ні прыўзняць, ні зварухнуць...

А за сцяной бушавала навальніца, грукатаў гром, стагнала і рыпела старая ліпіна.

Раніцай, роснай і ядранай, яна хадзіла па садзе, са скрухай глядзела на палёглую пшаніцу, на зламаныя галіны дрэў, на яблыкі, якія густа ўслалі траву. Недаспелыя скідвала ў кучу, а спялейшыя збірала ў фартух. Яблыкі закаціліся аж пад старую ліпіну. Уліта не стала збіраць іх, а закінуўшы галаву, звыкла, як рабіла гэта кожную раніцу, зірнула на верхавіну, дзе заўсёды чуцён быў клёкат буслоў. Але раней чым убачыць іх, адчула, што нешта здарылася ў гэтую навальнічную ноч. На галінах шматкамі вісела пакулле, на траве пад ліпай валяліся рэшткі гнязда і пер'е. А наверсе, раскрыжаваўшыся паміж сукоў, нерухома вісеў бусел, прыціснуты колам, на якім некалі было гняздо. Другі бусел і двое маладых буслянят сядзелі непадалёку на бярозе.

Буслы да гэтай вясны ў вёсцы не жылі. Здавалася б, мясціна ціхая, балоцістая, жабаў хапае... Што яшчэ трэба гэтай птушцы?.. Але буслы праляталі міма, гняздзіліся ў іншых вёсках, нават у гарадскіх пасёлках, а харчавацца прылятаблагі сюды, на галяшэўскія балоты.

Гэтай вясной нечакана спусцілася на Уліціну хату пара буслоў. Пасядзелі, паглядзелі, узляцеўшы, доўга кружыліся над пляцам. Уліта здагадалася, што аблюбавалі яны сабе ліпу, зламаную навальніцай мінулым летам.

А неяк увечары прыйшоў да Уліты яе малодшы сын Павел. Павел жыў у прымаках у суседняй вёсцы і наведваўся сюды рэдка. Хіба як не хапае на бутэльку грошай, дык забяжыць пазычыць.

І ў гэты вечар Павел сядзеў пануры. Пра буслоў

слухаў і не слухаў... У яго быў свой клопат. Хацелася выпіць, але не было грошай. Прасіць зноў у маці было няёмка. Хіба што дроў ёй насекчы?.. Дык ужо пасечаныя... І раптам ён кумільгом кінуўся да павеці, дзе ляжалі бацькавы цяслярскія прылады і рознае ламачча, і выцягнуў адтуль як не струхлелае кола.

— Счас, маці... Будзе тваім цыбатым не то што гняздо, а кватэра... З усімі выгодамі! Так што, давай... Шукай бутэльку...

І прывязаўшы да спіны кола, палез на ліпу.

Здаецца, якая радасць ці якая карысць старой жанчыне, што жывуць над яе хатай буслы?.. Людзі кажуць, што буслы прыносяць шчасце... Толькі ж якое шчасце могуць прынесці ёй гэтыя птушкі, калі яна і сама сабе ўжо нічога не жадае. Хіба што лёгкай смерці. Але пра гэта яна не думае. А як прачнецца на досвітку, то перш чым запаліць у печы, ногі самі нясуць да старой ліпы. Доўга стаіць яна заспакоеная, уціхаміраная, услухоўваючыся ў любоўны клёкат птушак, назіраючы, як увішна рупяцца яны з жыллём.

Вельмі чакала, калі з'явіцца на свет маладняк. Хвалявалася... А як павялічылася сям'я ў птушак, і ёй прыбавілася радасці, прыбавілася цікавасці да іх...

Калі чула ад людзей «Уліціны буслы», прымала гэта як належнае, з гонарам. Было ў гэтых словах нешта большае, як толькі тое, што жывуць буслы над яе хатай. Ганарылася, што гэтыя моцныя і прыгожыя птушкі, якія з незалежным выглядам разгульваюць па яе садзе, ужо не палохаюцца яе. Толькі як падыдзе яна зусім блізка, павольна ўзмахнуць крыламі, адляцяць крыху. І Уліта старалася надта не дакучаць ім...

Той раніцай, моцна ўзрушаная, Уліта прыбегла да зяця. Дачка Вольга толькі што падаіла карову і сонная, незадаволеная гатавала снеданне. Уліта колькі памятае, тая і ў дзеўках усё не магла выспацца...

— Што гэта вы ў такую рань,— пазяхаючы спыталася ў маці.— Здарылася што?

— Ды не,— сумелася Уліта.— Гэта я так... Думаю, навальніца ж бушавала... Каб не нарабіла шкоды... У мяне, вунь, пшаніцу злажыла, яблыньку маладую зламала... І буслоўню скінула, і...

Вольга абыякава махнула рукой:

— Выдумляеце немаведама што. От жа не спіцца людзям. І падалася на кухню, дзе скварчала сала на патэльні.

І Уліта, спалохаўшыся, што Вольга не стане яе больш слухаць, таропка, з нейкай вінаватасцю ў голасе расказала пра буслоў.

Вольга нічога не адказала, толькі цяжка ўздыхнула і пайшла будзіць мужа.

Тупаючы ўслед за зяцем, старая дапытліва паглядала на яго збоку, спрабуючы ўразумець, сярдуе ён ці, як і Вольга, не выспаўся...

Як наблізіліся да ліпіны, бусел па-ранейшаму нерухома вісеў між галін, быццам нежывы. Аднак калі чалавек ускараскаўся зусім блізка, устрапянуўся і адчайна рвануўся ўбок. Міхаіл дацягнуўся да яго, але бусел выслізнуў з рук і, не ўзмахнуўшы крыламі, каменем упаў да ног Уліты.

— Як жа гэта ты, Міхаіл... Навошта ж так? — пыталася старая, спрабуючы дрыжачымі рукамі падняць птушку. Тая, сабраўшы апошнія сілы, ірванулася і нерухома распласталася на зямлі.

— Забілася птушка, забілася...

Міхаіл лёгка саскочыў на зямлю і прысеў на кукішках побач.

— Дык яна ж жывая,— супакоіў ён старую.— Бачыш, глядзіць...

— Жывая, ды пакалечаная... Што з ёй цяпер рабіць?.. А гэта ж, відаць, самка. Бедная...

— Ну, во... Завяла, як па нябожчыку... Гэта птуш-

ка яшчэ нас з табой перажыве,— сказаў Міхаіл і пайшоў.

А Уліта яшчэ доўга тапталася каля бусліхі, не ведаючы, чым памагчы ёй. Прынесла вады ў гаршчэчку, падсунула да дзюбы. Птушка не зварухнулася. Раўнадушна глядзела яна на жанчыну чорнымі і бліскучымі вочкамі, падобнымі на абмытыя расой парэчкі.

Буслам спачувала ўся вёска. Людзі, праходзячы паўз хату, спыняліся каля загароды, жаласна глядзелі на пакалечаную птушку. Хлапчукі прынеслі бляшанку з жабамі, хацелі сілком запіхнуць іх у дзюбу. Уліта дзяцей з саду павыганяла і пасля цэлы дзень цікавала, каб яны не дакучалі хворай.

А на другі дзень захварэла сама Уліта. Можа, прастудзілася ў тую раніцу, сырую і халодную, як ратавала бусліху, а можа, была таму іншая прычына, толькі на другі дзень яе раптам закалаціла дрыготка, як жалезным абручом сціснула грудзі. Стары фельчар Захарыч, якога прывяла да маці Вольга, абслухаўшы яе, сказаў, што захварэла яна на запаленне лёгкіх і што трэба неадкладна ехаць у бальніцу.

Але ў бальніцу Уліта не паехала... Ужо каторы дзень ляжала яна на ложку за печкаю, прыціхлая, маўклівая... Захарыч двойчы ў дзень рабіў уколы, ставіў банькі, гарчычнікі, прымушаў піць таблеткі. Яна пераносіла ўсё пакорліва, не пярэчыла, не скардзілася. На сваю хваробу яна глядзела як на нешта абавязковае, непазбежнае, што папярэднічае смерці і прыходзіць да старога чалавека як напамін аб блізкім канцы, каб не так, не адразу праваліўся ён у небыццё, а адлучыўшыся на нейкі час ад зямной мітусні, лежачы ў адзіноце, падумаў, паразважаў над пражытым. Але гэта ёй ніяк не ўдавалася. Успаміны былі бязладнымі, размытымі. І яна зноў правальвалася ў мяккую і сырую цемень, а ачуняўшы, не магла зразумець, сон гэта быў ці забыццё...

Расплюшчыўшы вочы, часта бачыла каля сябе Вольгу. Тая зрэдку паліла ў печы (верасень толькі пачынаўся, а надвор'е было сырое, дажджлівае), прыносіла яду, паіла лекамі, але доўга каля маці не заседжвалася: трэба было і на работу паспець, і дома капаць бульбу.

Чакалі старэйшага сына Уліты, Аляксея, які працаваў у горадзе прарабам, меў кватэру, машыну, на якой і з'ехаў адпачываць на поўдзень. Раней, калі машыны не было, Аляксей з жонкай у адпачынак прыязджаў да маці. Але ўжо два гады не бачыла Уліта сына. З таго часу, як пахавалі бацьку.

— Вось прыедзе Лёша, няхай сам мяркуе, што з вамі рабіць,— казала Вольга. Не хочаце лячыцца ў нашай бальніцы, хай забірае ў горад. Усё ж там урачы не раўня нашаму Захарычу.

— Ты пісьмо Ляксею адправіла?

— А як жа! І пісьмо і тэлеграму... Толькі, думаю, не дужа яны будуць спяшаць з курорта...

Наведаў яе Павел. Як пачуў, што маці захварэла, адразу ж прыбег. Быў ён, як заўсёды, пад чаркай і затрымаўся даўжэй звычайнага. Хацелася яму, відаць, сказаць маці нешта добрае, душэўнае... Ён доўга шукаў патрэбныя словы і непрыкметна для сябе пачаў скардзіцца на прымацкі лёс. Уліта расчулілася і, выцягнуўшы з-пад падушкі завязаныя ў насоўку грошы, адлічыла яму тры рублі. Павел узяў грошы з годнасцю, моцна ціскануў схуднелую руку маці і пайшоў. А Уліта яшчэ доўга думала пра сына, думала, як памагчы яму. Можа б, лепей было, каб меў ён свой куток. Недарма людзі кажуць: «Прымачы — хлеб сабачы...» Трэба сказаць, каб перабіраўся ў сваю хату. Яна хоць і старая, але жыць можна. Падрамантуе... Ён жа ўсё умее рабіць: і цясляр, і сталяр (ад бацькі навучыўся), і па электрыцы разумее... Толькі не прыстаюць у яго

да работы рукі. Можа, гаспадаром сябе адчуе, дык зменіцца...

Але ўспамінаючы яго погляд, скіраваны некуды ўдалечыню, з адчаем прызнавалася сама сабе, што не хутка ўціхамірыцца яго душа, не гэтага шукае ён у жыцці... А што тады? Гэтыя сум і тугу заўважала ў яго вачах яшчэ ў дзяцінстве. Гэтак жа сумна глядзеў ён, апынуўшыся на лаве падсудных за бойку... А пасля вярбоўка аж за свет, няўдалая жаніцьба... А цяпер вось у прымакі прыстаў, піць пачаў... А можа, і раней піў?..

Ішлі дні, а Уліта не папраўлялася. Захарыч з кожным днём усё даўжэй праседжваў каля яе, гаманіў пра жыццё, расказваў вясковыя навіны.

Аднойчы Захарыч прынёс у хату два вялізныя яблыкі.

— Ну і яблыкі ў цябе, Анісімаўна! — яшчэ з парога выгукнуў ён.— Чыстае золата!

Гэта былі антонаўкі [redacted] самай маладой яблыні ў садзе, ярка-жоўтыя, з тонкім, смачным пахам.

— Усё сонца ў сябе ўвабралі,— захапляўся Захарыч.— А сакавітыя! Здаецца, ціскані — сок пырскне...

— Кіслыя яны шчэ,— слаба пярэчыла Уліта.— Ім яшчэ спець ды спець... Да пакроў правісяць...

І пацягнула яе пасля таго ў сад. Восень у гэтыя дні, як знарок, выплеснула ўсе свае фарбы.

Уліта аж зажмурылася [redacted] непрывычкі... А калі прыгледзелася, то заўважыла пад кустом парэчак бусліху. Тая ляжала, нязграбна адкінуўшы ўбок забінтаваную нагу. Успомніла, што яшчэ ў першыя дні яе хваробы Захарыч жартаваў, што ён і бусліху заадно лечыць...

У бусліхі была зламана нага. Захарыч умацаваў яе шынай і туга забінтаваў. Уліце зрабілася няёмка, што яна за сваёй хваробай забылася на птушку.

Убачыўшы жанчыну, птушка заварушылася, квола паднялася на ногі. Уліта наблізілася да яе, ласкава

пагладзіла бліскучыя пер'і. Птушка захісталася і ледзь не ўпала. Уліта падхапіла яе і здзівілася: бусліха была лёгкая, як пушынка.

— Як жа ты высахла, бедная,— паспачувала жанчына.— Няўжо гэтыя дні ніхто не пакарміў цябе?

Уліта вярнулася ў хату, вынесла хлеба і паспрабавала даць яго птушцы. Тая круціла галавой, не брала...

Яблыкі Уліта так і не паглядзела. З цяжкасцю даплялася да пасцелі і, не распранаючыся, лягла.

Пад вечар ёй пагоршала. Захарыч панура маўчаў, а Вольга бурчэла:

— І што ёй трэба было ў тым садзе?.. Птушкі век не бачыла, ці што? Думае, без яе дык і не накормяць. Кармілі! Што ёй толькі не давалі. І хлеб і кашу... Нават ялавічыну свежую дзед Архіп прыносіў. Дык і не глядзіць у той бок. Жаб ёй падавай!

— Трэба ёй жаб налавіць,— ціха, нібы сама сабе сказала Уліта.

— Счас! — раззлавалася Вольга.— Жаб мне толькі і не хапае...

— Птушка з гонарам,— загаманіў Захарыч.— Паміраць будзе з голаду, а што ён не даспадобы — не возьме. Толькі нядаўна пачала есці. Я хлопцаў арганізаваў, жаб налавілі...

— Відаць, на папраўку пайшло,— зазначыла Уліта.

Захарыч спахмурнеў, задумаўся...

— Птушкі ўжо ў вырай адлятаюць,— сказаў ён.— Хутка і нашы буслы паляцяць...

На вуліцу Уліта больш не выходзіла, але падоўгу сядзела каля акна: назірала за буслам.

Надвор'е змянілася. Ночы сталі халоднымі. Часта ішоў дождж, зацяжны, халодны...

Птушкі ляцелі на поўдзень. Трывожыліся і буслы. Пасля таго як навальніцай разбурыла гняздо, начавалі на дрэвах: на старой ліпе ці побач, на бярозах. Часта адзін з буслоў злятаў на зямлю, да бусліхі, рабіў некалькі кругоў над хатай, быццам запрашаў яе за сабой. Птушкі трывожыліся, але не адлятала...

Непакоілася і бусліха. Уліта бачыла, як іўрвецца яна ў неба. З вялікай цяжкасцю падымалася яна на ногі, шырока раскідвала крылы, рабіла некалькі крокаў і зняможана падала.

Кожны раз, гледзячы, як ляжыць яна з распасцёртымі на зямлі крыламі і адкінутай галавой, Уліта чакала канца.

Той дзень Уліта прачнулася позна. Ішоў дождж, верасянёўскі дзень праз заплаканыя шыбы выглядаў панура і непрыветліва. Уліта з цяжкасцю паднялася і паглядзела на тое месца, дзе звычайна сядзела бусліха.

Птушкі там не было. Не відно было паблізу і іншых буслоў.

«Паляцелі, пэўна, у вырай...— здагадалася жанчына.— А бусліха?..»

Мёртвую бусліху Уліта знайшла ў канцы пляца каля агароджы. Мокрая, з доўгай і худой, нібы абскубленай шыяй, яна мала чым нагадвала некалі дужую і ганарлівую птушку. Толькі вочы, чорныя і бліскучыя, здаваліся па-ранейшаму жывымі і засмучанымі.

У той жа дзень прыехаў Аляксей з жонкай. Абое загарэлыя, белазубыя, вясёлыя. Аляксей яшчэ з парога загаманіў гучна і бадзёра, упэўнены, што толькі так і трэба размаўляць з хворымі.

— Што гэта ты, маці, хварэць надумала?.. Нядобра, нядобра... Хіба ж так сына з нявесткай сустракаюць?.. Ану, давай, смаж нам яешню...

І, жартуючы, паграждаў ёй:

— Глядзі, ты ў нас асабліва не залежышся... Мы цябе ўміг на ногі паставім. Праўда, Надзюша?..— падміргваў ён жонцы.

І Уліта, падладжваючыся пад агульны настрой, усміхалася ім, слаба жартавала і рабіла выгляд, быццам і сапраўды здаровая.

Уліціна нявестка некалі вучылася на курсах медсясцёр і сама ўзялася лячыць свякрову. З'ездзіла ў горад, прывезла новых лекаў... Сама ставіла Уліце банькі і гарчычнікі. Яна рашуча запрацівілася, што ложак хворай стаіць у запечку, і загадала перанесці яго да акна. Рабіла яна ўсё лёгка, з задавальненнем, быццам гэта была для яе нейкая новая і захапляючая гульня. Толькі і чутна было:

— Лёша! Трэба вады гарачай для маці... Хуценька арганізуй!

— Оля! Дзе ў вас тут чыстыя прасціны, пасцель маці перасцяліць...

— Лёша, збегай да суседзяў, прас прынясі...

Вользе бурная дзейнасць нявесткі прыйшлася не дасподобы. Яна са злосцю шпурляла з куфра чыстую бялізну, сцяўшы вусны, перацягвала да акна ложак, памагала мыць і пераапранаць, лаючы нявестку, калі той не было паблізу.

— Бач ты яе, чысцюля знайшлася... Выгулялася на курортах, вылежалася, дык і шалее. Каб цябе заместа курортаў ды на сена! Пасушы, галубка, ды пацягай у копы... Ці на бульбу... Папоўзай ракам...

Дакарала і брата:

— Гэта ж цялё, а не мужчына! Цалюткі дзень круціцца каля жончынай спадніцы. Глядзець брыдка! Быццам толькі што пажаніліся...

Але Аляксей нібы і не чуў нічога, хаця пра яго Вольга гаварыла знарок гучна. Ён і ваду насіў, і па прас бегаў, і мыў, і прасаваў, і нават карміў маці. Але па-

гляд ягоны пры гэтым быў скіраваны ўбок, туды, дзе мільгала постаць маладой і прывабнай жонкі. І горкімі здаліся Уліце тыя прывезеныя з поўдня пачастункі.

Пад вечар нявестка ўціхамірылася, і Уліта, нарэшце, з палёгкай уздыхнула. Яна ляжала каля акна, памытая, пераапранутая... «Як нябожчыца»,— горка пакпіла яна з сябе. І знямогла заплюшчыла вочы. Але спаць не хацелася... Чакала, што падыдзе сын, пасядзіць побач, пагамоніць... Няўжо яму няма пра што пагаварыць з маці?..

На другі дзень ёй зноў пагоршала. У паўзабыцці яна аднекуль здалёку чула галасы дзяцей. У той дзень нявестка асабліва не дакучала ёй. Пагода праяснілася, і яна ўвесь час бавіла ў садзе. Аляксей не адставаў ад яе ні на крок.

На трэці дзень зноў пайшоў дождж. Нявестка засумавала. Паўдня моўчкі прасядзела каля акна, а потым нечакана пачала збірацца ў дарогу.

— Пабылі б яшчэ, водпуск жа не закончыўся...— незадаволена гаманіла Вольга.

— Дзіўная вы, Вольга,— насмешліва прыжмурыла вочы нявестка.— Вы думаеце, людзям у горадзе няма чаго рабіць... Толькі ў вас, у вёсцы, клопату хапае... А мы, між іншым, домработніцу таксама не трымаем. Месяц у кватэры не прыбіралася...

— Выходзіць, мне адной трэба хворую маці даглядаць? А вам у горад прыспічыла, чысціню ў кватэры наводзіць! А маці ж зусім слабая...

— Оля! Ну што ты, сапраўды, усхадзілася...— умяшаўся Аляксей.— Ты ж бачыш, мы з Надзюшай зрабілі ўсё, што змаглі. Застанемся мы тут ці паедзем, ад гэтага нічога не зменіцца... І наогул,— ён да шэпту панізіў голас,— невядома, колькі гэта працягнецца...

Уліта не чула гэтай размовы, але зразумела, што сын сабраўся ад'язджаць. Яна нічога не мела супраць, але яе здзівіла і спалохала, што сын можа вось так,

адразу, паехаць, не пачуўшы ад яе тых слоў, якія яна мелася сказаць яму. Яна акінула надзіва ясным позглядам сваю хату, убачыла дзяцей і захвалявалася. Зразумела, што той апошні час настаў... Зараз яна павінна сказаць дзецям тыя словы, не выказаўшы якія, цяжка было б ёй памерці, а ім жыць на гэтым свеце...

Яна прыўзнялася, гукнула дзяцей, але сама ледзь пачула свой голас. Тады Уліта нецярпліва замахала рукою...

Але спрэчка разгаралася...

— Яблыкі гніюць. Зноў жа мой клопат...— даказвала Вольга.

— Я магу завезці ў райзаг,— прапанаваў Павел.

— Ты завязеш! Завязеш ды і прап'еш да капейкі...— запярэчыла Вольга.

— Ну і прап'ю! А табе што?... Яблыкі ж не твае...

— Па яблыкі мы, канешне, будзем прыязджаць,— важка сказаў Аляксей.— Толькі на «Жыгулях» многа не забярэш... Добра б прыхаваць іх акуратненька на зіму... А там на рынак...

Уліта глядзела на дзяцей заплаканымі вачыма, і твары іх расплываліся, галасы цішэлі і прапалі зусім, Яна хацела зноў пазваць іх, ірванулася нават з пасцелі, хацела скінуць з сябе гэтае насланнё, але правалілася некуды ў бездань, сырую і халодную.

## Абразкі

### Горкая чаромха

Да дзяўчыны заляцаліся два хлопцы. Адзін вясёлы, жартаўнік, хоць і не надта прыгожы з твару і ростам малаваты. А другі прыгожы, ды маўчун.

Аднаго разу ў цёплы маёвы вечар, напоены водарам свежай маладой зеляніны, абодва прыйшлі на спатканне. Маўчун прынёс дзяўчыне букет чаромхі і сціпла прасядзеў увесь вечар на крайку лавачкі, а весялун цешыў дзяўчыну рознымі жартамі. Радасны смех дзяўчыны не сціхаў ні на хвіліну, сярэбраным званочкам пераліваўся. А букет чаромхі непатрэбным венікам валяўся на лаве.

Неўзабаве весялун пачуў недзе паблізу іншы дзявочы смех, музыку і песні і без асаблівага шкадавання пакінуў дзяўчыну на свайго саперніка.

Дзяўчына засумавала... Бяздумна адшчыквала яна лісцейка з букета, церабіла кветкі і ўсё паглядала яму ўслед.

— Чаму такая горкая чаромха? — рассеяна спыталася яна ў маўчуна, пакусваючы пахучую галінку.

— Таму што яе прынёс я,— сумна адказаў хлопец.

### Заступілася...

Старую Міхаліху крыўдзіла нявестка. Жаліцца яна хадзіла да сваёй суседкі Грыпіны. Расказвала, што нявестка панавязе з горада розных прысмакаў, а яе ніколі не пачастуе. Сама наесца, дзяцей накорміць і мужу пакіне, як застанецца што. А яе, свякрову, да стала

не пакліча. Сама Міхаліха купленае нявесткай не зачэпіць. Дастане з печы чыгунок з капустай, што сама наварыла, сёрбае, а слёзы ў міску капаюць. А яшчэ нявестка бялізну ёй не хоча мыць. Адкіне ўбок... І старая сама, нягнуткімі, як граблі, рукамі, абы-як, збольшага, пакамечыць у вадзе свае апраткі ды і развесіць сушыцца.

Грыпіна ўважліва выслухае старую, паспачувае ёй. Седзячы каля цёплай печы, яны добра перамыюць костачкі Міхаліхінай нявестцы. І ў старой як камень з душы спадзе... Задаволеная, з пасвятлелым тварам вяртаецца яна назад, у сваю сям'ю, каб і далей жыць як набяжыць...

Але ўзяла Грыпіна сабе кватарантку, маладую настаўніцу. Пачула тая незнарок, як скардзіцца старая Міхаліха на нявестку, і аж сэрца ў яе зайшлося ад абурэння. Сустрэла неяк маладзіцу і пачала сарамаціць! А тая спярша разгубілася... У вёсцы такое не любяць казаць у вочы. А потым раскрычалася так, што, пэўна, і старая Міхаліха пачула на печы.

— Разумная знайшлася...— крычала яна ў твар збянтэжанай настаўніцы.— А ты ідзі, пажыві з гэтай ведзьмаю!.. Ласункамі яе не кармлю, што з магазіна... А хай бы яна хоць раз мне рублік выкінула са сваёй пенсіі, як я ў той магазін збіраюся. Дык усё ў кулак цісне, а пасля дачушцы сваёй у горад возіць... Чаму ж яна жыць там не застанецца?.. Дык не, назад грабецца, да дрэннай нявесткі. А бялізну ейную не мыла і мыць не буду. Меней будзе языком мянціць па вёсцы, што няўмека, што дрэнна памыла...

З тае пары старая Міхаліха жаліцца да Грыпіны не ходзіць. А з настаўніцай пры сустрэчы не вітаецца. Толькі з вялікай крыўдай зірне ёй у вочы, адвернецца і пашкандыбае прэч...

Нейкая вельмі ўжо пастарэлая ў апошні час, згорбленая...

**Мужнасць** У праторнай, але старавата, недагледжанай сялянскай хаце зімою холадна. І таму апрача вялізнай рускай печы, што займае ўвесь кут каля дзвярэй, прыладзілі пасярод пакоя яшчэ бляшаную буржуйку. Яна раскалялася дачырвана...

Па хаце бегаюць малыя дзеці, і маці непакоіцца, каб яны не апякліся.

— От я вас... Толькі апячыся каторы... — час ад часу хапаецца яна за матузок.

І ўсё ж самы меншы апёкся...

Ён нікому пра гэта не сказаў, залез цішком на печ і доўга ляжаў там. Маці толькі раніцай убачыла на ручцы ў малога вадзяністыя пухіры.

— А мой жа ты маленькі... А мой дурненькі...— у роспачы прыгаворвала яна, цалуючы і гушкаючы дзіця.— А чаму ж ты не сказаў мне адразу?..

А ён, паверыўшы да канца, што маці не пакарае, ужо не тоячыся, выстаўляў перад сабой абмазаную гусіным тлушчам і абгорнутую белай марляй руку і квола ўсміхаўся. У яго вачах свяціліся гордасць і задаволенасць сабою.

**Падарунак сыну** На вучобе, далёка ад сям'і, я вельмі сумавала без сына. А калі ўжо зусім не ставала сіл, ішла ў дзіцячыя магазіны, доўга корпался там у цацках, выбіраючы яму падарунак. Пасля, да самага ад'езду, цешылася са сваёй пакупкі...

Падрастаў мой хлопчык, і ўсё цяжэй было здзівіць яго нейкай незвычайнай цацкай. Усё ў яго было, і пад канец вучобы я ўжо не ведала, што прывезці яму ў падарунак.

Так, у апошні дзень сесіі я выхадзіла ўдоўж і ўпо-

перак усе паверхі вялізнага магазіна і, сумная і расчараваная, вярталася да сябе ў інтэрнат.

І раптам па вуліцы Горкага ў вітрыне я ўбачыла тое, што адразу ж прывяло мяне ў захапленне.

Гэта быў кот у ботах. Боты былі са шпорамі, капялюш з пяром, за плячыма — плашч, а на поясе вісела шабля ў ножнах... І я зразумела, што ніколі ў жыцці мне не прыдумаць лепшага падарунка сыну.

Кот у ботах быў нашым любімым героем. Казка пра яго чыталася і перачытвалася ўжо некалькі год узапар. З пластыліну ляпіліся каты ў ботах, вялікія і маленькія, цэлы гурт, якія ваявалі паміж сабою, мірыліся і хадзілі адзін да аднаго ў госці. Малюнкі сынавы таксама адлюстроўвалі прыгоды ката ў ботах. Гэта былі шматсерыйныя малюнкі з працягам у наступным альбоме.

І на навагодняе свята ў дзіцячы садзік мы, вядома ж, майстравалі касцюм ката ў ботах. Мне ніяк не даваліся шырокія халявы чароўных ботаў, а сыну вершык пра ката. Ён задзірыста выкрыкваў першы радок: «Я хітры кот, разумны кот...» А далей верш не складваўся...

Я ўспомніла і няхітрыя словы вершыка, і любы мне тварык сына з намаляванымі чорным фламастэрам (вугельчыка пад рукой не аказалася) вусамі, у бацькавым капелюшы з пышнымі пер'ямі, і яшчэ раз агледзела ката на вітрыне.

Але ў магазіне мяне чакала горкае расчараванне. Катоў у продажы не было. Стаялі толькі на вітрыне. Я некалькі разоў намагалася растлумачыць маладзенькай прадаўшчыцы пра сваю патрэбу, але мяне адпіхвалі ад прылаўка, тапталіся па нагах, лезлі праз галаў з чэкамі. А маладзенькая прадаўшчыца паміж кожнай маёй просьбай паспявала абслужыць некалькі пакупнікоў.

Нарэшце яна ўзлавалася.

— Я вам дзесяты раз кажу — цацкі з вітрыны не прадаюцца. Купіце лепш зайца з барабанам...

Адміністратар выслухала мяне больш уважліва. Але прадаць цацку з вітрыны адмовілася. Яна вельмі спяшалася і, зычліва ўсміхаючыся, на хаду кінула звыклае:

— Зайдзіце ў канцы квартала...

Я з сумам падумала, што адміністратар, відаць, праслухала мяне не вельмі ўважліва, раз нічоге не зразумела з майго апавядання пра сына. І пачала ўсё спачатку...

Усяго праз паўгадзіны я выходзіла з магазіна шчаслівая, як ніколі. Пад пахай несла, закручанага ў фірменную паперу, ката ў ботах.

Мая цудоўная пакупка абышла як не ўсе пакоі інтэрната. Мае сябры, студэнты-завочнікі, людзі амаль усе сямейныя, у якіх дома засталіся дзеці, перадавалі бравага ката з рук у рукі, і вочы іх напаўняліся глыбокім сумам і пяшчотай...

Дома сын з цёплай усмешкай паглядзеў на мой падарунак, быццам сустрэўся з старым знаёмым. А праз якую хвіліну кот стаяў у крыўднай адзіноце, а сын корпаўся ў нейкіх жалезках.

— Мама, а праўда, што бывае метэарытны дождж?.. Петрусёк кажа, што гэта кавалак метэарыта, які зваліўся на зямлю...

І паказаў мне невялічкі цьмяны кавалачак волава.

Мой сын вырас, а я і не заўважыла гэтага...

## ЗМЕСТ

**Філіповіч М.**

Ф 53 Мадонна з Выселкаў: Апавяданні.— Мн.: Маст. літ., 1984.— 143 с.— (Першая кніга празаіка).

40 к.

Апавяданні, якія ўвайшлі ў зборнік, прысвечаны людзям горада і вёскі. Перад чытачом паўстаюць цікавыя, жывыя вобразы нашых сучаснікаў. Творы вызначаюцца глыбокім веданнем жыцця.

Ф $\frac{4702120200-143}{\text{М } 302(05)-84}$ 42—84

ББК 84Бел7
Бел2

Первая книга прозаика

Мария Константиновна Филиппович

МАДОННА ИЗ ВЫСЕЛОК
Рассказы

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар І. І. Канановіч. Мастак А. З. Кісель. Мастацкі рэдактар М. Я. Янчук. Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч. Карэктар Я. Ф. Харко.

ІБ № 1882

Здадзена ў набор 08.02.84. Падп. да друку 05.09.84. АТ 06617. Фармат 70×100[1]/32. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 5,81. Ум. фарб.-адб. 5,97. Ул.-выд. арк. 6,18. Тыраж 6000 экз. Зак. 144. Цана 40 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

40 к.



Марыя Канстанцінаўна Філіповіч нарадзілася ў вёсцы Смётанка Аршанскага раёна Віцебскай вобласці ў сялянскай сям'і. Скончыла Магілёўскае медыцынскае вучылішча і доўгі час працавала фельчарам. У 1974 годзе паступіла ў Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага і скончыла яго. Зараз жыве і працуе ў Оршы.